Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.



# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР

4 ЖНІУНЯ 1928 г.
№ 8 (51).

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ.

ВЫДАНЬНЕ КІРАЎНІЦТВА
СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ
НАРАДЫ БССР
Менск—1928 г.

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР.

4 ЖНІУНЯ 1928 г.

№ 8 (51).

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ.

ВЫДАНЬНЕ КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
Менск—1928 г.

# ЗЬМЕСТ

Стар.

1. Палажэньне, выданае Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР, пра замацаваньне лесасек у лясох дзяржаўнага значэньня ў доўгатэрміновае карыстаньне за асноўнымі лесазагатоўшчыкамі. . 5

2. Тыповы статут сельска-гаспадарчай арцелі, зацьверджаны Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР 11 чэрвеня 1928 г. . 8

3. Тыповы статут сельска-гаспадарчай камуны, зацьверджаны Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР 11 чэрвеня 1928. . . 17

4. Тыповы статут таварыства, грамадзкай апрацоўкі зямлі, зацьверджаны Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР 26

5. Тыповы статут малочнага таварыства, зацьверджаны Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР 33

6. Тыповы статут пасялковага вытворча-капэрацыйнага таварыства, зацьверджаны Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР 46

7. Пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР пра мерапрыемствы для палепшаньня справы грамадзкага харчаваньня. . 52

8. Таксы на аплату работ па дэтальным дасьледваньні торпавых балот для адводу і скарыстаньня іх для распрацовак торпу на апал, зацьверджаныя Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР 53

9. Пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР пра адлічэньні на навукова-дасьледчыя, спробныя і агранамічныя работы з прамысловых прадпрыемстваў, што перaапрацоўваюць сельскагаспадарчы сырэц . . . . . . . . 56

10. Інструкцыя НК Унутраных Спраў БССР пра парадак выкананьня домакіраўніцтвамі адміністрацыйных абавязкаў, ускладзеных на іх пастановаю СНК БССР за 15/VI—1927 г. (З. З. БССР № 31 1927 г. арт. 155). . . . . . . . 57

11. Палажэньне пра транспартны вэтэрынарна-санітарны вучастак БССР, выданае Народнымі Камісарыятамі Земляробства і Унутраных Спраў БССР і Упаўнаважаным НК Шляхоў пры СНК БССР . . . . . . . 58

12. Пастанова НК Гандлю БССР пра ўстанаўленьне гранічнай натуральнай памольнай платы (збожжам) за пераапрацоўку на дзяржаўных, капэрацыйных і прыватных млынох і крупадзерках збожжа сялянскіх і іншых прыватных памольцаў . . 62

13. Абежнік Н. К. Фінансаў БССР. Пра парадак залічэньня ў рэсурсы скарбу астач нескарыстанай заработнай платы па дзяржаўным бюджэце на 1927/28 г. . . . . . . . 64

## 1. Палажэньне, выданае Эканамічнай Нарадай БССР,

ПРА ЗАМАЦАВАНЬНЕ ЛЕСАСЕК У ЛЯСОХ ДЗЯРЖАЎНАГА ЗНАЧЭНЬНЯ Ў ДОЎГАТЭРМІНОВАЕ КАРЫСТАНЬНЕ ЗА АСНОЎНЫМІ ЛЕСАЗАГАТОЎШЧЫКАМІ.

1. Лесасекі ў доўгатэрміновае карыстаньне за асноўнымі лесазагатоўшчыкамі замацоўваюцца для забясьпечаньня загатоўленымі ляснымі сартымэнтамі прадпрыемстваў дрэваапрацоўчай прамысловасьці, уключанай у зацьверджаную Дзяржаўнаю Плянаваю Камісіяю сетку.

2. Замацоўваюцца ў першую чаргу тыя лясныя дачы, якія беспасрэдна мяжуюць гужавою возкаю і сплаўнымі шляхамі з прадпрыемствамі дрэваапрацоўчай прамысловасьці, і ў другую чаргу—тыя, якія зьвязаны чыгункаю з імі.

3. Сьпіс лясных дач, з якіх загатоўленая лесапрадукцыя абавязкова ідзе для забясьпечаньня прадпрыемстваў дрэваапрацоўчай прамысловасьці, устанаўляецца Народным Камісарыятам Земляробства пасьля ўзгадненьня з асноўнымі лесазагатоўшчыкамі, а калі ёсьць рагнагалосьсі, то падаецца на зацьверджаньне Эканамічнай Нарады.

4. Замацоўваюцца ў паказаных у § 3-м лясных дачах за асноўнымі лесазагатоўшчымі і чарговыя лесасекі і астачы і недарубы лесасек ранейшых гадоў, а таксама і перастойныя дрэвы, апроч тых лесасек, якія пакідаюцца паводле сьпісу Народнага Камісарыяту Земляробства, зацьверджанага Эканамічнаю Нарадаю, для задаволеньня патрэб насельніцтва, прычым лесазагатоўшчык ня мае права выбіраць лесасек.

> *Увага 1.* Калі ў тых лясных дачах, у якіх замацоўваюцца лесасекі, ёсьць лес на вучастках, што перадаецца ў зямельны фонд, то лес з гэтых вучасткаў таксама замацоўваецца за асноўнымі лесазагатоўшчыкамі.
>
> *Увага 2.* Лесасекі ў лясных дачах спэцыяльнага прызначэньня: абаронных дзяржаўных забароньніках, перададзеных Ляснаму Факультэту Горацкай Акадэміі, Дасьледчаму Інстытуту ім. Леніна і Цэнтральнай Ляснай Дасьледчай Станцыі, Ляснаму Тэхнікуму і ваеннаму ведамству, замацоўвацца ня могуць.

5. Асноўныя лесазагатоўшчыкі, за якімі замацаваны лесасекі ў тых ці іншых лясных дачах, ня маюць права ўмешвацца ў дзейнасьць лясных органаў у справе вядзеньня ляснай гаспадаркі і правядзеньня розных мерапрыемстваў.

6. Для таго, каб вытворчыя праграмы прадпрыемстваў былі ўвязаны з фактычнай магчымасьцю атрыманьня драўнянага сырцу, які можа даць для іх лясная гаспадарка, Лясны Аддзел Народнага Камісарыяту Земляробства, пасьля ўзгадненьня з лесазагатоўшчыкамі, падае ў Дзяржаўную Плянавую Камісію зьвесткі аб прыблі-

най колькасьці сырцу, якую можа даць для прамысловасьці лясная гаспадарка пасьля задаваленьня патрэб мясцовага насельніцтва.

7. За асноўнымі лесазагатоўшчыкамі можа быць замацавана тая колькасьць лясных дач, у якіх гадовы водпуск драўніны, прызначаный для прадпрыемстваў, не перавышае вытворчай, зацьверджанай Дзяржаўнаю Плянаваю Камісіяю, праграмы тых прадпрыемстваў, якія павінны забясьпечвацца з гэтых лясных дач.

8. Асноўныя лесазагатоўшчыкі, за якімі замацоўваюцца лесасекі, для рацыяналізацыі і зьмяншэньня кошту распрацовак і лепшай эксплёатацыі лясоў, павінны правесьці ў лясных дачах за свой кошт патрэбныя мерапрыемствы, што дапамагаюць палепшаньню тэхнікі лесаэксплёатацыі і рацыянальнай распрацоўкі ўсяе адпушчанай драўніны.

Да такіх мерапрыемстваў належаць: будаваньне лесавозных чыгунак і вузкакалеяк, будаваньне і рамонт старых сплаўных каналаў, расчыстка і паглыбленьне рэк і рэчак, прызначаных для сплаву, пракладка новых і рамонт старых грунтавых і падвесных лесавозных дарог і шосаў і ўжываньне аўтарухавікоў.

Усе пералічаныя мерапрыемствы праводзяцца на падставе спэцыяльных паміж Народным Камісарыятам Земляробства і лесазагатоўшчыкамі ўгод, у якіх прадугледжваюцца ўмовы будаваньня, эксплёатацыі і ліквідацыі гэтых мерапрыемстваў.

9. Лесасекі ў лясных дачах замацоўваюцца наогул ня менш, чымся на 5 гадоў. Калі-ж асноўныя лесазаготоўшчыкі мяркуюць ў замацаваных лясных дачах зрабіць за свой кошт капітальныя пабудовы на вялікія грашовыя сродкі, то Лясному Аддзелу Народнага Камісарыяту Земляробства даецца права замацоўваць лесасекі ў пасобных лясных дачах на тэрмін да 10 гадоў.

10. Асноўныя лесазагатоўшчыкі, якія жадаюць замацаваць за сабой лесасекі ў тых ці іншых лясных дачах, уключаных у сьпіс Народнага Камісарыяту Земляробства (§ 3), павінны падаць у Лясны Аддзел Народнага Камісарыяту Земляробства заяўкі.

У гэтых заяўках павінна быць паказана:

а) для якіх прадпрыемстваў пажадана замацаваць лесасекі;

б) яго вытворчая праграма, зацьверджаная ўстаноўленым парадкам на 1927-28 г.;

в) якія лясныя дачы пажадана замацаваць з ліку ўнесеных у сьпіс Народнага Камісарыяту Земляробства;

г) на які тэрмін пажадана замацаваць;

д) якія мерапрыемствы мяркуе ён зрабіць (§ 8).

11. Пасьля разгляду заявак Лясным Аддзелам Народнага Камісарыяту Земляробства, замацаваньне робіцца Народным Камісарыятам Земляробства і зацьвярджаецца Эканамічнаю Нарадаю.

12. Асноўныя лесазагатоўшчыкі павінны на працягу двух тыдняў з моманту зацьверджаньня Эканамічнаю Нарадаю замацаваньня заключыць з акруговым зямельным аддзелам угоду на замацаваньне за імі лесасек у лясных дачах і ўнесьці для забясьпечаньня выкананьня ўгоды і дагавораў заставу ў разьмеры 10 проц. прыблізнага кошту штогадовай лесасекі, што мяркуецца да замацаваньня. Гэтая застава пакідаецца на ўвесь час дзеяньня ўгоды.

У ўгодзе павінна быць паказана:

а) у якіх лясьніцтвах і якіх дачах замацоўваюцца лесасекі, закім і на які тэрмін;

б) што замацоўваецца гадовая лесасека, прадугледжаная пля-

намі лясной гаспадаркі, апроч тае колькасьці драўніны, якая патрэбна для задаволеньня мясцовага насельніцтва;

в) якія мерапрыемствы (§ 8) асноўны загатоўшчык павінен зрабіць за свой кошт кожны год і на якую суму;

г) вынікі невыкананьня ўгоды.

13. Калі ня будзе заключана ўгода з акруговым зямельным адзелам ва ўстаноўлены тэрмін, а таксама, калі ня будзе жадаючых замацаваць за сабой лесасекі ў лясных дачах, уключаных у сьпіс Народнага Камісарыяту Земляробства (§ 3), то лесасекі ў гэтых дачах лічацца вольнымі і драўніна з іх адпушчаецца на агульных падставах.

14. Штогод асноўныя лесазагатоўшчыкі, не пазьней 1 кастрычніка, павінны заключаць з лясьнічымі дагаворы на ўсе лесасекі, дадзеныя ім ў лясных дачах, памянёных ва ўгодзе, бяз права адмаўленьня ад якіх-небудзь асобных дзелянак, і выбіраць устаноўлены лесасечны білет.

15. Ацэнка замацаваных лесасек робіцца на агульных падставах, устаноўленых для дзяржаўных прадпрыемстваў.

16. Да падпісаньня з лясьнічым дагавору, асноўны лесазагатоўшчык мае права праверыць пералік і ацэнку лесасек паводле арт. 14 пастановы Эканамічнай Нарады за 14 чэрвеня 1927 г. Калі будзе разыходжаньне ў пераліку па масе болей, як на 10%, то па заяве лесазагатоўшчыка па данаму лясьніцтву, ня менш, як за месяц да часу заключэньня дагавору, лясьнічы павінен зрабіць праверачны пералік на працягу тыдня, і калі заява не пацьвердзіцца, то асноўны загатоўшчык павінен зьвярнуць лясьніцтву ўсе выдаткі, зьвязаныя з праверкаю пераліку і ацэнка ў гэтым выпадку не зьмяняецца, у адваротным выпадку лясьнічы робіць новую пераацэнку паводле новага пераліку.

17. Плату ад пня і зьвязаны з ёю падатак на драўніну, заставы для забясьпечаньня правільнасьці вядзеньня апрацый, суму на ачыстку месц рубкі і інш. уносіць асноўны лесазагатоўшчык, за якім замацаваны лесасекі і заключаны дагаворы.

18. Распрацоўваць замацаваныя лесасекі можа толькі той асноўны лесазагатоўшчык, за якім яны замацаваны, пры чым з палепшанаю сыстэмаю (насенна-лесасечныя, выбарачна-лесасечныя, Вагнераўская, Карнакоўская і інш.) лесасекі, таксама распрацоўваюцца лесазагатоўшчыкам пад наглядам лясьнічага.

19. Драўніна, якая вырубаецца Лесзагам Народнага Камісарыяту Земляробства ў парадку мер догляду за лесам у замацаваных лясных дачах, апроч часткі яе, патрэбнай для задаволеньня лясных складаў Народнага Камісарыяту Земляробства і сельскага насельніцтва, перадаецца ў распрацаваным відзе тым прадпрыемствам, для патрэб якіх былі замацаваны лесасекі, па цэнах, ўстаноўленых Народным Камісарыятам Гандлю.

20. Асноўны лесазагатоўшчык, за якім замацаваны лесасекі, ня можа перадаваць сваіх праў па іх іншаму асноўному лесазагатоўшчыку ці якому-небудзь прадпрыемству, і толькі ў выключных выпадках перадача дазваляецца Народным Камісарыятам Земляробства пасьля зацьверджаньня Эканамічнай Нарадай.

21. Замацаваныя для патрэб паасобных прадпрыемстваў лесасекі павінны быць распрацаваны на драўніну, прызначаную выключна для загрузкі гэтых прадпрыемстваў.

Перавозка гэтай драўніны для перапрацоўкі ў іншых прадпрыемствах забараняецца.

22. Мясцовыя патрэбы ў раёнах замацаваньня лесасек задавольваюцца ў агульным парадку паводле зацьверджаных плянаў.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР
**М. Карклін.**

Нам. Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР
**В. Крывіцкі.**

10-га мая 1928 г.

---

Зацьверджаны Эканамічн. Нарадай пры Савеце Народных Камісараў БССР 11 чэрвеня 1928 г.

## 2. Тыповы статут сельска-гаспадарчай арцелі.

### I. Мэты і правы арцелі.

1. На падставе існуючых законаў аб працоўным землякарыстаньні і сельска-гаспадарчай капярацыі ўтвараецца сельска-гаспадарчая арцель з назваю ................................................

................................................................................

Арцель дзейнічае ў раёне вёскі (паселішча) ..............................

.............................. раёну, .............................. акругі БССР.

Зямельная плошча арцелі складаецца ..............................

Савет арцелі знаходзіцца ў ..............................

2. Арцель мае на мэце арганізоўваць і весьці на агульным зямельным вучастку арцелі супольнаю працаю і сродкамі сваіх членаў удасканаленую сельскую гаспадарку.

3. Для дасягненьня паказанай мэты, арцель мае права:

а) карыстацца на праве працоўнага калектыўнага землякарыстаньня рознымі ўжыткамі і ўжываць захады да іх земляўпарадкаваньня ў парадку, устаноўленым Зямельным Кодэксам;

б) рабіць розныя палепшаньні глебы (мэліарацыя): абвадненьне, абсушку балот, аблясеньне і інш;

в) набываць для патрэб арцелі патрэбныя сродкі вытворчасьці (сельска-гаспадарчыя машыны, прылады, жывёлу, насеньне, угнаеньне і інш.);

г) арганізоўваць пракатныя, злучныя, насеньня-абчышчальныя і інш. пункты;

д) арганізоўваць збыт прадуктаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці арцелі;

е) набываць, арганізоўваць, наймаць і скарыстоўваць прадпрыемствы для апрацоўкі і пераапрацоўкі сельска-гаспадарчых прадуктаў і сырцу (млыны, крупадзёркі, маслабойкі і інш.), арганізоўваць майстэрні для рамонту сельска-гаспадарчых машын;

ж) ставіць пабудовы і арганізоўваць абсталяваньні для атрыманьня і ўжываньня электрычнасьці ў сельскай гаспадарцы і хатнім ужытку;

з) рабіць дасьледчыя і паказальныя палі, сады, гароды, заводзкія і насенныя расаднікі, сядзібы і інш.

і) рабіць гаспадарчую і іншую дапамогу членам арцелі;

к) арганізоўваць касы ўзаемадапамогі на выпадак сьмерці, хваробы, пажару і інш. навальных бядот;

л) арганізоўваць разам з навакольным насельніцтвам машынныя, насеннаводныя, мэліарацыйныя і інш. таварыствы і арцелі;

м) пашыраць, пад кантролем мясцовых органаў НК Земляробства і НК Асьветы, веды па сельскай гаспадарцы і капярацыі, арганізоўваючы лекцыі, гутаркі, школы і інш.;

н) ужываць іншыя захады да палепшаньня і павялічэньня вытворчасьці і даходнасьці гаспадаркі арцелі.

4. Арцель карыстаецца ўсімі правамі юрыдычнай асобы і можа, ў адпаведнасьці з задачамі арцелі, заключаць усякія дагаворы і ўгоды, выдаваць, атрымоўваць і дыскантаваць вэксалі і прававацца на судзе.

5. Арцель мае права на падставе пастановы агульнага сходу ўваходзіць членам у сельска-гаспадарчыя капэрацыйныя аб'яднаньні і інш. грамадзкія арганізацыі, мэты якіх адпавядаюць задачам арцелі.

6. Абавязнасьці арцелі забясьпечваюцца ўсёю маемасьцю арцелі, а таксама дадатковаю адказнасьцю членаў яе паводле § 11 статуту.

7. Арцель мае пячатку з паказаньнем свае назвы.

## II. Склад арцелі, правы і абавязкі яе членаў.

8. Членамі арцелі могуць быць усе поўналетнія працоўныя, якія займаюцца, а таксама распачынаюць займацца сельскаю гаспадаркаю, альбо зьвязанымі з ёю промысламі.

Пастановаю агульнага сходу ў члены арцелі могуць прымацца грамадзяне ад 16 гадоў.

*Увага 1.* Членамі арцелі ня могуць быць асобы, што маюць гандлёвыя прадпрыемствы, а таксама асобы, што ўваходзяць членамі ў іншыя сельска-гаспадарчыя калектывы.

*Увага 2.* Членамі арцелі лічацца ня толькі гаспадар сям'і, але і ўсе паўналетнія працаздольныя члены яе.

9. Кожны член арцелі мае права: а) удзельнічаць на агульных сходах, карыстаючыся на гэтых толькі адным пастаноўчым голасам, без права перадачы;

б) падаваць у савет заявы па справах арцелі і патрабаваць іх разгляду;

в) карыстацца дапамогаю арцелі паводле устаноўленых агульным сходам правіл. Кожны 18-ці гадовы член арцелі можа быць выбраны ў органы арцелі.

10. Кожны член арцелі павінен удзельнічаць у агульных працах арцелі асабістаю працаю ў парадку, устаноўленым статутам арцелі, выконваць статут арцелі, пастановы агульнага сходу і правілы ўнутранага парадку арцелі.

11. Кожны член арцелі разам з іншымі яе членамі нясе па абавязанасьцях арцелі дадатковую адказнасьць сваею маемасьцю, якая, аднак, ня можа перавышаць павялічанага ў .................. раз кошту пая. Дадатковая адказнасьць надыходзіць у выпадку немаемнасьці, ліквідацыі арцелі і ў выпадку, прадугледжаным у § 39 статуту.

## III. Парадак і ўмовы прыйманьня, выхаду і выключэньня членаў арцелі.

12. Члены ў арцель прымаюцца агульным сходам паводле § 47 статуту.

13. Асоба, якая ўваходзіць у члены арцелі павінна падаць аб гэтым пісьмовую заяву ў савет арцелі; прынятая асоба павінна заплаціць безвваротны ўступны ўнос у разьмеры.................руб. і ўнесьці пай у суме.....................руб.

*Увага* 1. Паявыя ўносы ўстанаўляюцца ў разьмерах, патрэбных для вядзеньня супольнай гаспадаркі.

*Увага* 2. Паявы ўнос можа з дазволу савету арцелі ўносіцца ня толькі грашмі, але і маемасьцю, прычым пастановаю агульнага сходу могуць быць устаноўлены раты для выплаты ўносу.

14. Члены арцелі па згодзе з саветам могуць уносіць маемасьць больш устаноўленага паявога ўносу ў якасьці тэрміновага альбо безтэрміновага ўкладу за вызначаную аплату з прыбыткаў арцелі, але ня больш процантаў, як за ўклады ў мясцовае крэдытнае т-ва.

Уклады з налічэньнем процантаў бываюць: безтэрміновыя—па запатрабаваньні ўкладчыка, але ў тэрміны, ўстаноўленыя правіламі ўнутранага парадку арцелі, пры выхадзе альбо выключэньні членаў; тэрміновыя—пасьля сканчэньня тэрмінаў.

15. Член арцелі нясе адказнасьць і за тыя абавязнасьці, якія ўзьнікалі да яго ўваходу ў арцель.

16. Кожны член арцелі мае права выйсьці з арцелі, падаўшы аб гэтым пісьмовую заяву.

17. Член арцелі, які не выконвае сваіх абавязкаў перад арцельлю, ухіляецца ад працы, нарушае статут, ня выконвае пастаноў агульнага сходу і, наогул, дзейнічае на шкоду арцелі, можа пастановаю агульнага сходу быць выключан з арцелі.

18. З кожным выбыўшым і выключаным членам робіцца разрахунак за патрачаную ім у год выбыцьця і не аплачаную працу для супольнай гаспадаркі арцелі паводле правіл, устаноўленых агульным сходам арцелі.

Выйшаўшы або выключаны член арцелі мае права атрымаць свае паявыя ўносы, апроч часткі, якою папаўняецца прыпадаючая на яго долю страта арцелі, вызначаная пад канец гаспадарчага году.

Канчатковы разрахунак з выйшаўшымі членамі робіцца арцельлю на працягу месяца пасьля зацьверджаньня агульным сходам гадовай справаздачы за год выхаду.

19. Выйшаўшыя альбо выключаныя члены арцелі адказваюць у парадку дадатковай адказнасьці (§ 6) па абавязнасьцях арцелі, якія ўзьніклі да іх выйсьця, да канца данага аперацыйнага году, а калі член выйшаў у другой палавіне аперацыйнага году, то адказнасьць працягваецца да канца наступнага аперацыйнага году.

20. Дабравольна выйшаўшыя і выключаныя члены арцелі маюць права патрабаваць выдзялу зямлі толькі тады, калі ім ня будзе адведзена зямля з запаснага фонду і калі можна зрабіць выдзял без парушэньня правільнага севазвароту, існуючага ў арцелі.

*Увага.* Зямельныя ўжыткі арцелі, атрыманыя з дзяржаўнай зямельнай маемасьці і калёнізацыйнага фонду, пры выхадзе члена арцелі не выдзяляюцца.

## IV. Сродкі арцелі.

21. Сродкі арцелі складаюцца з уносаў членаў, даходаў ад гаспадарчых апярацый, пазычак і інш. крыніц.

22. Сродкі арцелі падзяляюцца на капіталы: асноўны (падзельны і непадзельны), запасны і асобныя (спэцыяльныя).

23. Асноўны капітал складаецца з уступных і паявых уносаў членаў, з адлічэньняў ад прыбыткаў пастановамі агульнага сходу, доўгатэрміновых пазык ад арганізацый і ўстаноў з спэцыяльным прызначэньнем у асноўны капітал і іншых паступленьняў.

24. Каб узмоцніць аграмаджаныя сродкі арцелі і зрабіць больш трывалаю арцель, утвараецца ў складзе асноўнага капіталу спэцыяльны непадзельны капітал. У гэты капітал ідуць: а) дзяржаўныя сродкі (дзяржаўная маемасьць, атрыманая арцельлю, як бестэрміновая і беспроцантавая пазычка, скідкі сельска-гаспадарчага падатку, крэдыты ў асноўны капітал, прэміі); б) рэшты ўступных уносаў членаў, якія асталіся пасьля выдаткаў на арганізацыю арцелі; в) штогадовыя адлічэньні з умоўна чыстага прыбытку арцелі, у разьмеры ня менш 3 проц.; з апошніх.......................% адлічаецца ў фонд на разьвіцьцё калектыўнага земляробства.

Непадзельны капітал арцелі знаходзіцца ў гаспадарчых затратах, у асноўным, а таксама і ў зваротным капіталах арцелі. Пры ліквідацыі арцелі непадзельны капітал ня дзеліцца паміж членамі, а ідзе ў фонд на разьвіцьцё калектыўнага земляробства.

*Увага*. Атрыманая арцельлю дзяржаўная маемасьць (будынкі, інвэнтар, прамысловыя і тэхнічныя прадпрыемствы і інш.) залічаецца ў непадзельны капітал па ацэнцы ў момант перадачы.

25. Для папаўненьня страт арцелі складаецца запасны капітал, у які адлічаецца з умоўна-чыстага даходу арцелі ня менш 3 проц. Калі запасны капітал зраўняецца з паявою часткаю асноўнага капіталу, то далейшыя адлічэньні ў запасны капітал з прыбыткаў могуць быць спынены пастановаю агульнага сходу.

Агульны сход вызначае спосаб зьмяшчэньня запаснага капіталу, які-б забясьпечваў яго цэласьць і бесперашкодную рэалізацыю.

26. Арцель можа складаць таксама спэцыяльныя капіталы, прызначаныя для вядзеньня спэцыяльных апярацый арцелі (мэліарацыйныя работы і іншыя). Гэтыя капіталы складаюцца і расходваюцца асобнымі пастановамі агульнага сходу.

27. Апроч таго складаецца амартызацыйны фонд з штогадовых адлічэньняў з агульных прыбыткаў гаспадаркі ў разьмеры часткі маемасьці, што знашваецца (будынкі, мёртвы інвэнтар, мэліарацыя, садовыя насадкі і інш.).

Амартызацыйны фонд расходваецца на замену ці капітальны рамонт зношанай маемасьці пастановаю агульнага сходу. Амартызацыйны фонд можа знаходзіцца ў гаспадарцы арцелі ў форме такіх запасаў (прадуктаў і матар'ялаў), якія, калі гэта трэба, маглі-б быць рэалізаваны бяз шкоды гаспадарчай дзейнасьці арцелі, альбо захоўвацца на бягучым рахунку, альбо ўкладах у крэдытных установах.

28. Для ўзмацненьня сваіх сродкаў арцель можа рабіць пазычкі ў каперацыйных арганізацыях, дзяржаўных і інш. утановах. Пазычкі робяцца саветам арцелі ў разьмерах і на ўмовах, устаноўленых агульным сходам.

29. На пай, таксама і на іншыя сродкі арцелі, ня могуць быць накіраваны спагнаньні па абавязнасьцях і даўгох асобных членаў арцелі,

а таксама па накіраваных да іх бясспрэчных і адміністрацыйных патрабаваньнях.

## V. Арганізацыя гаспадаркі арцелі.

30. Гаспадарка арцелі вядзецца паводле арганізацыйна-гаспадарчага пляну, складзенага на некалькі гадоў, і паводле штогадовага вытворчага пляну, зацьверджанага агульным сходам.

31. Усе работы ў гаспадарцы арцелі вядуцца супольна асабістаю працаю яе членаў, паводле правіл аб вядзеньні работы, устаноўленых агульным сходам.

Браць на работу ў арцель пабочных асоб дазваляецца толькі ў выключных выпадках, калі ў арцелі не хапае рабочай сілы на выкананьне неадкладных гаспадарчых работ (прыбіраньне сена, збожжа, малацьба, полка і інш.). Апроч таго, арцель можа запрашаць для сталай і часовай працы спэцыялістаў па сельскай гаспадарцы, рахункаводзтву і інш. асоб з спэцыяльнымі ведамі, патрэбнымі для арцелі.

32. Работа ў арцелі вядзецца інвэнтаром арцелі, а таксма і асобных яе членаў. Парадак і ўмовы карыстаньня для арцельных работ інвэнтаром членаў і агульным арцельным вызначаецца агульным сходам.

33. Сельска-гаспадарчыя работы разьмяркоўваюцца паміж працаздольнымі членамі арцелі і членамі іх сем'яў, паводле нарадаў савету, альбо асобна вызначанаю саветам асобаю.

34. Ні адзін член арцелі, у тым ліку і тыя, што займаюць выбарныя пасады, ня маюць права адмаўляцца ад фізычнай працы. Ад працы яны могуць звальняцца толькі пастановаю савету, паводле правіл, зацьверджаных агульным сходам.

35. За наўмыснае псаваньне інвэнтару альбо за псаваньне яго з прычыны нядбайнага карыстаньня ім, нявыхад на працу бяз важных прычын, за відавочна недобраякаснае выкананьне даручаных работ і наогул за нарушэньне працоўнага рэжыму агульны сход можа патрэбаваць ад члена арцелі сплаты страт, а калі паводзіны члена арцелі перашкаджаюць нармальнаму разьвіцьцю і працы арцелі—выключаць яго з арцелі.

36. Савет арцелі павінен дакладна падлічаць працу кожнага члена і члена яго сям'і ў гаспадарцы арцелі.

## VI. Парадак разьмеркаваньня вынікаў гаспадаркі.

37. Вынікі гаспадаркі арцелі (умоўна-чысты даход), атрыманыя паводле гадавой справаздачы, апроч вылічэньня з агульных даходаў усіх расходаў (апроч заработнай платы членам) і амартызацыйных адлічэньняў і выдаткаў на ўтрыманьне агранома для каляктыўных гаспадарак, разьмяркоўваюцца наступным парадкам:

Адлічаецца ў асноўны капітал: а) падзельны ад 2 да 7 проц; б) непадзельны ня менш 3 проц., запасны ня менш 3 проц., спэцыяльны: а) на мэліярацыю .................. %; б) культурна-асьветныя патрэбы .................. % і г. д.

Частка ўмоўна-чыстага даходу, якая асталася пасьля паказаных вышэй адлічэньняў, разьмяркоўваецца паміж членамі арцелі прапарцыянальна колькасьці працы, укладзенай імі і членамі іх сямей ў гаспадарку арцелі, прычым адлічваецца пэўная сума і на ўтрыманьне непрацаздольных (інвалідаў і дзяцей) з разьліку, каб кожны

непрацаздольны атрымоўваў у год няменш 10-ці працантаў таго, што атрымоўвае кожны працаздольны.

*Увага.* Пастановаю агульнага сходу можа ацэньвацца праца членаў арцелі ня толькі па колькасьці прапрацованага часу, але і па якасьці працы і кваліфікацыі працаўнікоў.

38. Атрыманыя членамі арцелі на працягу году каштоўнасьці (грошы, прадукты і інш.) залічваюцца па ацэнцы ў рахунак належачай паасобным членам долі пасьля разьмеркаваньня вынікаў гаспадарчага году. Канчатковы разрахунак за ўвесь год робіцца пасьля зацьверджаньня гадавой справаздачы.

39. Страта, якая выявіцца ў гаспадарцы арцелі, папаўняецца з запаснага капіталу, а калі яго нехапае, то з іншых капіталаў арцелі, апроч непадзельнага. Агульны сход, не чапаючы апошніх, мае права разьмеркаваць нехапаючую суму для папаўненьня паміж ўсімі членамі арцелі. Калі хто-небудзь ня выплаціць ў вызначаны тэрмін свае часткі то савет належачае з неплацельшчыка бярэ з яго паю, а нехапаючае спаганяе з яго. Гэткае разьмеркаваньне страт ня спыняе і не зьмяншае дадатковой адказнасьці членаў па абавязнасьцях арцелі пры яе ліквідацыі.

## VII. Рахункаводзтва і справаздачнасьць.

40. У арцелі абавязкова вядуцца рахункаводныя кнігі, ў якія запісваюцца: а) агульны прыход і расход па зваротах арцелі і гатоўка касы; б) запасы і прадукты; в) жывы і мёртвы інвэнтар і рухомая маемасьць; г) рахунак арцелі з рознымі асобамі і ўстановамі д) імянны сьпіс членаў арцелі з паказаньнем разруханкаў з кожным з іх.

41. Справаздачны год арцелі лічыцца з 1 студзеня да 31 сьнежня. Савет арцелі павінен не пазьней 2 месяцаў пасьля сканчэньня справаздачнага году склікаць агульны сход і падаць на яго зацьверджаньне гадавую справаздачу аб працы арцелі. Справаздача павінна заключаць у сабе патрэбныя данныя аб працы арцелі, у паасобку: а) рахунак капіталаў арцелі; б) рахунак прыбыткаў і выдаткаў; в) рахунак аб становішчы яе сродкаў (балянс) і г) паказаньні аб зьменах у складзе членаў арцелі.

42. Да падачы агульнаму сходу справаздача разам з дакумэнтамі і рахункаводнымі запісамі правяраецца рэвізійнаю камісіяю і на працягу 2-х тыдняў павінна быць адчынена членам арцелі для азнаямленьня. Заключэньне па справаздачы рэвізійнай камісіі даклад-ваецца агульнаму сходу.

## VIII. Кіраваньне справамі арцелі.

43. Кіраваньне справамі арцелі ўскладаецца на агульны сход і савет.

### *А. Агульны сход.*

44. Агульны сход складаецца з усіх членаў арцелі. Агульны сход зьяўляецца вышэйшым органам кіраўніцтва арцелі. Яму належыць права агульнага кіраваньня справамі арцелі і вырашэньня ўсіх важнейшых пытаньняў, што ўзьнікаюць у жыцьці арцелі.

Агульны сход: а) дае кіраўнічыя паказаньні савету; б) выслухоўвае і зацьвярджае каштарысы, вытворчыя пляны і справаздачы савету і рэвізійнай камісіі аб дзейнасьці арцелі; в) прымае і выключае членаў; г) разглядае і выносіць пастановы па пытаньнях, якія

ўносяцца членамі на абмеркаваньне агульнага сходу; д) зацьвярджае дагаворы, што заключаюцца саветам; е) выбірае членаў саветаў і рэвізійнай камісіі і разглядае скаргі на іх; ж) зацьвярджае правілы, якія тычацца парадку выкананьня працоўных абавязкаў членаў, платы членам за працу, разьмеркаваньня вынікаў працы, разьлікаў з выходзячымі членамі, прыйманьня і звароту ўкладаў і інш.; з) распрацоўвае розныя іншыя пытаньні, не прадугледжаныя гэтым статутам.

45. Агульныя сходы бываюць чарговыя і надзвычайныя. Чарговыя сходы склікаюцца саветам у тэрміны, вызначаныя агульным сходам, але не радзей аднаго разу ў 2 месяцы.

Надзвычайны агульны сход склікаецца пастановаю савету альбо рэвізійнай камісіі, альбо па запатрабаваньні аднэй пятай часткі агульнага ліку членаў арцелі.

46. Агульны сход лічыцца правадзейным, калі на яго зьбярэцца ня менш паловы членаў арцелі (апроч выпадкаў, паказаных у арт. 47). Пастановы агульнага сходу выносяцца простаю большасьцю галасоў адкрытым галасаваньнем. Пастановы агульнага сходу абвязковы для ўсіх членаў арцелі, як прысутных, а таксама і адсутных на сходзе.

47. Для вырашэньня: а) аб устанаўленьні ўмоў расцэнкі і парадку аплаты працы членаў арцелі; б) аб прыйманьні і выключэньні членаў; в) аб зьменах і дадатках статуту; г) аб разьмеркаваньні вынікаў гаспадаркі і страт, паводле §§ 37 і 39 і д) аб спыненьні (ліквідацыі) арцелі патрэбна прысутнасьць на агульным сходзе 3/4 усіх членаў і 2/3 галасоў прысутных членаў арцелі.

48. Калі скліканы сход не адбудзецца з прычыны няўкі патрэбнай колькасьці членаў, то другі сход назначаецца не раней, як на наступны дзень і не пазьней, чымся праз два тыдні. Другі сход законны пры ўсякай колькасьці прысутных членаў. Аднак, пытаньні, пералічаныя ў § 47 статуту, могуць вырашацца толькі тады, калі на сход зьбярэцца паказаны ў гэтым параграфе лік членаў і лік галасоў.

49. Пастановы агульнага сходу запісваюцца ў пратаколы, якія падпісваюцца старшынёю сходу, сакратаром і ня менш, чым трымя членамі сходу.

На агульным сходзе кожны член мае права заявіць свае супярэчаньні і патрабаваць запісаньня іх у пратакол, калі ён знойдзе пастанову сходу супярэчнай статуту і інтарэсам арцелі.

50. Члены савету і рэвізійнай камісіі ўдзельнічаюць у агульным сходзе на роўных правах з усімі членамі, але без права пастаноўчага голасу па пытаньнях: а) аб зацьверджаньні справаздач і ацэнкі іх дзейнасьці, б) аб назначэньні ім платы, в) аб датэрміновым выключэньні з членаў савету і рэвізійнай камісіі і г) аб прыцягненьні іх да адказнасьці.

## *Б. Савет арцелі.*

51. Савет зьяўляецца выканаўчым органам арцелі і дзейнічае паводле статуту і пастаноў агульнага сходу. Ён вядзе ад імя арцелі, без асобнае на тое даверанасьці, усе справы арцелі і ўсе зносіны з дзяржаўнымі ўстановамі, living рознымі арганізацыямі і прыватнымі асобамі.

52. Савет выбіраецца на агульным сходзе з ліку членаў арцелі тэрмінам на ...годоў ня менш трох членаў і ............ да іх кандыдатаў,

якія замяняюць членаў савету ў час іх адсутнасьці альбо выхаду; старшыня савету выбіраецца агульным сходам.

*Увага 1.* У члены савету і рэвізійнай камісіі ня могуць быць выбраны асобы, пазбаўленыя права выбіраць і быць выбранымі ў саветы, а таксама асобы, якія аддаюць грошы альбо сельска-гаспадарчыя прадукты ў рост.

*Увага 2.* Членамі савету і рэвізійнай камісіі ня могуць быць аднача́сова асобы, якія знаходзяцца ў шлюбе альбо сваяцтве да 3-га спарадненьня ўключна (бацькі і дзеці, дзяды і ўнукі, браты і сёстры, дзядзькі і пляменьнікі).

53. Абавязкі членаў савету разьмяркоўваюцца паміж імі па ўзаемнай згодзе; пры гэтым абавязкі скарбніка ня могуць выконвацца рахункаводам.

54. Пасяджэньні савету лічацца адбыўшыміся, калі на іх прысутнічае ня менш паловы яго членаў, у тым ліку старшыня, альбо яго намесьнік.

55. На савет ускладаецца: а) загадваньне і кіраваньне гаспадаркаю арцелі; б) разрахунак з членамі арцелі па аплаце працы іх, паводле ўмоў, прынятых агульным сходам; в) заключэньне дагавораў і абавязнасьцяй з рознымі асобамі і ўстановамі ад імя арцелі, у тым ліку атрыманьне пазычак у межах, вызначаных агульным сходам; г) набыцьцё за гатоўку і ў крэдыт, захаваньне і выдаваньне ўсіх патрэбных для арцелі прадметаў і матар'ялаў; д) прыйманьне ўсякіх уносаў і выплат, выдаткаваньне грошай, паводле зацьверджанага агульным сходам каштарысу, захаваньне і выдача сум арцелі; е) запрашэньне і звальненьне служачых і часовых працаўнікоў арцелі; ж) складаньне гаспадарчага пляну, каштарысу даходаў і расходаў; з) вядзеньне рахункаводных запісаў і складаньне справаздач; і) вядзеньне спагнаньняў і адказ на судзе паісках, прад'яўленых да арцелі і к) іншыя абавязкі, паказаныя агульным сходам і гэтым статутам.

56. Справы ў савеце вырашаюцца простаю большасьцю галасоў. Калі галасоў будзе роўна, то пытаньне пераносіцца на наступнае пасяджэньне савету альбо на агульны сход. Пастановы савету запісваюцца ў пратаколы і падпісваюцца прысутнымі членамі.

57. Члены савету, што нарушылі свае абавязкі, адказваюць салідарна ўсёю сваёю маемасьцю за ўсе страты, якія арцель мела па іх віне.

58. Грашовыя дакумэнты, абавязнасьці і даверанасьці, якія выдаюцца арцельлю, падпісваюцца старшынёю савету альбо яго намесьнікам і адным з членаў савету.

## IX. Рэвізійная камісія.

59. Для праверкі і кантролю гаспадарчай дзейнасьці савету арцелі на агульным сходзе выбіраецца рэвізійная камісія, якая мае правы рабіць рэвізію ва ўсякі час.

60. На рэвізійную камісію ўскладаецца фактычная рэвізія не радзей аднаго разу ў 3 месяцы касы, усяе маемасьці і ўсіх апяраты арцелі, праверка рахункаводзтва, апраўдальных дакумэнтаў, бягучай справаздачнасьці, а таксама падрабязная праверка гадовай справаздачы савету з дачаю па ёй заключэньня агульнаму сходу.

61. У рэвізійную камісію выбіраецца 3 члены і 2 да іх кандыдаты тэрмінам на 1 год.

## X. Парадак зьмены і дапаўненьня статуту.

62. Агульны сход арцелі можа, паводле § 47, зьмяніць і дапоўніць гэты статут.

Аб усіх зьменах у статуце савет арцелі павінен неадкладна паведаміць ўстановы, якія зарэгістравалі статут арцелі, і толькі пасьля рэгістрацыі іх, гэткія набываюць законную сілу.

## XI. Ліквідацыя арцелі.

63. Арцель спыняе сваю дзейнасьць: а) пастановаю агульнага сходу членаў; б) калі лік сем'яў у арцелі будзе менш пяці; в) пастановаю суда, калі арцель абвесьціцца немаемнаю; г) пастановаю акруговага выканаўчага камітэту або раённага выканаўчага камітэту, зацьверджанаю акруговым выканаўчым камітэтам, калі арцель ухіліцца ад мэты, паказанай у статуце, альбо ўхіліцца ў бок, супраціўны інтарэсам дзяржавы; д) калі арцель злучыцца з іншаю калектыўнаю арганізацыяю.

64. Парадак спыненьня арцелі, тэрмін ліквідацыіі, парадак дзейнасьці ліквідацыйнай камісіі і здаволеньне прэтэнзій крэдытораў рэгулюецца палажэньнем аб парадку спыненьня каперацыйных арганізацый пры іх ліквідацыі, злучэньні і падзяленьні, зацьверджаным ЦВК і СНК Саюзу ССР за 15 чэрвеня 1927 г. (З. З. СССР 1927 г., № 37, арт. 372) і пастановаю СНК БССР за 4 студзеня 1928 г. (З.З. БССР 1928 г., № 3, арт. 17).

65. Паі членам арцелі зварочваюцца толькі пасьля таго, як яны выплацяць даўгі арцелі, у кожным разе не раней трох месяцаў ад дня абвяшчэньня аб назначэньні ліквідацыі.

Пасьля выплаты даўгоў арцелі, звароту членам іх паёў і маемасьці і пасьля выдзяленьня непадзельнага капіталу, застаўшайся маемасьці, набытай супольна арцельлю, даецца прызначэньне пастановаю агульнага сходу. Атрыманыя ад дзяржавы прамысловыя і дапаможныя прадпрыемствы ідуць пры ліквідацыі арцелі ў распараджэньне акруговых выканаўчых камітэтаў паводле пастановы СНК БССР за 1 лютага 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 10, арт. 79).

66. Пасьля сканчэньня маемаснай ліквідацыі арцелі зямля арцелі, унесеная членамі яе, ідзе ў запасны фонд, а атрыманая з складу дзяржаўнай маемасьці ідзе ў фонд дзяржаўнай зямельнай маемасьці.

Зацьверджаны Эканамічнай Нарадай пры Савеце Народных Камісараў БССР 11 чэрвеня 1928 г.

## 3. Тыповы статут сельска-гаспадарчай камуны.

### I. Мэты і правы камуны.

1. На падставе існуючых законаў аб сельска-гаспадарчай капярацыі ўтвараецца сельска-гаспадарчая камуна, з назваю ........................................................................................ Камуна дзейнічае ў раёне вёскі ........................................................................................
........................................................................................ раёну ........................................................................................
акругі БССР. Зямельная плошча камуны складаецца ........................................................................................
........................................................................................
........................................................................................
Савет камуны знаходзіцца ........................................................................................

2. Камуна арганізуецца для атрыманьня найвялікшых гаспадарчых выгад і палепшаньня быту сваіх членаў праз арганізацыю адзінай земляробскай гаспадаркі і дасягненьня найбольшай яе вытворчасьці на падставе поўнага аграмаджаньня зямлі, працы, інвэнтару і іншых сродкаў вытворчасьці, а таксама праз арганізацыю культурна-бытавых мерапрыемстваў (яслі, агульныя сталоўкі і інш.).

3. Для дасягненьня сваіх мэт камуна мае права:

а) па свайму погляду, паводле існуючых законаў і гэтага статуту, карыстацца ўсёй адведзенай камуне зямлёю, будынкамі і інш. маёмасьцю;

б) арганізоўваць прадпрыемствы, патрэбныя для пераапрацоўкі і апрацоўкі сельска-гаспадарчага сырцу, майстэрні, дапаможна-вытворчыя прадпрыемствы, мэліарацыйныя, электрыфікацыйныя і інш. тэхнічныя пабудовы, што ўжываюцца ў сельскай гаспадарцы і ў хатнім ужытку;

в) будаваць гаспадарчыя і жылыя будынкі для патрэб камуны на правах, устаноўленых для працоўных землякарыстальнікаў;

г) арганізоўваць збыт прадуктаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці;

д) дапамагаць па меры сваіх гаспадарчых магчымасьцяй аб'яднаньню навакольнага земляробскага насельніцтва ў розныя вытворчыя каператывы (машынныя, мэларацыйныя, насенныя таварыствы і інш.) і калектыўныя гаспадаркі;

е) дапамагаць пад агульным кіраўніцтвам мясцовых органоў народных камісарыятаў Асьветы, Земляробства і Аховы Здароўя пашырэньню агульных і сельска-гаспадарчых ведаў праз арганіза-

цыю ў каляктыўных гаспадарках і вёсках культурна-асьветных устаноў і школ, хат-чытальняў, клюбаў, бібліатэк, гурткоў і інш.

4. Камуна карыстаецца ўсімі правамі юрыдычнай асобы і можа, у адпаведнасьці з задачамі камуны (§ 3), заключаць усялякія дагаворы і ўгоды, выдаваць, атрымоўваць і дыскантаваць вэксалі і прававацца на судзе.

5. Камуна мае права на падставе пастановы агульнага сходу ўваходзіць членам у саюзы, сэкцыі, бюро каляктыўных гаспадарак і іншыя каперацыйныя аб'яднаньні, грамадзкія арганізацыі, паявыя таварыствы, мэты якіх адпавядаюць задачам камуны.

6. Абавязнасьці камуны забясьпечваюцца ўсёю яе маемасьцю, а таксама дадатковаю адказнасьцю членаў паводле § 13 гэтага статуту.

7. Камуна мае пячатку з паказаньнем свае назвы.

## II. Склад камуны, правы і абавязкі яе членаў

8. Членамі камуны могуць быць ўсе працоўныя ад 16-ці гадоў, якія займаюцца, а таксама распачынаюць займацца сельскаю гаспадаркаю альбо зьвязанымі із ёю промысламі.

*Увага.* Закладчыкамі камуны ня могуць быць асобы, пазбаўленыя ва ўстаноўленым парадку выбарных праў.

9. Членаў у камуну прымае агульны сход камуны паводле § 48 гэтага статуту.

*Увага 1.* Для ўваходу ў камуну вызначаецца спробны тэрмін ня больш 6 месяцаў, на працягу якога асоба, што ўваходзіць ў камуну, ўдзельнічае ў працах камуны нараўне з членамі. Калі яе ня прымуць ў члены камуны, то яна павінна пакінуць камуну у тэрмін, устаноўлены пры прыйманьні. Маемасьць, унесеная такою асобаю у камуну, звярочваецца ёй натураю. Плата за працу выплачваецца ў адпаведнасьці з выкананаю працаю.

*Увага. 2.* Дзеці членаў камуны, а таксама непаўналетнія члены сям'і, што знаходзяцца на іх утрыманьні, залічаюцца ў члены камуны пасьля 16 гадоў, калі яны адпавядаюць умовам §§ 11 і 12 гэтага статуту.

10. Кожны член камуны мае права ўдзельнічаць на агульным сходзе камуны з пастаноўчым голасам без права перадачы.

11. Кожны член камуны павінен удзельнічаць у працах камуны асабістаю працаю, выконваць статут, пастановы агульнага сходу, распараджэньні савету і правілы ўнутранага парадку ў камуне.

12. Члены камуны, мабілізаваныя ў Чырвоную Армію, вучні, альбо адкліканыя і адкамандыраваныя на савецкую, партыйную, каперацыйную і прафэсіянальную працу, не лічацца выбыўшымі з камуны.

13. Кожны член камуны нясе па абавязнасьцях камуны дадатковую адказнасьць сваім укладам і ўсёю асабістаю маемасьцю.

## III. Парадак і ўмовы прыйманьня членаў камуны.

14. Асоба, якая ўваходзіць у члены камуны, ліквідуе сваю асабістую гаспадарку і перадае камуне грашовыя сродкі і сваю маемасьць. Маемасьць, што передаецца ў камуну яе членам, ацэньваецца і прымаецца па пагляду савету ў поўнае распараджэньне камуны.

15. Унесеная членам у камуну маемасьць і грашовыя сродкі залічваюцца члену: частка ў сумме .................... залічваецца беззваротным уступным уносам; рэшта залічваецца ўмоўным укладам пры-

нятага, які (уклад) можа быць зьвернут члену, калі ен выходзіць альбо выключаецца, альбо, калі ліквідуецца камуна.

*Увага.* На умоўны ўклад можа быць пастановаю агульнага сходу камуны ўстаноўлена налічэньне працантаў з агульных прыбыткаў камуны ў разьмеры ня больш устаноўленых працантаў па ўкладах у мясцовым крэдытным таварыстве. Налічаныя працанты запісваюцца ў асабовы рахунак члена камуны.

16. Прыняты ў камуну член адказвае і за тыя абавязнасьці, якія ўзьніклі да яго ўваходу ў камуну.

## IV. Парадак і ўмовы выхаду і выключэньня членаў.

17. Кожны член камуны мае права выйсьці з камуны, падаўшы аб гэтым пісьмовую заяву ў савет камуны.

18. Член камуны, які парушае статут і ня выконвае пастановы агульнага сходу і наогул дзейнічае на шкоду камуне, можа быць выключан з камуны пастановаю агульнага сходу, паводле § 48 гэтага статуту.

19. З кожным членам, які выйшаў або выключан з камуны, камуна разрахоўваецца за патрачаную ім працу ў камуне паводле правіл, вызначаных агульным сходам камуны.

Член камуны, які выходзіць альбо выключан з камуны, мае права атрымаць ў тэрміны, вызначаныя агульным сходам, назад свой ўклад, ўнесены ў камуну, апроч часткі, якою папаўняецца прыпадаючая на яго долю страта камуны, што выявіцца на канец гаспадарчага году.

Канчатковы разрахунак з кожным членам, які выходзіць з камуны, робіцца на працягу месяца пасьля зацьверджаньня агульным сходам гадавой справаздачы за той год, у які член выйшаў.

Член камуны, які выйшаў або выключан, адказвае ў парадку дадатковай адказнасьці (§ 13), па тых абавязнасьцях камуны, якія ўзьніклі да выхаду, да канца данага аперацыйнага году, а калі член выйшаў ў другой палове аперацыйнага году, то адказнасьць працягваецца да канца наступнага аперацыйнага году.

20. Члены, якія дабравольна выйшлі або выключаны з камуны, ня маюць права патрабаваць выдзелу зямлі з ужыткаў камуны.

## V. Сродкі камуны.

21. Сродкі камуны складаюцца з уносаў і ўкладаў членаў, прыбыткаў ад гаспадарчых апярацый, пазычак і іншых крыніц.

22. Сродкі камуны падзяляюцца на капіталы: асноўны (падзельны і непадзельны), запасны і асобныя (спэцыяльныя).

23. Падзельны капітал складаецца з укладаў і адлічэньняў ад прыбыткаў на падставе пастановы агульнага сходу і з іншых паступленьняў.

24. Непадзельны капітал складаецца для ўзмацненьня аграмаджаных сродкаў камуны. Непадзельны капітал камуны складаецца з а) дзяржаўных сродкаў (дзяржаўная маемасьць, атрымная камунаю як бестэрміновая і бяспрацантавая пазычка, па ацэнцы ў момант перадачы, скідка з сельска-гаспадарчага падатку, крэдыты ў асноўны капітал, прэміі);

б) астач уступных уносаў членаў, якія асталіся пасьля выдаткаў на арганізацыю камуны;

в) штогадовых адлічэньняў з умоўна чыстага прыбытку камуны ў разьмеры ня менш 5%, з якіх .................... % адлічваецца ў фонд на разьвіцьцё каляктыўнага земляробства.

Непадзельны капітал пакідаецца ў поўным распараджэньні камуны, якая адказвае за яго поўную захавальнасьць, і можа знаходзіцца ў гаспадарчых затратах як у асноўным, а таксама і ў зваротным капіталах камуны.

Пры выхадзе, альбо выключэньні членаў, а таксама ліквідацыі камуны нападзельны капітал не падзеляецца паміж членамі, а ідзе ў асобны фонд на разьвіцьцё каляктыўнага земляробства.

Атрыманыя ад дзяржавы прамысловыя і дапаможныя прадпрыемствы пры ліквідацыі камуны ідуць у распараджэньне акруговых выканаўчых камітэтаў паводле пастановы СНК БССР за 1 лютага 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 10, арт. 79).

25. Для папаўненьня страт ад навальных бядот і выпадковых здарэньняў (недарод, пажар, крадзёж, раскраданьне і інш.), а таксама страт ад гаспадарчых апярацый, камуна ўтварае запасны капітал з штогадовых адлічэньняў з умоўна-чыстага прыбытку камуны ў разьмеры ня менш 3 проц.

Агульны сход вызначае спосаб зьмяшчэньня запаснага капіталу, які-б забясьпечваў яго захавальнасьць і бесперашкодную рэалізацыю паводле правіл, установленых законам.

26. Камуна можа ўтвараць таксама спэцыяльныя капіталы, прызначаныя для будаваньня спэцыяльных прадпрыемстваў і вядзеньня спэцыяльных апярацый камуны (мэліарацыйныя працы і інш.); гэтакія капіталы ўтвараюцца і выдаткоўваюцца асобнымі пастановамі агульнага сходу камуны.

27. Калі ліквідуецца камуна, то .................... працантаў запаснага капіталу і .................... працантаў ад спэцыяльных капіталаў ідзе ў непадзельны капітал для перадачы ў фонд на разьвіцьцё каляктыўнага земляробства.

28. Апроч таго, утвараецца амартызацыйны фонд з штогадовых адлічэньняў ад агульных прыбыткаў гаспадаркі і ў разьмеры часткі маемасьці, якая знашваецца (будынкаў, жывога і мёртвага інвэнтару і інш.), што ўдзельнічае ў вытворчасьці.

Амартызацыйны фонд выдаткоўваецца на замену ці капітальны рамонт зношанай маемасьці пастановаю агульнага сходу.

Амартызацыйны фонд можа знаходзіцца ў гаспадарцы камуны ў форме такіх запасаў (прадуктаў і матар'ялаў), якія, калі трэба, могуць быць рэалізаваны бяз шкоды для гаспадарчай дзейнасьці камуны, альбо захоўвацца на бягучым рахунку альбо ўкладах у крэдытных установах.

29. Для ўмацненьня сваіх сродкаў камуна можа рабіць пазычкі ў каперацыйных арганізацый, дзяржаўных і іншых установ.

Пазычкі робяцца саветам камуны ў разьмеры і на ўмовах, вызначаных агульным сходам.

Капіталы камуны ня могуць адчужацца за даўгі і абавязнасьці асобных яе членаў.

## VI. Арганізацыя гаспадаркі камуны і парадак вядзеньня працы.

### *Арганізацыя гаспадаркі.*

30. Гаспадарка камуны вядзецца паводле арганізацыйна-гаспадарчага пляну, які складаецца на некалькі гадоў, і паводле штогадовага вытворчага пляну, зацьверджанага агульным сходам.

31. Пры складаньні арганізацыйнага пляну гаспадаркі камуны павінны быць прадугледжаны мясцовыя раённыя асаблівасьці сель-

скай гаспадаркі для яе далейшага разьвіцьця і спэцыялізацыі асобных галін гаспадаркі (разьвіцьцё прадукцыйнай жывёлагадоўлі, пасеў палепшаным і чыстагатунковым насеньнем, увядзеньне тэхнічных культур, арганізацыя гадавальнікаў і інш.).

*Парадак вядзеньня прац.*

32. Усе працы ў гаспадарцы камуны вядуцца асабістаю працаю яе членаў, паводле правіл аб вядзеньні прац, устаноўленых агульным сходам.

33. Наймаць на працу, як правіла, у камуне не дазваляецца. Браць на працу ў камуну пабочных асоб дазваляецца толькі ў выключных выпадках, калі ў камуне не хапае рабочай сілы на вядзеньне тэрміновых гаспадарчых прац (напрыклад: прыбраньне сена, збожжа, малацьба). Апроч таго, камуна можа запрашаць для сталай і часовай працы спэцыялістаў па сельскай гаспадарцы для працы на прамысловых і дапаможна-прамысловых прадпрыемствах, спэцыялістаў па рахункаводзтву і іншых асоб з спэцыяльнымі ведамі, патрэбных для вядзеньня спраў камуны.

*вага.* Асобы, якія стала і часова працуюць у камуне, як нанятыя, атрымоўваюць плату паводле існуючых законаў аб аплаце працы.

34. Працу разьмяркоўвае савет камуны, альбо спэцыяльна назначаная саветам асоба. Для павялічэньня прадукцыйнасьці працы членаў камуны, агульным сходам вызначаюцца нормы выпрацоўкі па асобных відах працы, з падлікам колькасьці і якасьці выкананай працы, а таксама спэцыялізацыя рабочай сілы праз вызначэньне сталых працаўнікоў па асобных галінах.

Ні адзін член камуны, незалежна ад яго выбарнай пасады, альбо спэцыяльнасьці, ня можа адмаўляцца ад фізычнай працы. Назаўсёды альбо на доўгі час ад такой працы можа звольніць толькі агульны сход з прычыны часовай непрацаздольнасьці (інваліднасьць, хвароба, цяжарнасьць і інш.). Заява аб няправільным назначэньні на працу вырашаецца саветам. Калі член ня згодзен з пастановаю савету, то пытаньне перадаецца на вырашэньне агульнага сходу. Да вырашэньня агульнага сходу, праца выконваецца без пярэчаньняў, апроч выпадкаў яўнай хваробы, альбо цяжарнасьці ў тэрміны, у якія цяжарныя жанчыны звальняецца ад працы на тэрміны, устаноўленыя законам.

Грашовыя і іншыя выдачы часова страціўшым працаздольнасьць вызначаюцца пастановаю агульнага сходу. Пры гэтым цяжарныя жанчыны на час спыненьня імі працы атрымоўваюць выдачы поўнасьцю, нароўні з тымі, якія працуюць (сярэдняя вялічыня платы за працу).

35. За наўмыснае або па нядбайнасьці псаваньне інвэнтару, нявыхад на працу альбо яўна нясумленнае выканаваньне працы і наогул за нарушэньне дысцыпліны працы—камуна можа, паводле правіл, устаноўленых агульным сходам, патрабаваць ад члена камуны сплаты за страты.

## VII. Правілы аб плаце за працу членаў камуны.

36. Плату за працу члены камуны атрымоўваюць у адпаведнасьці з колькасьцю працы (з падлікам яе якасьці), патрачанай членам у гаспадарцы камуны.

Расцэнка рабочай сілы членаў камуны і нормы выпрацоўкі па асобных відах працы робяцца загадзя, у пачатку гаспадарчага году, з падлікам гаспадарчых магчымасьцяй.

На харчаваньне і розныя выдаткі членаў выдаецца ня больш 75 проц. сумы, якая павінна быць выплачана паводле папярэдняга падліку агульных выдаткаў камуны паасобнаму члену. Канчатковы разрахунак робіцца пастановаю агульнага сходу і ў канцы гаспадарчага году, у залежнасьці ад вынікаў гаспадараньня, пасьля адлічэньня абавязковых сум, прадугледжаных §§ 39 і 40 гэтага статуту.

За асабліва спраўную і старацельную працу, за вынаходкі, удасканаленьні, што палягчаюць працу альбо павялічваюць яе вытворчасьць, камуна можа пастановаю савету, зацьверджанаю агульным сходам, выдаваць членам камуны прэміі альбо адначасовую плату.

*Увага.* Пастановаю агульнага сходу, прынятаю ў паказаным § 48 парадку, камуна можа ўстанавіць разьмеркаваньне вынікаў працы па сапраўднай патрэбе альбо на едакоў, у залежнасьці ад гаспадарчых магчымасьцяй камуны.

37. Утрыманьне дзяцей і непрацаздольных членаў камуны, а таксама задаволеньне іншых агульных патрэб яе (культурна-асьветная праца, мэдыцынская дапамога і інш.) арганізуюцца за агульныя сродкі камуны, паводле правіл унутранага парадку, зацьверджаных агульным сходам.

## VIII. Парадак разьмеркаваньня прыбыткаў і папаўненьня страт.

38. Выдаткі камуны робяцца паводле каштарысу, зацьверджанага агульным сходам камуны.

39. Астача, атрыманая паводле гадовай справаздачы ад агульных даходаў, пасьля папаўненьня ўсіх выдаткаў на гаспадарку, уключаючы амартызацыйныя адлічэньні і выдаткі на ўтрыманьне аграномаў-інструктароў гаспадаркі (апроч аплаты працы членаў камуны), складае ўмоўна—чысты прыбытак камуны.

40. Умоўна-чысты прыбытак камуны разьмяркоўваецца наступным чынам: у асноўны капітал—непадзельны адлічаецца ня менш 5%, у падзельны—ад 2 да 7 проц, у запасны ня менш 3 проц., у спэцыяльны ..................%, на культурна-асьветныя і іншыя патрэбы ў разьмеры, вызначаным агульным сходам. Частка ўмоўна-чыстага прыбытку, якая асталася пасьля паказаных адлічэньняў, разьмяркоўваецца паміж членамі парадкам, прадугледжаным § 36 гэтага статуту, з падлікам зробленых ужо ў працягу году членамі набораў.

41. Калі ў камуне будзе страта, то, такая папаўняецца з запаснага капіталу, а калі яго няхопіць, то, па пагляду агульнага сходу, з іншых капіталаў камуны (апроч непадзельнага)

## IX. Кіраваньне справамі камуны.

42. Справамі камуны кіруюць: а) агульны сход членаў і б) савет камуны.

### *А. Агульны сход.*

43. Агульны сход членаў камуны зьяўляецца вышэйшым органам кіраваньня камунаю. У яго кампэтэнцыю ўваходзяць агульнае кіраваньне справамі камуны і вырашэньне ўсіх галоўнейшых пытаньняў, што ўзьнікаюць у жыцьці камуны.

44. У паасобку ў капэтэнцыю агульнага сходу ўваходзяць а) зацьверджаньне інструкцый савету камуны і рэвізійнай камісіі; б) выбар старшынь і членаў савету і рэвізійнай камісіі; в) зацьверджаньне гадовай справаздачы савету, каштарысу прыходаў і расходаў і вытворчага пляну; г) прыйманьне і выключэньне членаў камуны; д) вырашэньне скаргаў на савет і рэвізыйную камісіі; е) разьмеркаваньне чыстага прыбытку, атрыманага ў аперацыйным годзе; ж) вырашэньне пытаньняў аб зьмене статуту і спыненьні дзейнасьці камуны, а таксама вырашэньне розных іншых пытаньняў, якія тычацца арганізацыі і дзейнасьці камуны і не ўваходзяць паводле статуту ў кампэтэнцыю савету і рэвізійнай камісіі.

45. Агульныя сходы бываюць чарговыя і надзвычайныя. Чарговыя сходы склікаюцца саветам у тэрміны, вызначаныя агульным сходам, але не радзей аднаго разу ў два месяцы. Надзвычайныя сходы склікаюцца саветам па яго ўласнаму пачыну або па патрабаваньні рэвізійнай камісіі альбо аднае пятай часткі агульнага ліку членаў камуны.

46. Агульны сход лічыцца правадзейным, калі на сходзе прысутнічае ня менш паловы агульнага ліку паўнапраўных членаў камуны, апроч выпадкаў, паказаных ў арт. 48. Пастановы агульнага сходу выносяцца простаю большасьцю галасоў адкрытым галасаваньнем. Пастановы агульнага сходу абавязковы для ўсіх членаў камуны.

47. Калі скліканы сход не адбудзецца з прычыны незьяўленьня абавязковага ліку членаў, то другі сход назначаецца не раней, як на другі дзень і не пазьней, чымся праз два тыдні. Другі сход законны пры ўсякай колькасьці прысутных членаў.

48. Для вырашэньня пытаньняў, аб зьмене статуту, зацьверджаньні правіл аб аплаце працы, аб прыняцьці і выключэньні членаў, аб адкліканьні членаў савету і рэвізійнай камісіі, аб ліквідацыі камуны патрэбна прысутнасьць на агульным сходзе 3/4 усіх членаў камуны і згода 2/3 галасоў прысутных членаў камуны, як на першым, так і на другім сходзе.

49. Члены камуны павінны быць сваячасна паведамлены саветам аб часе і месцы кожнага агульнага сходу, а таксама і аб пытаньнях, якія будуць абмяркоўвацца на сходзе.

Агульны сход адчыняецца старшынёю савету і вядзецца асобным старшынёю, які выбіраецца кожны раз агульным сходам.

50. На пасяджэньнях агульнага сходу абавязкова вядуцца пратаколы, якія падпісваюцца старшынёю і сакратаром сходу і ня менш, чым 3 прысутнымі на сходзе членамі камуны.

51. На агульным сходзе кожны член камуны можа заявіць асобную думку і патрабаваць унясеньня яе ў пратакол.

*Б. Савет камуны.*

52. Савет камуны зьяўляецца выканаўчым органам камуны і загадвае ўсімі яе справамі, паводле статуту і пастаноў агульнага сходу камуны.

Савет вядзе ад імя камуны без асобнага на гэта паўнамоцтва ўсе справы і зносіцца з дзяржаўнымі ўстановамі, рознымі арганізацыямі і прыватнымі асобамі.

Савет заключае ад імя камуны ўгоды і дагаворы, выступае па справах камуны ў судзе і выдае даверанасьці.

53. Члены савету выбіраюцца адкрытым галасаваньнем на агульным сходзе з ліку членаў камуны, тэрмінам на год, у колькасьці ня менш 3-х асоб. Да членаў савету выбіраюцца .................. кандыдаты,

якія замяняюць членаў савету ў час, калі яны адсутнічаюць альбо выйшлі. Старшыня савету выбіраецца агульным сходам.

*Увага.* У склад савету і рэвізійнай камісіі ня могуць уваходзіць аднačасова асобы, якія знаходзяцца паміж сабою ў шлюбе і сваяцтве да 3 спарадненьня ўключна (бацькі, дзеці, дзяды, ўнукі, браты і сёсты, дзядзькі і пляменьнікі).

54. Члены савету разьмяркоўваюць абавязкі паміж сабою па ўзаемнай згодзе, пры гэтым абавязкі скарбніка ня можа выконваць рахункавод.

55. Пасяджэньні савету лічацца адбыўшыміся, калі на іх прысутнічае ня менш паловы яго членаў, у тым ліку старшыня альбо яго намесьнік. Справы ў савеце вырашаюцца простаю большасьцю галасоў. Калі галасоў бывае роўна, то голас старшыні дае перавагу.
Пастановы савету запісваюцца ў кнігу пратаколаў і падпісваюцца ўсімі прысутнымі членамі.

56. Савет павінен рабіць справаздачы агульнаму сходу аб становішчы спраў камуны ў тэрміны, вызначаныя агульным сходам. Гадовая справаздача савету павінна быць складзена ў пісьмовым відзе і пададзена на разгляд і зацьвярджаньне агульнага сходу з заключэньнем рэвізійнай камісіі.

57. Скаргі на дзеяньні савету падаюцца агульнаму сходу. Грашовыя дакумэнты, абавязнасьці і даверанасьці, якія выдаюцца ад імя камуны, павінны падпісвацца старшынёю савету альбо яго намесьнікам і адным членам савету.
Члены Савету за парушэньне сваіх абавязкаў адказваюць салідарна за ўсе страты, якія мела камуна па іх віне.

## X. Рэвізійная камісія.

58. Рэвізійная камісія зьяўляецца органам кантролю гаспадаркі і грашовай дзейнасьці савету. Яна выбіраецца агульным сходам на 1 год у складзе 3-х членаў, да членаў выбіраюцца 2 кандыдаты.
У правы і абавязкі рэвізійнай камісіі ўваходзяць: фактычная рэвізія касы, усяе маемасьці і ўсіх апаратаў камуны, праверка рахункаводзтва, апраўдальных дакумэнтаў, бягучай справаздачнасьці і гадовай справаздачы савету, з дачаю па ёй заключэньня агульнаму сходу.

59. Рэвізійная камісія дае справаздачу агульнаму сходу аб сваёй дзейнасьці ня менш 2-х разоў у год.

60. Рэвізійная камісія мае права рабіць рэвізіі па свайму пачыну, па падставе даручэньня агульнага сходу альбо на падставе пісьмовага патрабаваньня (з паказаньнем прычыны) $^{1}/_{10}$ часткі членаў камуны.

*Увага* 1. Аб кожным сваім дзеяньні рэвізійная камісія складае належны акт, а свае заключэньні паведамляе савету камуны для ўжыцьця адпаведных захадаў.

*Увага* 2. Савет камуны, служачыя і ўсе члены камуны павінны даваць рэвізійнай камісіі па яе патрабаваньні ўсе дакумэнты і зьвесткі, якія ёсьць у іх і адносяцца да рэвізіі.

## XI. Рахункаводзтва і справаздачнасьць.

61. Справаздачны год камуны лічыцца з 1-га студзеня да 31 снежня. Камуна абавязкова вядзе рахункаводзтва. Форма рахункаводзтва зацьвярджаецца агульным сходам. Не пазьней 3-х месяцаў пасьля сканчэньня справаздачнага году савет камуны павінен скласьці пісьмовую гадовую справаздачу, паказаўшы: а) усе капіталы камуны; б) агульны прыход і расход прадуктаў, а таксама грошы; в) наяўную маемасьць; г) рахунак даўгоў камуны; д) падрабязную справаздачу аб выдатках камуны; е) рахунак прыбыткаў і страт; ж) балянс камуны. Разам з гадоваю справаздачаю павінен падавацца каштарыс на будучы год.

62. Справаздача па кнігах, дакумэнтах і наяўнай маемасьці правяраецца рэвізійнаю камісіяю, якая на справаздачы піша сваё заключэньне і дакладвае яго агульнаму сходу.

63. Справаздача павінна быць складзена і падпісана ўсімі членамі савету, а таксама праверана рэвізійнаю камісіяю не пазьней, як за два тыдні да агульнага сходу, якому гэта справаздача павінна быць пададзена. У працягу 2-х тыдняў справаздача павінна быць у вызначаныя гадзіны адчынена членам камуны для абгляду

## XII. Парадак зьмены і дапаўненьня статуту.

64. Агульны сход членаў камуны можа, паводле § 48, зьмяніць і дапоўніць гэты статут.

65. Аб усіх зьменах у статуце савет камуны павінен тэрмінова паведаміць установу, у якой зарэгістраваны статут камуны. Зьмены набываюць законную сілу толькі пасьля рэгістрацыі іх у органе, які зарэгістраваў статут.

У разьвіцьцё гэтага статуту камунаю выпрацоўваюцца правілы ўнутранага парадку.

## XIII. Ліквідацыя камуны.

66. Дзейнасьць камуны спыняецца:

а) пастановаю агульнага сходу членаў камуны паводле § 48 гэтага статуту;

б) пастановаю суда, калі камуна будзе абвешчана немаемнаю;

в) калі ў ёй астанецца менш установленага законам ліку членаў;

г) пастановаю акруговага выканаўчага камітэту, або пастановаю раённага выканаўчага камітэту, зацьверджанаю акруговым выканаўчым камітэтам, калі камуна ўхіліцца ад мэты, паказанай у статуце, альбо ўхіліцца ў бок, супраціўны інтарэсам дзяржавы;

д) калі камуна злучыцца з іншаю каляктыўнаю гаспадаркаю.

67. Парадак спыненьня дзейнасьці камуны, тэрмін ліквідацыі, парадак працы ліквідацыйнай камісіі і задаволеньне прэтэнзій крэдытараў вызначаюцца Палажэньнем аб парадку спыненьня дзейнасьці кааперацыйных арганізацый пры іх ліквідацыі, злучэньні і падзяленьні, зацьверджаным ЦВК і СНК СССР 15 чэрвеня 1927 г. (З. З. СССР 1927 г., № 37, арт. 372) і пастановаю СНК БССР 4 студзеня 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 3, арт. 17).

68. Умоўныя ўклады членам камуны зварочваюцца не раней выплаты даўгоў камуны, у кожным разе не раней 3-х месяцаў ад дня абвяшчэньня аб назначэньні ліквідацыі.

Пасьля выплаты даўгоў камуны, звароту членам іх укладаў і пасьля вызначэньня непадзельнага капіталу, рэшце маемасьці, набытай супольна камунаю, даецца прызначэньне пастановаю агульнага сходу.

69. Пры ліквідацыі камуны ўнесеная членамі, а таксама атрыманая з складу дзяржаўнай зямельнай маемасьці зямля камуны нядзеліцца паміж членамі.

---

Зацьверджаны Эканамічнаю Нарадаю пры Савеце Народных Камісараў БССР 11 чэрвеня 1928 г.

## 4. Тыповы Статут таварыства грамадзкай апрацоўкі зямлі.

### I. Мэты і правы таварыства.

1. На падставе існуючых законаў аб працоўным землякарыстаньні і сельска-гаспадарчай капярацыі ўтвараецца . . . . . . таварыства грамадзкай апрацоўкі зямлі з назваю . . . . . . . . . .
Таварыства дзейнічае ў раёне вёскі (паселішча) . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . раёну . . . . . . . . . акругі БССР.
Савет таварыства знаходзіцца ў . . . . . . . . . . . .

2. Таварыства мае на мэце павялічваць вытворчасьць і прыбытковасьць гаспадарак сваіх членаў праз арганізацыю сумесных палявых прац, агульнага карыстаньня сельска-гаспадарчымі машынамі і інш. мерапрыемстваў, накіраваных да палепшаньня іх гаспадарак.

3. Для дасягненьня паказаных мэт, таварыства мае права:

а) ужываць захады да земляўпарадкаваньня і злучэньня зямель, якімі карыстаюцца яго члены, у адно месца альбо ў шырокія палосы;

б) арганізоўваць на злучанай плошчы правільны севазварот, паводле агульнага пляну, сумеснае вядзеньне сельска-гаспадарчых работ і сумеснае скарыстаньне сельска-гаспадарчых машын і інш. інвэнтару;

в) забясьпечваць сваіх членаў патрэбнымі ім сродкамі сельскагаспадарчай вытворчасьці (насеньнем, інвэнтаром, угнаеньнямі і інш.);

г) арганізоўваць збыт прадуктаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці таварыства і яго членаў;

д) набываць, будаваць, наймаць і скарыстоўваць прадпрыемствы для апрацоўкі і пераапрацоўкі сельска-гаспадарчых прадуктаў і сырцу, электрыфікацыйныя і інш. тэхнічныя пабудовы, якія ўжываюцца ў сельскай гаспадарцы і хатнім ужытку;

е) ужываць захады да правядзеньня мэліарацыі (абсушэньне і інш.) плошчы з грамадзкаю апрацоўкаю і вучасткаў сваіх членаў;

ж) арганізоўваць касы ўзаемадапамогі на выпадак сьмерці, хваробы, пажару і інш. навальных бядот;

з) пашыраць пад агульным кантролем мясцовых органаў народных камісарыятаў Асьветы і Земляробства сельска-гаспадарчыя веды сярод сваіх членаў, а таксама і сярод навакольнага насельніцтва;

і) ужываць іншыя захады да палепшаньня, павялічэньня вытворчасьці і прыбытковасьці гаспадарак членаў таварыства.

4. Таварыства карыстаецца ўсімі правамі юрыдычнай асобы і ў адпаведнасьці з задачамі таварыства можа заключаць усякія дагаворы і ўгоды, выдаваць, атрымоўваць, дыскантаваць вэксалі і правазацца на судзе. Таварыства мае права, на падставе пастановы агульнага сходу, уваходзіць членам у сельска-гаспадарчыя, каперацыйныя аб'яднаньні і іншыя грамадзкія анганізацыі, што адпавядаюць яго мэтам.

5. Абавязнасьці таварыства забясьпечваюцца ўсёю яго маемасьцю, а таксама дадатковаю адказнасьцю членаў паводле § 12 гэтага статуту.

6. Таварыства мае пячатку з паказаньнем свае назвы.

## II. Склад таварыства, правы і абавязкі яго членаў.

7. Членамі таварыства могут быць гаспадары двара, а таксама і члены іх сем'яў, якія займаюцца ў раёне т-ва працоўнаю сельскаю гаспадаркаю альбо зьвязанымі з ёй працоўнымі промысламі.

*Увага.* Членамі т-ва ня могуць быць асобы, што ня маюць выбарных праў, а таксама асобы, якія лічацца членамі іншага т-ва грамадзкай апрацоўкі зямлі.

8. Пытаньні аб прыйманьні членаў, а таксама аб іх выключэньні вырашаюцца агульным сходам паводле § 43 гэтага статуту.

## III. Умовы ўваходу ў таварыства.

9. Асоба, якая жадае ўвайсьці ў члены таварыства, павінна падаць аб гэтым пісьмовую заяву ў савет таварыства, а пасьля прыняцьця павінна заплаціць беззваротны ўступны ўнос у разьмеры . . . . . : . . . і ўнесьці пай ў суме. . . . . . . . . .

*Увага 1.* Паявыя ўносы ўстанаўляюцца ў разьмерах, патрэбных для вядзеньня сумесных прац.

*Увага 2.* Паявы ўнос на падставе пастановы савету таварыства можа ўносіцца ня толькі грашмі, але і маемасьцю (машынамі, прыладамі, жывёлаю, насеньнем і інш.).

Каб палегчыць выплату паявых уносаў заможнымі членамі, агульны сход устанаўляе раты.

10. Па згодзе савету таварыства з уваходзячымі ў яго членамі, апошнімі можа быць унесена маемасьць больш устаноўленага паявога ўносу, у форме тэрміновага альбо бестэрміновага ўкладу, за вызначаную плату з даходаў таварыства, але ня больш процантаў па ўкладах у мясцовым крэдытным таварыстве.

Уклады з налічэньнем процантаў бываюць: бестэрміновыя па запатрабаваньні ўкладчыка, але ў тэрміны, вызначаныя правіламі ўнутранага парадку таварыства, і пры выхадзе альбо выключэньні членаў; тэрміновыя—пасьля сканчэньня тэрмінаў.

## IV. Адказнасьць членаў па абавязнасьцях таварыства.

11. Новыя члены таварыства нясуць адказнасьць і за тыя абавязнасьці т-ва, якія ўзьнiклі да іх уваходу.

12. Кожны член таварыства нясе дадатковую адказнасьць за абавязнасьці товарыства, калі таварыства будзе абвешчана немаемным і ў выпадку, паказаным у § 37 статуту.

Адказнасьць гэта, аднак, ня можа перавышаць для кожнага члена павялічаную ў . . . . . раз суму яго паю.

## V. Абавязкі і правы членаў таварыства.

13. Кожны член т-ва павінен удзельнічаць у супольных працах т-ва ўласнаю працаю, выконваць статут т-ва і пастановы агульнага сходу і савету і наведваць агульныя сходы.

14. Кожны член таварыства можа быць выбраны ў органы кіраваньня таварыства. Кожны член таварыства мае права ўдзельнічаць на агульным сходзе і карыстацца на гэткім правам аднаго голасу без права перадачы.

15. Кожны член таварыства мае права падаваць у савет пісьмовыя заявы па справах таварыства і патрабаваць іх разгляду.

16. Кожны член таварыства мае права карыстацца ў сваіх гаспадарчых справах дапамогаю таварыства паводле правіл, устаноўленых агульным сходам.

## VI. Парадак і ўмовы выхаду і выключэньня членаў.

17. Кожны член таварыства мае права выйсьці з таварыства, падаўшы аб гэтым пісьмовую заяву. Таварыства павінна зрабіць маемасны разрахунак з выходзячым членам на працягу месяца пасьля зацьверджаньня справаздачы за той гаспадарчы год, у якім член выйшаў; парадак-жа спыненьня гаспадарчай супольнасьці з выходзячымі членамі (выключэньне яго зямельнага вучастку з грамадзкай апрацоўкі, спыненьне прац, разьмеркаваньне ўраджаю і інш.) вызначаецца паводле агульных правіл, устаноўленых агульным сходам.

18. Член таварыства, які ня выконвае сваіх абавязкаў перад таварыствам, парушае статут, ня выконвае пастаноў агульнага сходу і, наогул, дзейнічае на шкоду таварыству, можа быць выключан з таварыства пастановаю агульнага сходу паводле § 43 гэтага статуту.

19. Член, які дабравольна выйшаў або выключан з таварыства, мае права атрымаць з таварыства паявы ўнос і ўсю дадзеную ім для карыстаньня таварыства маемасьць у парадку і ў тэрміны, паказаныя ў § 17, апроч тае часткі паю, якою папаўняецца прыпадаючая на яго долю страта таварыства.

Члены, якія выйшлі альбо выключаны з таварыства, адказваюць ў парадку дадатковай адказнасьці (§ 12) за абавязнасьці таварыства, што ўзьніклі да іх выхаду, да канца данага аперацыйнага году, а калі член выйшаў у другой палове аперацыйнага году, то адказнасьць цягнецца да канца наступнага аперацыйнага году.

## VII. Сродкі таварыства.

20. Сродкі таварыства складаюцца з уносаў членаў (§ 9 гэтага статуту), даходаў ад гаспадарчых апярацый, пазычак і іншых крыніц.

21. Сродкі таварыства дзеляцца на капіталы: асноўны, запасны і асобны (спэцыяльны).

22. Асноўны капітал утвараецца з уступных і паявых уносаў членаў, з адлічэньняў ад прыбыткаў на падставе пастановы агульнага сходу, доўгатэрміновых пазычак ад арганізацый і ўстаноў з спэцыяльным прызначэньнем у асноўны капітал і іншых паступленьняў.

23. Для ўзмацненьня аграмаджаных сродкаў таварыства ўтвараецца ў складзе асноўнага непадзельны капітал.

Непадзельны капітал складаецца:

а) з дзяржаўных сродкаў (атрыманая т-вам у бестэрміновую і бяспрацантавую пазычку дзяржаўная маемасьць па ацэнцы ў момант перадачы, скідка па сельска-гаспадарчым падатку, крэдыты ў асноўны капітал, прэміі);

б) з астач уступных уносаў членаў, якія асталіся пасьля выдаткаў па арганізацыі таварыства.

Непадзельны капітал пакідаецца ў поўным распараджэньні т-ва, якое адказвае за яго поўную захавальнасьць, і можа знаходзіцца ў гаспадарчых выдатках і у асноўным, а таксама і ў зваротным капіталах таварыства.

Пры выхадзе альбо выключэньні членаў, а таксама ліквідацыі таварыства, непадзельны капітал ня дзеліцца паміж членамі, а залічаецца ў асобны фонд на разьвіцьцё каляктыўнага земляробства.

24. Для папаўненьня страт таварыства складаецца з адлічэньняў з чыстага прыбытку таварыства ў разьмеры 10 проц. запасны капітал. Парадак складаньня, захоўваньня і выдаткаваньня запаснага капіталу, рэгулюецца пастановаю ЦВК і СНК СССР за 23 мая 1928 г. (З. З. СССР 1928 г. № 34 арт. 299).

25. Асобныя (спэцыяльныя) капіталы ўтвараюцца пастановаю агульнага сходу з адлічэньняў з прыбыткаў таварыства, а таксама з уносаў, устаноўленых агульным сходам для вядзеньня спэцыяльных апярацый таварыства (напрыклад, мэліарацыйныя работы і інш.). Утвараюцца і выдаткоўваюцца спэцыяльныя капіталы паводле правіл, зацьверджаных агульным сходам.

26. Апроч таго, утвараецца амартызацыйны фонд з штогадовых адлічэньняў ад даходаў таварыства; гэты фонд выдаткоўваецца на замену ці капітальны рамонт зношанай маемасьці пастановаю агульнага сходу.

27. Для ўзмацненьня сваіх зваротных сродкаў, таварыства можа браць пазычкі ў дзяржаўных установах, каперацыйных і інш. арганізацыях і асоб, а таксама прымаць ад сваіх членаў уклады сельскагаспадарчым інвэнтаром, насеньнем і іншаю маемасьцю, што перадаецца ў часовае карыстаньне таварыства.

Пазычкі заключаюцца саветам таварыства ў разьмерах і на ўмовах, вызначаных агульным сходам.

## VIII. Арганізацыя агульных гаспадарчых мерапрыемстваў т-ва.

28. Да ліку агульных гаспадарчых мерапрыемстваў, якія таварыства можа праводзіць, належаць:

а) агульны севазварот на плошчы з грамадзкаю апрацоўкаю і зямельных ужытках сваіх членаў;

б) мэліарацыя і бягучае ўгнаеньне паказаных ўжыткаў;

в) аднначасовая раньняя заворка папараў і падрыхтоўка глебы пад пасевы;

г) пасеў адсартаваным збожжам;

д) догляд за пасевам;

е) супольнае прыбіраньне ўраджаю, малацьба і інш.

ж) ................................................................................

з) ................................................................................

і) ................................................................................

На кожнае з паказаных мерапрыемстваў агульны сход, па дакладу савету, зацьвярджае плян на кожную сельска-гаспадарчую кампанію і правілы вядзеньня працы.

29. Сельска-гаспадарчыя і дапаможныя працы т-ва вядуцца ўласнаю працаю ўсіх членаў у парадку, устаноўленым адпаведнымі правіламі (§ 28), па назначэньні савету.

30. У парадку і паводле правіл, устаноўленых агульным сходам, Савет мае права выклікаць на працу асобных членаў т-ва, для гаспадарчай дапамогі іншым членам таварыства, якім яна патрэбна.

31. Ніхто з членаў т-ва бяз важных прычын ня мае права адмаўляцца ад яўкі на працу па выкліку савету і ад вядзеньня працы.

32. Брацца на працу ў т-ва пабочныя асобы могуць толькі ў выключных выпадках, калі ў т-ве не хапае свае рабочай сілы для вядзеньня неадкладных гаспадарчых прац (прыбіраньне з поля збожжа, малацьба, перапрацоўка сельска-гаспадарчых прадуктаў) альбо няма патрэбных спэцыялістаў (аграномаў, рахункаводаў і інш. асоб з спэцыяльнаю падрыхтоўкаю).

33. Сельска-гаспадарчыя і дапаможныя працы вядуцца альбо інвэнтаром т-ва, альбо інвэнтаром самых членаў, альбо і тым і іншым разам. Прычым незаняты інвэнтар кожнага члена можа быць часова скарыстаны ў працы ў гаспадарцы таварыства альбо ў гаспадарках іншых членаў па загаду савету, паводле правіл і на ўмовах, устаноўленых для гэтага агульным сходам.

34. Дапамога працаю або інвэнтаром, якая робіцца на падставе §§ 30 і 33, аднымі членамі другім аплачваецца паводле правіл, устаноўленых агульным сходам. Агульны сход устанаўляе парадак карыстаньня інвэтаром, набытым за агульныя сродкі таварыства.

35. Ураджай і ўсе даходы, атрыманыя ў т-ве, разьмяркоўваюцца паміж яго членамі ў парадку і на падставах, устаноўленых агульным сходам. Пры разьмеркаваньні могуць быць прыняты пад увагу: колькасьць працы, патрачанай у даны пэрыяд асобнымі членамі ў гаспадарчых і дапаможных працах, разьмер зямельнага вучастку, які знаходзіцца ў грамадзкай апрацоўцы, колькасьць інвэнтару, дадзенага членам для супольных прац т-ва, кошт часовых укладаў, унесеных асобнымі членамі т-ва інвэнтаром, насеньнем і інш. маемасьцю, і інш.

## IX. Прыбыткі і страты таварыства.

36. Атрыманыя па зваротах т-ва прыбыткі разьмяркоўваюцца агульным сходам: на папаўненьне асноўнага, у тым ліку і непадзельнага капіталу, запаснага і інш. капіталаў і на іншыя мэты.

37. Страта, якая выявіцца ў зваротах т-ва, папаўняецца з запаснага капіталу, а калі яго ня хопіць—з іншых капіталаў. Агульны сход можа, не чапаючы апошніх, раскласьці нехапаючую суму паміж усімі членамі ў межах адказназнасьці кожнага з іх (§ 12) і назначыць тэрмін для выплаты кожным свае часткі. Калі хто-небудзь ня выплаціць свае часткі, то савет незаплочанае папаўняе паем неплацельшчыка, а нехапаючае спаганяе з яго. Такі расклад страт не спыняе і не зьмяншае дадатковай адказназнасьці членаў за абавязнасьці т-ва пры яго ліквідацыі.

## X. Рахункаводзтва і справаздачнасьць.

38. Справаздачны год т-ва лічыцца з 1 студзеня да 31 сьнежня. Таварыства абавязкова вядзе рахункаводзтва. Не пазьней 3 месяцаў

пасьля сканчэньня справаздачнага году савет таварыства павінен скласьці пісьмовую гадовую справаздачу. Гадовая справаздача праяраецца рэвізійнаю камісіяю і зацьвярджаецца агульным сходам.

## XI. Кіраваньне справамі таварыства.

39. Справамі таварыства кіруюць: агульны сход членаў і савет т-ва.

### *А. Агульны сход.*

40. Агульны сход зьяўляецца вышэйшым кіраўнічым органам таварыства. Яму належыць права агульнага кіраваньня справамі т-ва.

41. Агульны сход зацьвярджае пляны гаспадарчых мерапрыемстваў т-ва, дае па ўсіх справах кіруючыя паказаньні савету таварыства, выслухоўвае і зацьвярджае даклады савету і рэвізійнай камісіі, вырашае пытаньні, якія ўносяцца саветам, рэвізійнаю камісіяю і асобнымі членамі, выбірае членаў савету і рэвізійнай камісіі і вырашае іншыя справы, прадугледжаныя статутам т-ва.

42. Агульныя сходы бываюць чарговыя і надзвычайныя. Чарговыя сходы склікаюцца саветам не радзей аднаго разу ў два месяцы.

Надзвычайныя сходы склікаюцца па пачыну самаго Савету, а таксама на падставе патрабаваньня рэвізійнай камісіі, альбо аднае пятай часткі агульнага ліку членаў т-ва.

43. Агульны сход лічыцца правадзейным, калі на ім прысутнічае ня менш паловы агульнага ліку членаў. Пастановы агульнага сходу выносяцца простаю большасьцю галасоў, адкрытым галасаваньнем. Пастановы агульнага сходу абавязковы для ўсіх членаў таварыства.

Для зьмены статуту, устанаўленьня правіл разьмеркаваньня ўраджаю і іншых даходаў гаспадаркі таварыства і вырашэньня пытаньняў аб прыйманьні і выключэньні членаў, адклікаьня членаў савету і рэвізійнай камісіі, а таксама аб ліквідацыі таварыства патрэбна прысутнасьць 3/4 усіх членаў т-ва і згода 2/3 галасоў прысутных членаў т-ва.

44. Калі склікаты сход не адбудзецца, бо не зьявіўся належны лік членаў, то другі сход назначаецца не раней, як на наступны дзень і не пазьней, чым праз 2 тыдні. Склад другога сходу зьяўляецца законным пры ўсякай колькасьці членаў. Аднак, для вырашэньня пытаньняў, пералічаных у другой частцы § 43, патрэбна і на другім сходзе прысутнасьць 3/4 усіх членаў і згода 2/3 галасоў прысутных членаў.

45. Аб часе і месцы кожнага агульнага сходу, а таксама і аб пытаньнях, якія будуць абмяркоўвацца на сходзе, члены таварыства своечасна павінны быць паведамлены саветам.

46. На пасяджэньнях агульнага сходу абавязкова вядзецца пратакол, які падпісваецца старшынёю и сакратаром сходу.

### *Б. Савет.*

47. Савет зьяўляецца выканаўчым органам таварыства. Савет дзейнічае паводле гэтага статуту, пастаноў агульнага сходу і вядзе ад імя таварыства без асобнай на тое даверанасьці ўсе зносіны з дзяржаўнымі ўстановамі і іншымі арганізацыямі і прыватнымі асобамі.

48. Савет выбіраецца на агульным сходзе з ліку членаў таварыства адкрытым галасаваньнем на 1 год, у колькасьці ня менш трох чалавек і 2-х да іх кандыдатаў, якія замяняюць членаў

савету ў час іх адсутнасьці альбо выхаду. Старшыня савету выбіраецца агульным сходам.

*Увага.* У склад савету і рэвізійнай камісіі ня могуць быць выбраны асобы, якія знаходзяцца ў шлюбе альбо ў сваяцтве да трэцьцяга спарадненьня ўключна (бацькі і дзеці, дзяды і ўнукі, браты і сёстры, дзядзькі і пляменьнікі).

49. Абавязкі членаў савету разьмяркоўваюцца паміж імі на пасяджэньні савету; член савету—скарбнік ня можа выконваць абавязкаў рахункавода.

50. Савет разьмяркоўвае паміж членамі таварыства ўсю бягучую працу і наглядае за парадкам яе выкананьня. Савет павінен ужываць захады да адшуканьня патрэбных для таварыства сродкаў, спаганяць даўгі, захоўваць маемасьць і дакладна яе падлічаць, падлічаць супольную працу членаў т—ва і выконваць іншыя абавязкі, ускладзеныя на яго агульным сходам. Усе галоўнейшыя пытаньні савет уносіць на разгляд агульнага сходу таварыства.

51. Пасяджэньні савету лічацца адбыўшыміся, калі на іх прысутнічае ня менш паловы яго членаў, у тым ліку старшыня савету альбо яго намесьнік. Справы ў савеце вырашаюцца простаю большасьцю галасоў, калі галасоў бывае роўна, то пытаньне пераносіцца на наступнае пасяджэньне савету альбо на агульны сход. Пастановы савету запісваюцца ў кнігу пратаколаў і падпісваюцца ўсімі прысутнымі членамі.

52. Савет, апроч гадовай справаздачы, павінен даваць справаздачы агульнаму сходу аб становішчы спраў таварыства ў тэрміны, вызначаныя агульным сходам. Гадовая справаздача т—ва павінна быць складзена ў пісьмовым відзе.

53. Скаргі на дзеяньні савету прыносяцца агульнаму сходу.

## XII. Рэвізійная камісія.

54. Для праверкі гаспадарчай дзейнасьці савету таварыства, на агульным сходзе выбіраецца рэвізійная камісія з 3 чалавек і 2 да іх кандыдатаў, тэрмінам на 1 год. Камісія мае права рабіць рэвізіі ва ўсякі час па свайму пачыну, а таксама на падставе патрабаваньня $^{1}/_{5}$ часткі членаў таварыства. Рэвізія робіцца не радзей аднаго разу ў 3 месяцы.

55. Рэвізійная камісія дае справаздачу аб сваёй дзейнасьці агульнаму сходу не радзей 2-х раз у год.

## XIII. Аб спыненьні таварыства.

56. Дзейнасьць таварыства спыняецца:

а) пастановаю агульнага сходу членаў,

б) калі лік двароў т—ва будзе меншы 5-ці,

в) пастановаю суда, калі таварыства будзе абвешчана немаемным,

г) пастановаю акругОвага выканаўчага камітэту, альбо раённага выканаўчага камітэту, якая зацьвярджаецца акруговым выканаўчым камітэтам, калі т—ва ўхіляецца ад статуту альбо ўхіляецца ў бок, супраціўны інтарэсам дзяржавы,

д) калі таварыства злучаецца з іншаю калектыўнаю арганізацыяю.

57. Парадак спыненьня т—ва, тэрміны ліквідацыі, парадак дзейнасьці ліквідацыйнай камісіі і задаволеньня патрабаваньня крэды-

тораў вызначаецца палажэньнем аб парадку спыненьня капэрацыйных арганізацый пры іх ліквідацыі, злучэньні і падзяленьні, зацьверджаным ЦВК і СНК Саюзу ССР за 15 чэрвеня 1927 г. (З. З. СССР 1927 г., № 37, арт. 139) і пастановы СНК БССР за 4 студзеня 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 3, арт. 17).

58. Паі членам таварыства зварочваюцца не раней выплаты даўгоў т—ва і ў кожным розе не раней трох месяцаў ад дня абвяшчэньня аб назначэньні ліквідацыі. Пасьля выплаты даўгоў т—ва, звароту членам іх паёў і выдзяленьня непадзельнага капіталу, рэшце маемасьці даецца прызначэньне паводле пастановы агульнага сходу. Атрыманыя ад дзяржавы прамысловыя і дапаможныя прадпрыемствы пры ліквідацыі т—ва ідуць у распараджэньне акруговых выканаўчых камітэтаў паводле пастановы СНК БССР за 1 лютага 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 10, арт. 79).

## XIV. Зьмена і дапаўненьне статуту.

59. Агульны сход таварыства можа паводле § 43 гэтага статуту зьмяніць і дапоўніць гэты статут. Аб усіх зьменах у статуце савет таварыства павінен неадкладна паведаміць установу, якая зарэгістравала статут таварыства, і толькі пасьля рэгістрацыі зьмен гэткія набываюць законную сілу.

---

Зацьверджаны Эканамічнаю Нарадаю пры Савеце Народных Камісараў БССР 18 чэрвеня 1928 г.

# 5. Тыповы Статут Малочнага Таварыства.

## I. Мэты і задачы таварыства.

§ 1. На падставе існуючых законапалажэньняў аб сельска-гаспадарчай капярацыі ўтвараецца таварыства з назваю ..............................................

..............................................

..............................................

§ 2. Дзейнасьць таварыства пашыраецца на наступныя залюднёныя пункты: ..............................................

..............................................

..............................................

Кіраўніцтва таварыства знаходзіцца ў ..............................................

.............................................. раёну .............................................. акругі

§ 3. Таварыства мае на мэце дапамагаць палепшаньню і разьвіцьцю малочнай гаспадаркі сваіх членаў і падняцьцю прыбытковасьці гаспадаркі праз:

а) арганізацыю супольнай найлепшай і дасканалай перапрацоўкі малака на заводах таварыства;

б) арганізацыю супольнага найбольш выгаднага збыту малака і прадуктаў, атрыманых ад пераапрацоўкі малака;

в) дапамаганьне сваім членам у разьвіцьці і палепшаньні іх малочнай жывёлы, а таксама ў агульным палепшаньні іх гаспадарак;

г) забясьпечаньне сваіх членаў прадметамі і прадуктамі, патрэбнымі ім для вытворчасьці і хатняга ўжытку;

д) адшуканьне крэдыту і пазычак для агрыкультурных, гаспадарчых і інш. мерапрыемстваў і

е) распаўсюджваньне сельска-гаспадарчых ведаў у раёне сваей дзейнасьці.

§ 4. Для дасягненьня паказаных мэтаў таварыства мае права:

а) адчыняць масларобныя, сыраробныя і сьмятанныя заводы і іншыя адпаведныя прадпрыемствы;

б) будаваць скляпы, ляднікі, склады і памяшканьні для захаваньня прадуктаў і кармоў;

в) арганізоўваць паказальнае кармленьне, правільнае гадаваньне, догляд і ўтрыманьне на пашы і ў стойлах малочнай жывёлы, будаваць паказальныя цёплыя хлявы, злучныя пункты быкоў і кныроў і праводзіць кантрольную працу над буйнаю рагатаю жывёлаю;

г) арганізоўваць ухваленьне вытворцаў (быкоў, кныроў), выстаўкі маладняку і дарослай жывёлы, весьці кнігу заводзкай жывёлы;

д) запрашаць на пасаду спэцыялістаў па малочнай гаспадарцы, заотэхнікаў, аграномаў;

е) арганізоўваць калянтыўныя выхавальнікі маладняку і заводзкія рассаднікі буйнай рагатай жывёлы і сьвіней;

ж) весьці культурна-паказальную працу ў галіне здабываньня корму на паказальных вучастках і ў гаспадарках сваіх членаў;

з) арганізоўваць закупку і збыт малочнай жывёлы і малочных прадуктаў;

і) загатаўляць для членаў канцэнтраваныя кармы, малочную пасуду і інш. матар'ялы, прадметы і прадукты;

к) дапамагаць членам таварыства атрымоўваць вытворчыя пазычкі ў крэдытных установах для малочнай гаспадаркі;

л) арганізоўваць вэтэрынарны догляд за жывёлаю сваіх членаў і вэтэрынарную дапамогу яму;

м) ажыцьцяўляць страхаваньне жывёлы таварыства і дапамагаць страхаваць жывёлу сваіх членаў;

н) арганізоўваць чытаньні, гутаркі, курсы, школы, экскурсіі, чытальні і бібліатэкі;

о) сумесна абмяркоўваць пытаньні, што ўзьнікаюць у гаспадарках яго членаў, зьбіраць і распрацоўваць матар'ялы, якія тычацца вядзеньня малочнай справы і гаспадарак пайшчыкаў;

п) арганізоўваць іншыя мерапрыемствы для дасягненьня вызначаных мэт.

§ 5. Таварыства можа набываць і адчужаць маемасьць, заключаць усялякія дагаворы і абавязнасьці, у тым ліку выдаваць, прымаць і дыскантаваць вэксалі, атрымоўваць пазычкі ў дзяржаўных, каперацыйных і іншых установах і ў прыватных асоб, прававацца на судзе і наогул карыстацца ўсімі правамі юрыдычнай асобы.

§ 6. На падставе пастановы агульнага сходу, або сходу ўпаўнаважаных, таварыства можа разам з іншымі малочнымі таварыствамі арганізоўваць саюзы і ўваходзіць у іх для супольнай дзейнасьці,

а таксама ўваходзіць членам у іншыя каперацыйныя аб'яднаньні і сельска-гаспадарчыя таварыствы раёну.

§ 7. Даўгавыя абавязнасьці таварыства забясьпечваюцца ўсёю маемасьцю яго, а таксама дадатковаю адказнасьцю членаў яго, паводле § 12 гэтага статуту.

§ 8. Таварыства мае пячатку з паказаньнем свае назвы.

## II. Склад таварыства, правы, абавязкі і адказнасьць членаў.

§ 9. Членамі таварыства могуць быць усе грамадзяне (мужчыны і жанчыны), якія маюць 18 гадоў і маюць малочную жывёлу ў раёне таварыства, або займаюцца ў раёне т-ва сельскаю гаспадаркаю, або зьвязанымі з ёю промысламі.

Калі член таварыства ня можа прысутнічаць на агульным сходзе, то ён можа перадаць права пастаноўчага голасу на гэтым сходзе асобнаю заяваю ў кіраўніцтва т-ва члену свае сям'і або двара.

Апроч прыватных асоб, у члены таварыства могуць уваходзіць таксама каперацыйныя аб'яднаньні (сельска-гаспадарчыя камуны, сельска-гаспадарчыя арцелі, т-вы грамадзкай апрацоўкі зямлі), а таксама савецкія гаспадаркі і інш. арганізацыі, калі яны маюць малочную гаспадарку ў раёне т-ва, або зацікаўлены ў разьвіцьці малочнай гаспадаркі і жывёлагадоўлі.

*Увага*: Членамі т-ва ня могуць быць асобы, пазбаўленыя выбарных праў у саветы, а таксама асобы, якія ўжо зьяўляюцца членамі арганізацыі з аднолькаваю дзейнасьцю.

§ 10. Члены ў т-ва прымаюцца кіраўніцтвам і зацьвярджаюцца агульным сходам. Калі кіраўніцтва адмовіцца прыняць, то можа быць пададзена скарга на агульны сход праз рэвізійную камісію, якая дае агульнаму сходу сваё заключэньне па скарзе.

§ 11. Член, які ўваходзіць у т-ва, павінен даць падпіску аб тым, што ён будзе выконваць статут т-ва і пастановы агульнага сходу, або сходу ўпаўнаважаных, а таксама, што ён бярэ на сябе адказнасьць па справах таварыства, паводле § 12 гэтага статуту.

§ 12. Кожны член таварыства адказвае за абавязнасьці таварыства сумаю заплачаных і незаплачаных яшчэ паёў, а таксама і сваёю маемасьцю, пры чым гэта дадатковая маемасная адказнасьць ня можа быць большаю павялічанай у .................. раз сумы абавязковых паёў (заплачаных і незаплачаных).

§ 13. Член, што ўваходзіць у т-ва, адказвае і за тыя абавязнасьць, якія ўзьнікліі да яго ўваходу.

§ 14. Член, што ўваходзіць у т-ва, павінен заплаціць уступны і паявы ўносы (§ 28).

§ 15. Уваходзячы ў т-ва, член павінен заявіць кіраўніцтву для запісу ў кнігах т-ва аб колькасьці свае малочнай жывёлы, (кароў, быкоў, няцеляй і інш.), а таксама павінен аб кожнай зьмене ў колькасьці гэтай жывёлы неадкладна паведамляць т-ва.

§ 16. Член т-ва павінен здаваць малако ад сваіх кароў толькі ў свае т-ва і ня мае права прадаваць малака або малочных прадуктаў скупшчыкам, або здаваць яго ў іншае т-ва. Малако для патрэб сям'і члены могуць ужываць бяз усякага абмежаваньня. Член т-ва, які не дастаўляе малако без важных прычын у таварыства на працягу году, лічыцца вышаўшым з таварыства пасьля сканчэньня справаздачнага году.

§ 17. Члены таварыства павіны здаваць малако зусім добраякаснае, цэльнае, неразбаўленае і чыстае. Малако ад хворых кароў і малако ў працягу першых сямі дзён пасьля ацяленьня не павінна здавацца на завод.

Калі малако псуецца наўмысна, здаецца на завод ад хворых кароў, ці кароў у працягу 7 дзён пасьля ацяленьня, то члены таварыства, вінаватыя ў гэтым, выплачваюць таварыству страты, ў разьмеры і паводле правіл, вызначаных агульным сходам, або сходам упаўнаважаных.

§ 18. Кіраўніцтвам таварыства ўстанаўляецца кантроль за якасьцю малака, якое здаецца на каперацыйны завод.

Апроч гэтага, малако можа правярацца і праз браньне пробы ў час даеньня.

§ 19. Для правільнай аплаты за малако можа ўстанаўляцца разрахунак па процанце знаходжаньня ў ім жыру, па яго сьвежасьці і чыстаце.

§ 20. Аб усякім захварэньні свае жывёлы член т-ва павінен неадкладна паведаміць кіраўніцтва; калі будзе выяўлена заразная хвароба, то ён павінен выконваць усе распараджэньні кіраўніцтва, якія маюць на мэце ліквідацыю заразнай хваробы.

§ 21. Калі член таварыства, выкрыты ў шматразовай здачы наўмысна псаванага малака, або малака ад хворых кароў, ці кароў у працягу 7 дзён пасьля ацяленьня, ня выконвае сваіх абавязнасьцяй перад таварыствам, парушае статут, ня выконвае законных патрабаваньняў т-ва і наогул дзейнічае для шкоды таварыства, то ён можа быць па прапанове кіраўніцтва выключан з таварыства агульным сходам або сходам упаўнаважаных.

§ 22. Кожны член таварыства ўдзельнічае ў кіраваньні справамі т-ва, прысутнічаючы на агульных сходах, і мае права карыстацца ў сваіх гаспадарчых справах дапамогаю таварыства паводле правіл, вызначаных агульным сходам або сходам упаўнаважаных.

§ 23. Кожны член таварыства мае права выйсьці з т-ва, падаўшы аб гэтым пісьмовую заяву.

§ 24. Для разьлічэньня з таварыствам, днём выхаду члена лічыцца апошні дзень таго аперацыйнага году, у якім член выйшаў дабравольна, выключаны або памёр. Самае-ж разьлічэньне з выйшаўшым робіцца праз тры месяцы пасьля зацьверджаньня агульным сходам альбо сходам упаўнаважаных справаздачы за той аперацыйны год, на працягу якога член выйшаў. Выйшаўшаму члену або яго спадчынаемцам варочаецца паявы ўнос з налічэньнем прыбытку і выключэньнем страт, што прыпадаюць на яго долю.

Права ўдзелу ў агульных сходах выйшаўшыя члены трацяць з дня падачы заявы аб выхадзе альбо з дня выключэньня.

*Увага 1.* Правы памершага да яго спадчынаемцаў не пераходзяць апроч паявых уносаў памершага і належачых яму прыбыткаў; спадчынаемцы памёршага павінны адказваць за страты, якія прыпадаюць на памёршага члена пасьля разьмеркаваньня.

*Увага 2.* Калі да сканчэньня маемаснага разрахунку з спадчынаемцамі памёршага члена, які быў гаспадаром, у склад членаў т-ва ўвойдзе яго спадчынаемец па гаспадарцы, то паявыя і іншыя уносы памёршага, якія павінны быць зьвернуты, пералічваюцца на новага члена, да якога пераходзяць і абавязкі па дадатковай адказнасьці памёршага члена.

§ 25. Выключаныя з таварыства члены могуць быць прыняты зноў у таварыства пастановаю агульнага сходу, альбо сходу упаўнаважаных.

§ 26. Выйшаўшыя і выключаныя члены таварыства і іх спадчыаемцы за абавязнасьці т-ва, якія ўзьнiклі да іх выхаду, адказваюць у межах дадатковай адказнасьці (§ 12) да канца наступнага, аперацыйнага году.

## III. Сродкі таварыства.

§ 27. Сродкі таварыства складаюцца з: а) уступных і паявых уносаў, б) даходаў ад прадпрыемстваў і апярацый т-ва, в) абавязковых і дабравольных уносаў членаў т-ва, г) пазычак ад дзяржаўных і грамадзкіх устаноў і розных асоб і д) ахвяраваньняў і інш. паступленьняў.

§ 28. Уступны ўнос (§ 14) устанаўляецца:

а) для асобных членаў т-ва ў ..........

б) для каперацыйных арганізацый, савецкіх гаспадарак і іншых арганізацый ..........

Паявы ўнос устанаўляецца ў .......... з кожнай каровы члена таварыства.

Для паасобных каперацыйных арганізацый, савецкіх гаспадарак і іншых арганізацый, што ўваходзяць у члены т-ва, колькасьць абавязковых паявых уносаў вызначаецца агульным сходам, які пры гэтым бяре пад увагу лік членаў арганізацыі і тыя ці іншыя гаспадарчыя адзнакі.

*Увага* 1. Для выплаты паявых і ўступных уносаў могуць быць устаноўлены раты паводле правілаў, зацьверджаных агульным сходам, альбо сходам упаўнаважаных. У паасобку ўступныя і паявыя ўносы можна папаўняць праз утрыманьне пры разрахунках за зданае малако.

*Увага* 2. Гранічны разьмер усіх абавязковых уносаў, апроч. уступных і паявых, на кожнага члена ня можа перавышаць .......... рублёў.

§ 29. Сродкі таварыства разьмяркоўваюцца на капіталы: асноўны і запасны. Апроч таго, пастановаю агульнага сходу, альбо сходу ўпаўнаважаных могуць утварацца спэцыяльныя капіталы.

§ 30. Асноўны капітал складаецца: а) з уступных і паявых уносаў членаў т-ва, б) з сум, ахвяраваных альбо ім пазычаных, в) з адлічэньняў ня менш 10% з чыстага прыбытку, г) з іншых крыніц паводле пастановы агульнага сходу альбо сходу ўпаўнаважаных.

§ 31. Асноўны капітал скарыстоўваецца для набыцьця маемасьці, для будаваньня і абсталяваньня прадпрыемстваў т-ва і для яго звароту.

§ 32. Паявыя ўносы ў асноўны капітал падлічваюцца асобна.

§ 33. Запасны капітал складаецца з адлічэньняў ад чыстага прыбытку у разьмеры 10% і прызначаецца для папаўненьня страт т-ва.

Парадак складаньня, і захоўваньня і выдаткаваньня запаснага капіталу, рэгулюецца пастановай ЦВК і СНК СССР за 23 мая 1928 г. (З. З. СССР 1928 г., № 34, арт. 299).

§ 34. Спэцыяльныя капіталы могуць быць складзены:

а) з адлічэньняў ад чыстага прыбытку (§ 89); б) з дабравольных і абавязковых уносаў; в) з пазычак спэцыяльнага прызначэньня; г) іншымі спосабамі на падставе пастановы агульнага сходу альбо сходу ўпаўнаважаных.

Спэцыяльныя капіталы прызначаюцца на вядзеньне якіх-небудь спэцыяльных апярацый і на папаўненьне страт, якія могуць ад гэтага быць. Парадак утварэньня і выдаткаваньня гэтых капіталаў вызначаецца агульным сходам альбо сходам упаўнаважаных.

§ 35. На паі членаў ня могуць быць накіраваны спагнаньні па даўгох і абавязнасьцях, а таксама па накіраваных да іх адміністрацыйных патрабаваньнях.

## IV. Кіраваньне справамі таварыства і кантроль.

§ 36. Органамі кіраваньня таварыства зьяўляюцца: агульны сход альбо сход упаўнаважаных і кіраўніцтва. Апроч таго, пастановаю агульнага сходу альбо сходу ўпаўнаважаных можа быць утворан савет. Органам кантролю зьяўляецца рэвізійная камісія.

У склад савету, кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі ня могуць вуаходзіць адначасна асобы, якія знаходзяцца паміж сабою у шлюбе альбо ў сваяцтве да трэцьцяга спарадненьня уключна (бацькі і дзеці, браты і сёстры, дзяды і ўнукі, дзядзькі і пляменьнікі).

### А. *Агульны сход.*

§ 37. На агульных сходах маюць права ўдзельнічаць з пастаноўчым голасам усе асобы і арганізацыі, якія лічацца членамі т-ва, пры чым кожны фізычны член таварыства мае права толькі на адзін голас.

Юрыдычныя асобы, якія лічацца членамі т-ва, удзельнічаюць на агульных сходах праз сваіх прадстаўнікоў і маюць лік галасоў па вызначэньні агульнага сходу ці сходу упаўнаважаных пры прыйманьні ў т-ва; лік галасоў вызначаецца кожнай юрыдычнай асобе ў залежнасьці ад ліку аб'яднаных у яе гаспадарак, членаў і наогул гаспадарчага яе значэньня. Арганізацыі, якія не збываюць малака, маюць права пасылаць на агульны сход па аднаму прадстаўніку з правам аднаго голасу.

> *Увага.* Права ўдзелу з пастаноўчым голасам на агульным сходзе таварыства можа быць перададзена, калі член ня мае магчымасьці прысутнічаць на сходзе, па яго заяве, члену яго сям'і паводле § 9.

§ 38. У кампэтэнцыю агульных сходаў уваходзіць:

а) разгляд і зацьверджаньне гадовай справаздачы, каштарысу і пляна ў дзейнасьці на будучы год;

б) вызначэньне ліку членаў кіраўніцтва, савету і рэвізійнай камісіі, іх выбары і звальненьне;

в) вызначэньне платы ўсім выбраным асобам;

г) зацьверджаньне інструкцый, якія вызначаюць парадак дзеяньняў кіраўніцтва, рэвізійнай камісіі і іншых органаў і службовых асоб;

д) вырашэньне пытаньняў аб падняцьці судовага перасьледаваньня супроць выбраных службовых асоб таварыства;

е) вырашэньне пытаньня аб набыцьці, заставе і адчужэньні будынкаў, прадпрыемстваў і права забудоўкі;

ж) вырашэньне пытаньняў, зьвязаных з выдаткаваньнем запаснага капіталу і разьмеркаваньнем прыбыткаў і страт;

з) устанаўленьне ўмоў і граніц заключэньня пазычак, вызначэньне рат для ўнясеньня паявых уносаў;

і) зьмена і дапаўненьне статуту;

к) вырашэньне пытаньняў аб арганізацыі саюзаў альбо аб уваходзе ў існуючыя саюзы, а таксама і ў таварыствы;

л) вырашэньне пытаньняў аб ліквідацыі і спыненьні спраў таварыства;

м) утварэньне спэцыяльных капіталаў, вызначэньне адлічэньняў для ўтварэньня спэцыяльных і папаўненьня асноўнага капіталаў т-ва і парадку іх выдаткаваньня;

н) выключэньне членаў т-ва і прыманьне выключаных;

о) выбары прадстаўнікоў т-ва для ўдзелу на сходзе ўпаўнаважаных саюзу;

п) устанаўленьне правілаў і ўмоў кaперацыйнага збыту;

р) выпукваньне і абмеркаваньне спосабаў далейшага разьвіцьця і палепшаньне спраў таварыства;

с) усе іншыя справы якія перавышаюць паўнамоцтвы кіраўніцтва.

§ 39. Чарговыя агульныя сходы адбываюцца не радзей аднаго разу ў год, не пазьней чым праз тры месяцы пасьля скончэньня аперацыйнага году. Надзвычайныя агульныя сходы склікаюцца кіраўніцтвам па меры патрэбы, альбо па запатрабаваньні рэвізійнай камісіі, альбо аднае дзясятай часткі членаў таварыства.

*Увага.* Калі агульны сход ня будзе склікан кіраўніцтвам на працягу двух тыдняў з часу заявы аб гэтым, то сход склікаецца рэвізійнаю камісіяю.

§ 40. Аб часе скліканьня агульных сходаў і пытаньнях, якія будуць абмяркоўвацца на іх, кіраўніцтва павінна паведаміць членаў т-ва, вывесіўшы аб гэтым на відных мясцох ва ўсіх пунктах, дзе прымаецца малако ад членаў, абвесткі не пазьней, чымся за тыдзень да сходу.

§ 41. Агульны сход лічыцца адбыўшымся, калі на ім прысутнічае ня менш 1/3 усяго ліку членаў т-ва, пры чым для вырашэньня пытаньняў аб зьмене статуту т-ва, аб вызначэньні абавязковых уносаў, аб разьмеркаваньні стратаў, аб выключэньні членаў з т-ва, аб спыненьні дзейнасьці т-ва—патрэбен удзел у сходзе ня менш 1/2 членаў. Калі агульны сход не адбудзецца з тае прычыны, што ня будзе патрэбнага ліку членаў, то не пазьней двух тыдняў склікаецца другі сход, пастановы якога правамоцны пры ўсякім ліку прысутных членаў па пытаньнях, пастаўленых на павестцы неадбыўшагася сходу.

*Увага.* Па запрашэньні кіраўніцтва на агульным сходзе могуць удзельнічаць з дарадчым голасам асобы, якія ня лічацца членамі т-ва.

§ 42. Агульны сход выбірае старшыню і сакратара. Асобы, якія ўваходзяць у склад кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі, ня могуць быць выбраны за старшыню агульнага сходу.

§ 43. Пастановы агульнага сходу прымаюцца простаю большасьцю галасоў прысутных членаў. Для вырашэньня-ж пытаньняў аб зьмене статуту, аб абавязковых уносах, аб разьмеркаваньні страт, аб выключэньні членаў з таварыства, аб пераходзе на сходы ўпаўнаважаных і аб зачыненьні т-ва патрэбна большасць 2/3 галасоў.

§ 44. На агульным сходзе кожны член мае права заявіць супроць прынятай пастановы сваю асобную думку і патрабаваць запісаньня яе ў пратакол.

§ 45. Члены кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі ўдзелнічаюць на агульным сходзе на роўных правох, але бяз права пастаноўчага голасу пры вырашэньні пытаньняў: а) аб зацьверджаньні пададзеных імі справаздач; б) аб ацэнцы дзейнасьці іх; в) аб вызначэньні ім платы; г) аб іх выбары; д) аб датэрміновым звальненьні іх і е) аб прыцягненьні іх да судовай адказнасьці.

§ 46. Пастановы агульнага сходу запісваюцца ў кнігу пратаколаў і падпісваюцца старшынёю, сакратарам і ня менш, як 3 членамі удзельнікамі сходу.

*Увага*. Да пратаколу прыкладаецца сьпіс усіх членаў, што прысутнічалі на сходзе; сьпіс падпісваецца асобамі, якія падпісалі пратакол сходу.

§ 47. Пастановы агульнага сходу уваходзяць у законную сілу зараз-жа пасьля іх прыняцьця, апроч пастаноў аб зьмене статуту, якія ўваходзяць у сілу пасьля рэгістрацыі іх у парадку вызначаным для рэгістрацыі статутаў.

§ 48. Калі лік членаў таварыства будзе перавышаць 300, то агульны сход можа пастанавіць склікаць сход упаўнаважаных, якія выбіраюцца членамі таварыства тэрмінам на 1 год на раённых сходах (§ 51).

*Б. Сход ўпаўнаважаных і раённыя сходы.*

§ 49. Сход упаўнаважаных зьяўляецца паўнамоцным органам кіраваньня таварыства; ён вырашае справы і пытаньні, якія ўваходзяць у кампэтэнцыю агульнага сходу (§§ 39-49)

§ 50. Сход упаўнаважаных склікаецца на наступных падставах:

а) таварыствы, якія налічваюць ад 300 да 400 членаў, выбіраюць упаўнаважаных па аднаму ад кожных 5 членаў т-ва;

б) таварыствы, якія налічваюць ад 400 да 800 членаў, выбіраюць упаўнаважаных па аднаму ад кожных 8 членаў т-ва;

в) таварыствы, якія налічваюць 800 і больш членаў, выбіраюць аднаго упаўнаважанага на кожныя 10 членаў;

г) гранічныя нормы колькасьці ўпаўнаважаных не павінны перавышаць 150 чал.

§ 51. Раённыя сходы (§ 4 48) складаюцца з членаў таварыства асобных паселішчаў, груп паселішчаў альбо частак паселішчаў, якія абслугоўваюцца таварыствам.

*Увага*. Колькасьць і мяжы раёнаў, з якіх склікаюцца раённыя сходы вызначаюцца кіраўніцтвам таварыства.

§ 52. Раённыя сходы склікаюцца кіраўніцтвам таварыства і вядуцца паводле §§ 37, 40, 42, 44, і 46 гэтага статуту.

Для правамоцнасьці раённага сходу патрэбен удзел у ім ня менш $^3/_4$ членаў.

Другі сход, які склікаецца паводле § 41 статуту с тае прычыны, што незьявіўся на першы сход патрэбны лік членаў, правамоцны пры ўсякім ліку іх.

§ 53. Раённыя сходы выслухоўваюць даклады па справах т-ва, абмяркоўваюць пляны дзейнасьці і справаздачы кіраўніцтва, а таксама пытаньні, на які раённы сход лічыць патрэбным даць наказ сваім дэлегатам.

§ 54. Сход упаўнаважаных склікаецца кіраўніцвам т-ва і вядзецца паводле правіл, вызначаных для агульныга сходу.

§ 55. Сход упаўнаважаных лічыцца адбыўшымся, калі на ім прысутнічае ня менш паловы ўсіх выбраных раённымі сходамі ўпаўнаважаных. Калі на сход упаўнаважаных не зьявіцца патрэбны лік членаў, то ўжываецца парадак, вызначаны ў § § 41 і 43.

§ 56. Апроч ўпаўнаважаных, на сходзе упаўнаважаных маюць права пастаноўчага голасу члены кіраўніцтва, рэвізійнай камісіі і савету, калі апошні ўтворан у таварыстве, але апроч пытаньняў:

а) аб ацэнцы іх дзейнасьці, б) аб назначэньні ім платы, в) аб датэрміновым іх звальненьні, г) аб прыцягненьні іх да адказнасьці, д) аб зацьверджаньні справаздачы.

Кожны дэлегат карыстаецца на сходзе правам на адзін голас.

На сходзе ўпаўнаважаных могуць удзельнічаць з правам дарадчага голасу і асобы, што ня лічацца ўпаўнаважанымі, але запрошаны кіраўніцтвам і якім дазволіў агульны сход.

## *В. Кіраўніцтва.*

§ 57. Беспасрэднае вядзеньне спраў таварыства ўскладаецца на кіраўніцтва, якое складаецца ня менш, як з трох членаў, выбраных агульным сходам альбо сходам упаўнаважаных на 1 год. Для замены членаў кіраўніцтва, якія выйшлі альбо адлучыліся, выбіраюцца кандыдаты да іх у ліку, вызначаным агульным сходом альбо сходам упаўнаважаных.

*Увага.* Калі скончыцца паўнамоцтва, то члены кіраўніцтва, што выйшлі, могуць быць ізноў перавыбраны.

§ 58. Члены кіраўніцтва разьмяркоўваюць паміж сабою абвязкі па ўзаемнай згодзе і выбіраюць старшыню кіраўніцтва.

§ 59. Пасяджэньні кіраўніцтва склікаюцца старшынёю кіраўніцтва альбо яго намесьнікам, калі гэта трэба, але не радзей 2 разоў у месяц.

§ 60. Пасяджэньні кіраўніцтва лічацца адбыўшыміся, калі на іх прысутнічае ня менш трох членаў кіраўніцтва

*Увага* 1. Калі адсутнічае альбо хварэе член кіраўніцтва, то яго замяняе кандыдат.

*увага* 2. Пастановы кіраўніцтва запісваюцца ў кнігу пратаколаў падпісваюцца ўсімі членамі кіраўніцтва, якія прысутнічалі на пасяджэньні.

§ 61. Справы кіраўніцтва вырашаюцца простаю большасьцю галасоў; калі галасоў бывае роўна, то голас старшыні дае перавагу.

§ 62. На кіраўніцтва бяз асобнай на гэта даверанасьці ўскладаецца прадстаўніцтва т-ва і вядзеньне ўсіх яго спраў. Усе зносіны таварыства вядуцца ад імя кіраўніцтва і падпісваюцца старшынёю альбо яго намесьнікам. Вэксалі, дагаворы, абазязнасьці, даверанасьці, чэкі і інш. патрабаваньні на атрыманьне сум з розных арганізацый і ўстаноў падпісваюцца 2 членамі кіраўніцтва, у тым ліку старшынёю альбо яго намесьнікам.

§ 63. У паасобку, на кіраўніцтва т-ва ўскладаецца:

а) агульнае загадваньне заводамі і іншымі прадпрыемствамі таварыства і нагляд за санітарна-тэхнічным становішчам і спраўнаю іх працаю;

б) прыйманьне новых членаў у таварыства з наступным зацьверджаньнем агульным сходам альбо сходам упаўнаважаных;

в) выконваньне пастаноў агульнага сходу альбо сходу упаўнаважаных;

г) збыт малака, масла, сыру і інш. прадуктаў таварыства;

д) набыцьце за гатоўку і ў крэдыт патрэбнай таварыству маемасьці, прадуктаў і матар'ялаў, а таксама захаваньне і выдатkаваньне іх;

е) атрыманьне тавар ыскіх грошай ад прыватных, грамадзкіх і дзяржаўных ўстаноў і асоб;

ж) страхаваньне маемасьці таварыства, а таксама і даручанай яму маемасьці;

з) загадваньне касаю, рахункаводзтвам і справаводзтвам таварыства;

і) найманьне і звальненьне майстроў і іншых служачых паводле законаў аб працы;

к) нагляд за працаю і захоўваньнем санітарна-тэхнічных правіл майстрамі і служачымі;

л) атрыманьне карэспандэнцыі і пасылак з пошты, тавараў і ўсякага цяжару з чыгункі і параходаў;

м) вядзеньне ўсіх спраў таварыства ў судовых і іншых дзяржаўных установах;

н) разьмеркаваньне сум для разрахунку за малако і іншыя прадукты сярод пайшчыкаў-членаў;

о) скліканьне чарговых і надзвычайных агульных сходаў альбо сходаў упаўнаважаных;

п) прыйманьне ўсякіх ўносаў і выплат, вядзеньне выдаткаў паводле зацьверджанага агульным сходам альбо сходам ўпаўнаважаных каштарысу, захаваньне і выдача сум таварыства;

р) складаньне штомесячных і гадовай справаздачы аб дзейнасьці т-ва, а таксама пляну, каштарысу прыходаў і расходаў у наступным годзе для падачы іх агульнаму сходу альбо сходу ўпаўнаважаных на зацьверджаньне;

с) складаньне розных правілаў і інструкцый для падачы іх агульнаму сходу альбо сходу упаўнаважаных на зацьверджаньне;

т) вядзеньне сьпісу асоб, якія лічацца членамі таварыства, і паявых уносаў асобных членаў, паказваючы лік кароў у кожнага члена і разьмер адказнасьці іх за абавязнасьці таварыства;

у) выдача вексалёў, даверанасьцяй і абавязнасьцяй, а таксама заключэньне ад імя таварыства ўсякіх угод і дагавораў;

ф) нагляд за пастаноўкаю малочнай справы ў членаў таварыства і догляду за жывёлаю, абгляд жывёлы, узяцьцё ў час удою проб малака для вызначэньня якасьці яго (§ 19);

х) выконваньне іншых абавязкаў, якія вынікаюць з статуту і пастаноў агульнага сходу ўпаўнаважаных.

§ 64. Агульны сход альбо сход упаўнаважаных можа назначыць членам кіраўніцтва плату, як сталае ўтрыманьне.

§ 65. Скаргі на кіраўніцтва падаюцца ў рэвізійную камісію, якая ўносіць іх на разгляд агульнага сходу альбо сходу упаўнаважаных з сваім заключэньнем.

§ 66. Члены кіраўніцтва могуць быць да тэрміну зьняты з працы пастановаю агульнага сходу альбо сходу ўпаўнаважаных.

§ 67. Члены кіраўніцтва, што парушылі свае абавязкі, адказваюць усёю маемасьцю за ўсе страты, зробленыя імі таварыству.

Па тых справах, якія даручаны агульным сходам альбо сходам упаўнаважаных толькі аднаму з членаў кіраўніцтва, іншыя члены кіраўніцтва не нясуць адказнасьці, калі яны ня мелі магчымасьці папярэдзіць шкоду. Член кіраўніцтва, які заявіў пры вырашэньні пытаньня, што ён астаецца пры асобнай думцы, не нясе адказнасьці за страты, выкліканыя гэтаю пастановаю.

*Г. Даверaны.*

§ 68. Кіраўніцтва з дазволу агульнага сходу альбо сходу ўпаўнаважаных можа ўскласьці кіраваньне бягучымі справамі таварыства на адну асобу з свайго складу. Асоба гэта дзейнічае ў межах даверанасьці кіраўніцтва пад агульным наглядам апошняга і адказнасьцю кіраўніцтва ў цэлым.

§ 69. Не радзей аднаго разу ў месяц даверaны павінен даваць кіраўніцтву справаздачу аб сваёй дзейнасьці, аб становішчы спраў таварыства, у тым ліку грашовую справаздачу.

*Д. Савет.*

§ 70. Савет можа ўтварацца пастановаю агульнага сходу альбо сходу ўпаўнаважаных.

§ 71. На савет ускладаецца нагляд за мэтазгоднасьцю вядзеньня спраў кіраўніцтва і за выконваньнем ім статуту таварыства, законаў, інструкцый і законных пастаноў агульных сходаў альбо сходаў упаўнаважаных. Для гэтай мэты савету павінны быць адчынены каса, дакумэнты, рахункаводзтва, справаводзтва і, наогул, усе справы таварыства.

У паасобку на савет ускладаецца:

а) вырашэньне разам з кіраўніцтвам па даручэньні агульнага сходу альбо сходу ўпаўнаважаных пытаньняў аб прыйманьні членаў у таварыства;

б) папярэдні разгляд плянаў дзейнасьці т-ва, складзеных кіраўніцтвам, правіл па апярацыях, інструкцый і ўсіх прапаноў, што ўносяцца на вырашэньне агульнага сходу альбо сходу ўпаўнаважаных, і падача па іх свайго заключэньня;

в) разгляд складзеных кіраўніцтвам балянсаў, справаздач і праектаў разьмеркаваньне чыстага прыбытку і папаўненьня страт і падача па іх заключэньняў агульнаму сходу альбо сходу ўпаўнаважаных;

г) вырашэньне скаргаў на кіраўніцтва, якія прыносяцца ў савет, падача агульнаму сходу альбо сходу ўпаўнаважаных заключэньняў па скаргах на кіраўніцтва тады, калі скаргі прыносяцца агульнаму сходу альбо сходу ўпаўнаважаных;

д) разгляд усіх іншых спраў, якія перадаюцца агульным сходам альбо сходам упаўнаважаным на вырашэньне савету.

§ 72. Савет робіць паказаньні кіраўніцтву на дапушчаныя ім няправільныя і неадпавядаючыя інтарэсам таварыства дзеяньні. Калі будуць выяўлены значныя непарадкі і злаўжываньні ў справах таварыства, то савет павінен склікаць надзвычайны агульны сход альбо сход упаўнаважаных.

§ 73. Савет складаецца ня менш, чымся з 5-х членаў і 2-х кандыдатаў, выбраных агульным сходам на 1 год з асоб, якія не належаць да складу кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі.

Член савету ня можа служыць ў т-ве нанятым.

§ 74. Правілы § 58 аб выбары старшыні, а таксама § § 61, 64, 66, і 67 аб парадку дзеяньняў, платы і адказнасьці кіраўніцтва пашыраюцца і на савет.

§ 75. Савет склікаецца на пасяджэньні старшынёю альбо яго намесьнікам, калі гэта трэба, але не радзей аднаго разу ў 2 месяцы.

§ 76. Пасяджэньні савету лічацца адбыўшыміся, калі на іх прысутнічае ня менш паловы членаў савету, у тым ліку старшыня альбо яго намесьнік. На пасяджэньнях савету могуць прысутнічаць

з дарадчым голасам члены кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі і кандыдаты ў члены савету, кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі. Пастановы савету запісваюцца ў кнігу пратаколаў.

§ 77. Скаргі на савет прыносяцца агульнаму сходу альбо сходу ўпаўнаважаных, але ня іначай, як праз савет, які павінен падаць іх на бліжэйшы агульны сход альбо на сход упаўнаважаных з сваімі тлумачэньнямі.

## *Е. Рэвізійная камісія.*

§ 78. Для рэвізіі і кантролю дзейнасьці кіраўніцтва, агульны сход альбо сход упаўнаважаных штогод выбірае рэвізійную камісіі на адзін году, у складзе ня менш 3-х членаў і 2-х кандыдатаў да іх з ліку членаў т-ва альбо з іншых асоб, якія не займаюць у ім ніякіх пасад ні па выбару, ні па найму.

*Увага.* Члены рэвізійнай камісіі выбіраюць з свайго складу старшыню і разьмяркоўваюць паміж сабою абавязкі.

§ 79. Рэвізійная камісія зьбіраецца старшынёю, калі гэта трэба. На камісію ўскладаецца:

а) штомесячная праверка прыхода-расходных кніг, балянсаў, касы, расклад і разрахунку за малако;

б) нагляд за вядзеньнем спраў кіраўніцтвам;

в) праверка перад агульным сходам альбо сходам упаўнаважаных паводле кніг, рахункаў і дакумэнтаў гадовай справаздачы, а таксама касы маемасьці паводле запісаў і ў наяўнасьці;

г) разгляд складзеных кіраўніцтвам каштарысаў і пляну дзеяньняў на будучы год і дача заключэньняў па іх;

д) разгляд скаргаў на кіраўніцтва і дача заключэньняў па іх.

§ 80. Для правядзеньня з посьпехам рэвізіі кіраўніцтва павінна даваць рэвізійнай камісіі ўсе патрэбныя сродкі і матар'ялы.

§ 81. Заключэньне рэвізійнай камісіі па рэвізіі гадовай справаздачы і пляне дзейнасьці на будучы год падаюцца агульнаму сходу альбо сходу ўпаўнаважаных.

§ 82. Па скаргах на кіраўніцтва, а таксама па абставінах, выяўленых пры рэвізіі, камісія робіць паказаньні кіраўніцтву на дапушчаныя ім няправільнасьці.

Калі будуць выяўлены больш значныя няправільнасьці альбо заўважаньні ў справах т-ва, то камісія можа склікаць надзвычайны агульны сход альбо сход упаўнаважаных у парадку, паказаным у § 39.

§ 83. Скаргі на рэвізійную камісію прыносяцца агульнаму сходу альбо сходу ўпаўнаважаных праз камісію, якая падае гэтыя скаргі сходу з сваімі тлумачэньнямі.

§ 84. Параграфы 60, 61, 66 і 67 гэтага статуту пашыраюцца і на членаў рэвізійнай камісіі.

§ 85. Незалежна ад праверкі спраў т-ва рэвізійнаю камісіяю, т-ва рэвізуецца саюзам, членам якога яно лічыцца.

## V. Справаздачнасьць і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт.

§ 86. Аперацыйны год т-ва лічыцца з 1-га кастрычніку да 30 верасьня наступнага году.

§ 87. Таварыства абавязкова вядзе рахункаводзтва паводле ўстаноўленых форм, якія павінны адпавядаць патрабаваньням закону і таго саюзу, у які ўваходзіць таварыства.

§ 88. Не пазьней трох месяцаў пасьля сканчэньня аперацыйнага году кіраўніцтва павінна скласьці гадовую справаздачу, паказаўшы ў ёй:

а) усе капіталы таварыства;

б) агульны прыход і расход прадуктоў, а таксама грошовых сум,

в) падрабязговую справаздачу аб выдатках таварыства;

г) рахунак наяўнай маемасьці;

д) рахунак даўгоў таварыства;

е) рахунак прыбыткаў і страт і прыблізнае разьмеркаваньне чыстага прыбыткаў;

ж) сьпіс членаў таварыства, колькасьць зданых прадуктаў і атрыманых імі сум і тавараў, а таксама задоўжанасьць іх таварыству.

Кіраўніцтва павінна падаць гэтую справаздачу разам з заключэньнем рэвізійнай камісіі агульнаму сходу альбо сходу упаўнажаных на зацьверджаньне. Разам з справаздачаю падаецца агульнаму сходу і плян дзейнасьці і каштарыс на бягучы год.

§ 89. З выведзенага ў справаздачы чыстага прыбытку адлічваецца ня менш 10 проц. на ўтварэньне фонду беднаты, 10 проц. ў асноўны капітал (§ 30) і ня менш 10 проц. у запасны капітал (§ 33). Рэшта прыбытку можа быць разьмяркована агульным сходам альбо сходам упаўнаважаных:

а) на ўтварэньне і папаўненьне спэцыяльных капіталаў;

б) на дадатковую выплату членам т-ва за дастаўленае імі малако і інш. прадукты;

в) на выдачу дадатковай платы за працу;

г) налічэньне процантаў на паявы капітал, але ня больш 12 проц. гадовых;

д) на каперацыйныя, культурна-асьветныя і іншыя агульна-карысныя мэты.

§ 90. Страта, якая выявілася ў зваротах таварыства, папаўняецца з запаснага капіталу, а калі яго не хапае — з асноўнага капіталу. Агульны сход альбо сход упаўнаважаных можа таксама, не чапаючы паказаных вышэй капіталаў, разьмеркаваць нехапаючую суму паміж усімі членамі ў межах дадатковай адказнасьці кожнага з іх, і прапарцыянальна разьмеру абавязковых паявых уносаў кожнага члена і вызначыць тэрмін для выплаты кожным сваей часткі. Калі член таварыства ня выплаціць сумы, што належаць з яго, то кіраўніцтва бярэ належачае з паёў неплатніка, а суму, што нехапае, спаганяе з яго; тое, што ня можа быць спагнана ў вызначаны сходам тэрмін з аднаго члена, разьмяркоўваецца на ўсіх членаў. Гэткі расклад гадовых страт ня спыняе і не зьмяншае дадатковай адказнасьці членаў па абавязнасьцях т-ва пры яго ліквідацыі.

§ 91. Калі кіраўніцтвам гадовая справаздача ў паказаны у § 88 тэрмін ня будзе складзена, то рэвізійная камісія павінна даручыць складаньне яго пад сваім наглядам іншым асобам за кошт членаў кіраўніцтва.

§ 92. Справаздача, якая падаецца агульнаму сходу альбо сходу упаўнаважаных, разам з усімі апраўдальнымі дакумэнтамі пасьля зацьверджаньня яго, захоўваецца ў справах таварыства.

## VI. Спыненьне дзейнасьці таварыства.

§ 93. Таварыства спыняе сваю дзейнасьць:

а) калі лік членаў таварыства будзе меншы 50 і на працягу месячнага тэрміну ня можа быць павялічаны;

б) калі таварыства будзе абвешчана на судзе немаемным;

в) на падставе пастановы акруговага выканаўчага камітэту,

калі таварыства ўхіліцца ад мэты, паказанай у гэтым статуце, альбо ў бок, які не адпавядае інтарэсам дзяржавы;

г) на падставе пастановы агульнага сходу членаў або сходу ўпаўнаважаных таварыства;

д) калі таварыства злучыцца з іншаю сельска-гаспадарчаю каперацыйнаю арганізацыяю, ці падзеліцца.

§ 94. Спыненьне таварыства з ліквідацыяю яго маемасьці робіцца ў парадку, прадугледжаным пастановаю ЦВК і СНК СССР „Пра парадак спыненьня каперацыйных арганізацый пры іх ліквідацыі, злучэньні і падзяленьні“ за 15 чэрвеня 1927 г., (З. З. СССР 1927 г., № 37, арт. 372) і пастановаю СНК БССР за 4 студзеня 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 3, арт. 17).

§ 95, Паявыя ўносы зварочваюцца членам таварыства пры ліквідацыі толькі пасьля выплаты альбо забясьпечаньня ўсіх яго даўгоў і ў кожным разе не раней 3 месяцаў ад дня публікацыі аб назначанай ліквідацыі.

§ 96. Пасьля выплаты даўгоў таварыства і пасьля звароту паёў яго членам маемасьць, якая асталася ад ліквідацыі, скарыстоўваецца ліквідацыйнаю камісіяю на каперацыйныя і іншыя агульна-карысныя мэты на падставе паказаньня агульнага сходу, або сходу ўпаўнаважаных.

---

Зацьверджаны Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР 12 ліпеня 1928 г.

## 6. Тыповы статут пасялковага вытворча-каперацыйнага таварыства.

### I. Агульныя палажэньні.

1. Пасялковае вытворча—каперацыйнае таварыства з назваю „..........“ яднае .......... гаспадарак .......... пасёлкаў. Кіраўніцтва яго знаходзіцца ў пасёлку (паселішчы) .......... акругі ..........

2. Пасялковыя вытворча—каперацыйныя таварыствы арганізуюцца дабравольна на згодзе ўваходзячых у т-ва членаў для хутчэйшага пераходу земляробчага насельніцтва да аграмаджаных форм сельска-гаспадарчай вытворчасьці, а таксама для найбольш рацыянальнага скарыстаньня сельска-гаспадарчых зямель, павялічаньня прадукцыйнасьці працы і ўзмацненьня самадзейнасці насельніцтва.

3. Для дасягненьня паказаных мэтаў, пасялковае таварыства:

а) устанаўляе агульны севазварот палявой гаспадаркі, паводле дасягненьняў агранамічнай навукі, і ўжывае захады да яго ажыцьцяўленьня;

б) арганізуе агульныя пасялковыя сады, гароды, пасекі;

в) ужывае захады да падняцьця ўраджайнасьці зямлі, для чаго па магчымасьці ўстанаўляе найлепшы спосаб апрацоўкі зямлі і догляду за сельска гаспадарчымі культурамі;

г) устанаўляе парадак і спосаб выкананьня сельска-гаспадарчых работ (пачатак апрацоўкі зямлі, вывазу гною, ворава, жніва і інш.);

д) арганізуе грамадзкую апрацоўку зямель грамадзкага, а таксама працоўнага карыстаньня асобных членаў;

е) арганізуе пракатны, насенна-ачышчальны і кантрольны пункты;

ж) набывае для грамадзкага карыстаньня вытворнікаў і арганізуе злучныя пункты;

з) арганізуе заводзкія і насенныя рассаднікі і пладовыя выхавальнікі;

і) робіць сажалкі, студні і дарогі сельскага значэньня на тэрыторыі пасёлку;

к) арганізуе мэліярацыйныя работы на землях грамадзкага карыстаньня і асобных членаў таварыства;

л) арганізуе майстэрні для вырабу агнятрывалага матар'ялу і рамонту сельска-гаспадарчых машын;

м) набывае патрэбныя сродкі сельска-гаспадарчай вытворчасьці (машыны, прылады, насеньне і інш.) для ўсяго таварыства і для асобных членаў таварыства.

*Увага.* Забясьпечаньне членаў таварыства можа рабіцца толькі па цьвёрдаму заказу членаў і на сродкі членаў.

о) арганізуе збыт прадуктаў вотворчасьці таварыства і асобных членаў;

п) арганізуе бібліатэкі, чытальні, курсы і праводзіць іншыя культурна-асьветныя і культурна-бытавыя мерапрыемствы.

4. Для набываньня складаных і дарагіх машын і для ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў, якія тычацца некалькіх пасялковых таварыстваў, т-ва можа ўваходзіць ў аб'яднаньне аднастайных арганізацый на дагаворных умовах, а таксама ўваходзіць членам ў спэцыяльныя сельска-гаспадарчыя каперацыйныя аб'яднаньні і іншыя таварыствы і арганізацыі, мэты якіх адпавядаюць задачам т-ва.

5. Таварыства мае з моманту яго рэгістрацыі правы юрыдычнай асобы і можа набываць і адчужаць маемасьць, робіць усякія угоды, што адпавядаюць мэтам т-ва і ў межах статуту, а таксама прававацца на судзе.

6. Даўгавыя абавязнасьці т-ва забясьпечваюцца ўсёю яго маемасьцю і капіталамі, а таксама маемасьцю членаў у . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . разьмеры сумы ўнесеных членамі паёў.

7. Таварыства мае пячатку з паказаньнем свае назвы.

## II. Склад Таварыства, правы і абавязкі яго членаў.

8. Членамі таварыства могуць быць ўсе працоўныя ад 18 гадоў, якія карыстаюцца выбарнымі правамі, калі яны займаюцца альбо начынаюць займацца сельскаю гаспадаркаю, ці зьвязанымі з ёю працоўнымі промысламі.

*Увага.* Пасялковае т-ва павінна яднаць ня менш 10-ці земляробскіх гаспадарак. У пасёлках, дзе менш 10 двароў, т-ва павінна аб'яднаць 3/4 агульнай колькасьці двароў і павінна мець ня менш 10 членаў.

9. Члены ў т-ва прымаюцца агульным сходам паводле арт. 36 гэтага статуту.

10. Асоба, якая ўваходзіць у т-ва, павінна ўнесьці ўступны і паявы ўносы і выконваць статут т-ва, абчым выдае падпіску пры ўваходзе ў т-ва.

11. Пастановы агульнага сходу пасялковага т-ва зьяўляюцца абавязковымі і для тых двароў данага пасёлку, якія не ўваходзяць ў таварыства, па пытаньнях: увядзеньне шматпольных севазваротаў, арганізацыі грамадзкіх садоў і арганізацыі пашы, але пры гэтым павінны выконвацца наступныя ўмовы;

а) павінны выклікацца на сход т-ва ўсе паўнапраўныя члены двароў пасёлку;

б) на сходзе павінны прысутнічаць гаспадары ці прадстаўнікі ня менш як ад паловы двароў пасёлку;

в) пастановы павінны быць прыняты простаю большасьцю галасоў.

*Увага.* Калі гаспадары—ня члены т-ва—адмовяцца дабравольна заплаціць свою долю выдаткаў на правядзеньне работ, паказаных ў гэтым пункце, то гэтыя выдаткі спаганяюцца ў адміністрацыйным парадку.

12. Член таварыства адказвае і за тыя абавязнасьці т-ва, якія ўзьнiклі да яго ўваходу ў т-ва.

13. Характар і спосаб вядзеньня гаспадаркі кожнага члена т-ва павінны быць такімі, каб яны не перашкаджалі іншым членам т-ва. Кожны член т-ва павінен бязумоўна выконваць патрабаваньні пасялковага т-ва аб палепшаньні способу вядзеньня гаспадаркі.

14. Кожны член таварыства ўдзельнічае ў кіраваньні справамі т-ва, прысутнічаючы на агульных сходах, і мае права карыстацца ў сваіх гаспадарчых справах дапамогаю т-ва паводле ўстаноўленых агульным сходам правілаў.

15. За няўдзел ў працы, за невыкананьне пастаноў і загадаў кіраўніцтва і агульнага сходу т-ва, за ганебныя і іншыя ўчынкі, якія робяць маральную ці маемасную шкоду т-ву, члены т-ва могуць карацца пастановамі агульнага сходу рознымі карамі нават выключацца з т-ва.

16. Кожны член т-ва нясе разам з усімі членамі дадатковую адказнасьць за абавязнасьці т-ва. Адказнасьць гэта, аднак, ня можа перавышаць ............................................................ сумы паю.

17. Кожны член т-ва мае права выйсьці з т-ва, падаўшы аб гэтым пісьмовую заяву і заплаціўшы даўгі, якія за ім лічацца. Днём выхаду лічыцца апошні дзень аперацыйнага году, калі член падаў заяву аб выхадзе не пазьней, як за тры месяцы да канца аперацыйнага году; у іншым выпадку днём выхаду лічыцца канецнаступнага аперацыйнага году.

*Увага.* Памёршы член т-ва лічыцца вышаўшым у апошні дзень таго аперацыйнага году, у якім ён памёр.

18. Усякі член т-ва, які дабравольна выходзіць, ці выключаны з т-ва, мае права атрымаць назад паявы ўнос і ўсю ўнесеную ім ў т-ва маемасьць ці кошт апошняй ў тэрміны, вызначаныя агульным сходам, апроч тае часткі, якою папаўняюцца прыпадаючыя на яго долю страты т-ва. Член, які выходзіць з т-ва, канчаткова разьлічаецца з т-вам на працягу месяца пасьля зацьверджаньня агульным сходам гадовай справаздачы таго году, у якім даны член выйшаў з т-ва. Калі т-ва мае прыбыткі, то члену, што выходзіць з т-ва, выдаецца адпаведная доля іх. Ніякіх іншых выдач член, што выходзіць з т-ва, патрабаваць не мае права.

19. Выйшаўшыя ці выключаныя члены т-ва ў працягу аднаго году ад дня выхаду нясуць поўную адказнасьць за ўсе абавязнасьці т-ва, якія ўзьнiклі да іх выхаду з т-ва.

20. Калі т-ва ліквідуецца да сканчэньня тэрміну адказнасьці выйшаўшага члена, то ён захоўвае за сабою маемасныя правы, а таксама нясе адказнасьць аднолькава з членамі т-ва.

## III. Сродкі таварыства.

21. Таварыства мае асноўны і запасны капіталы.

22. Асноўны капітал складаецца з паявых і ўступных уносаў членаў т-ва, прызначаных для яго доўгатэрміновых пазычак і дапамог, і з сум ахвяраваных таварыству. Трацицца ён на набываньне

маемасьці і інвэнтару і іншых сродкаў вытворчасьці, патрэбных для пасялковага таварыства.

Запасны капітал складаецца з устаноўленых агульным сходам штогадовых адлічэньняў ад прыбыткаў таварыства, але ня менш 10% чыстага даходу пакуль ён ня будзе роўны 50% асноўнага. Запасны капітал захоўваецца і выдаткоўваецца паводле пастановы агульнага сходу і правіл, прадугледжаных у законе СССР „Пра парадак складаньня, захаваньня і выдаткаваньня капіталаў капярацыі" (З. З. СССР у 1928 г. № 34 арт. 299).

23. Пастановаю агульнага сходу могуць складацца спэцыяльныя капіталы (спэцыяльныя капіталы на мэліарацыю, зямельныя палепшаньні—угнаеньне, культурна—асьветную працу і інш.) Парадак складаньня і выдаткаваньня гэтых капіталаў вызначаецца агульным сходам.

24. Для ўзмацненьня сваіх сродкаў т-ва мае права заключаць пазычкі і прымаць ад сваіх членаў уклады ў разьмерах і на ўмовах вызначаных агульным сходам.

25. Уступны ўнос устанаўляецца ў разьмеры.................. р., пай ўстанаўляецца ў разьмеры.................. р.

## IV. Прыбыткі і страты таварыства.

26. Прыбыткі таварыства разьмяркоўваюцца агульным сходам: у асноўны і іншыя капіталы, на выдачу проценту за паявыя ўносы і на іншыя мэты паводле пастаноў агульнага сходу.

27. Страты т-ва папаўняюцца з запаснага капіталу, а калі яго нехапае—з асноўнага. Але агульны сход мае права, не чапаючы капіталаў т-ва, расклясьці нехапаючую суму паміж асобнымі членамі ў межах адказнасьці кожнага з іх (§ 17) і назначыць тэрмін для выплаты кожным свае долі. Калі член не заплаціць свае долі, то кіраўніцтва ўтрымоўвае незаплачанае з паю неплатніка, а рэшту спаганяе з яго. Такое разьмеркаваньне гадовых страт не адмяжоўвае і не зьмяншае дадатковай адказнасьці членоў па абавязнасьцях т-ва пры яго ліквідацыі паводле арт. 16.

## V. Кіраваньне справамі таварыства.

28. Справамі т-ва кіруе агульны сход і кіраўніцтва.

### *А. Агульны сход.*

29. Агульны сход зьяўляецца вышэйшым органам т-ва. У кампэтэнцыю яго ўваходзіць: а) выбары членаў кіраўніцтва, рэвізійнай камісіі і іншых органаў т-ва, а таксама) выключэньне асобных членаў кіраўніцтва і перавыбары іх да тэрміну; б) прыйманьне і выключэньне членаў т-ва; в) вырашэньне пытаньняў аб зьменах і дапаўненьнях статуту і аб спыненьні дзейнасьці т-ва: г) разгляд і зацьверджаньне справаздач, каштарысаў і плянаў гаспадарчай дзейнасьці т-ва; д) распрацоўка і разгляд пляну гаспадарчай дзейнасьці ўсяго пасёлку і ўжываньне захадаў да яго ажыцьцяўленьня; е) заключэньне пазычак і набываньне асабліва каштоўнай маемасьці; ж) устанаўленьне разьмеру патрэбных затрат і рат для выплаты іх на ажыцьцяўленьне намечаных мерапрыемстваў; з)разгляд скаргаў на кіраўніцтва; і і) вырашэньне ўсіх спраў, якія перавышаюць правы кіраўніцтва.

30. Агульны сход складаецца з усіх членаў т-ва-

31. Кожны член таварыства мае толькі адзін голас і ня мае права галасаваць за другога, а таксама ня мае права даручаць другому члену замяняць яго на сходзе.

32. Члены кіраўніцтва ня маюць права пастаноўчага голасу пры разглядзе наступных пытаньняў:

а) аб зацьверджаньні справаздач;

б) аб ацэнцы дзейнасьці кіраўніцтва;

в) пытаньяў, якія тычацца іх адказнасьці.

33. Старшынёю на агульных сходах выбіраецца асоба, якая не належыць да складу кіраўніцтва альбо да складу рэвізійнай камісіі.

34. Агульны сход склікаецца кіраўніцтвам ня менш двух раз у год: першы перад пачаткам вясеньніх палявых работ і другі—не пазьней трох месяцаў пасьля сканчэньня справаздачнага году. Апроч таго, агульны сход склікаецца кіраўніцтвам, калі ён патрэбны, і па патрабаваньні рэвізійнай камісіі, альбо па патрабаваньні 1/3 колькасьці членаў т-ва.

35. Калі агульны сход ня будзе склікан кіраўніцтвам на працягу аднаго тыдня з часу заяўленьня аб гэтым патрабаваньня, то ён склікаецца рэвізійнаю камісію.

36. Агульны сход лічыцца законным, калі на ім прысутнічае ня менш паловы ўсіх членаў т-ва. Для вырашэньня пытаньняў, пералічаных у п. п. „б“ і „в“ арт. 29 і арт. 11, патрэбна прысутнасьць ня менш 2/3 членаў таварыства.

37. Калі ў дзень, назначаны для агульнага сходу, не зьбярэцца паказаны ў арт. 36 лік членаў, то для вырашэньня пытаньняў, пастаўленых на на павестку гэтага сходу. назначаецца не пазьней двух тыдняў другі агульны сход, які прызнаецца адбыўшымся пры ўсякай колькасьці членаў, апроч выпадкаў, калі агульны сход склікаецца для вырашэньня пытаньня аб ліквідацыі т-ва; пытаньне аб ліквідацыі т-ва, а таксама пытаньні аб зьменах і дапаўненьні статуту вырашаюцца і на другім агульным сходзе ня іначай, як 2/3 членаў.

38. Усе пытаньні на агульным сходзе вырашаюцца простаю большасьцю галасоў. Калі колькасьць галасоў аднальковая, то пытаньне лічыцца не вырашаным і павінна яшчэ раз абмяркоўвацца і галасавацца.

39. Пастановы агульнага сходу запісваюцца ў пратакольную кнігу, падпісваюцца старшынёю і сакратаром сходу і прысутнымі на сходзе членамі кіраўніцтва і граматнымі членамі т-ва; неграматныя запісваюцца ў пратаколе; сьпіс іх павінен быць пасьведчан подпісам старшыні сходу. Пастановы агульнага сходу зьяўляюцца абавязковымі для ўсіх членоў т-ва і прысутных на сходзе і адсутных.

*Б. Кіраўніцтва.*

40. Кіраўніцтва т-ва зьяўляецца выканаўчым органам агульнага сходу таварыства.

41. Кіраўніцтва зьяўляецца паўнамоцным прадстаўнікам т-ва без асобнай на гэта даверанасьці па ўсіх яго справах, абавязнасьцях і зносінах з членамі т-ва і іншымі асобамі і ўстановамі. Яно захоўвае ўсю маемасьць т-ва, ведае ўсёю бягучаю работаю і дзейнічае паводле гэтага статуту і пастаноў агульнага сходу.

42. Кіраўніцтва т-ва выбіраецца агульным сходам і складаецца ня менш, як з 3-х членаў.

*Увага.* Агульны сход можа, у залежнасьці ад аб'ёму працы, выбраць замест кіраўніцтва ўпаўнаважанага, даючы яму правы кіраўніцва.

43. Старшыня кіраўніцтва выбіраецца агульным сходам з складу выбраных членаў кіраўніцтва.

44. Кіраўніцтва выбіраецца на адзін год, але можа быць перавыбрана і да канца тэрміну яго паўнамоцтваў.

45. Кампэтэнцыя кіраўніцтва т-ва і ўнутраны парадак яго працы ўстанаўляецца спэцыяльнаю інструкцыяю, зацьверджанаю агульным сходам таварыства.

## VI. Рэвізійная камісія.

46. Рэвізійная камісія складаецца з трох членаў, выбраных сходам на адзін год, з ліку членаў т-ва, якія не ўваходзяць у склад кіраўніцтва.

47. На рэвізійную камісію ўскладаецца:

а) падрабязная ня менш аднаго разу ў год і, апроч таго, калі яна патрэбна, рэвізія маемасьці, касы і ўсяе наогул дзейнасьці т-ва;

б) дача агульнаму сходу заключэньняў па гадовай справаздачы і каштарысу;

в) дача агульнаму сходу справаздачы аб сваёй дзейнасьці за год.

48. Скаргі на рэвізійную камісію заяўляюцца агульнаму сходу ня іначай, як праз камісію, якая павінна падаць іх на бліжэйшы агульны сход з сваім заключэньнем.

## VII. Рахункаводзтва і справаздачнасьць.

49. Для дасканальнага падліку ўсяе гаспадарчай дзейнасьці таварыства, яго грашовых сродкаў і маемасьці, у таварыстве вядуцца рахункаводныя кнігі, у якія запісваюцца звароты таварыства і гатоўка касы, прыходы і расходы прадуктаў і маемасьці, стан рахункаў з членамі і рознымі асобамі і ўстановамі.

50. Не пазьней трох месяцаў пасьля сканчэньня справаздачнага году кіраўніцтва павінна падаць на зацьверджаньне агульнага сходу гадовую справаздачу аб выніках дзейнасьці таварыства.

51. Справаздачны год таварыства лічыцца з ........................ да ........................

52. Гадовая справаздача разам з кнігамі і дакумэнтамі правяраецца рэвізійнаю камісіяю, якая складае свае заключэньне аб ёй на самой справаздачы, падпісвае яго і падае на разгляд агульнага сходу.

53. Калі кіраўніцтва ці ўпаўнаважаны т-ва не складзе гадовай справаздачы ў паказаны тэрмін, то рэвізійная камісія павінна даручаць складаньне справаздачы, пад сваім наглядам, іншым асобам, прычым, калі справаздача не складзена без важных прычын, то яна складаецца за кошт членаў кіраўніцтва ці ўпаўнаважанага.

54. Зацьверджаная агульным сходам справаздача захоўваецца ў справах т-ва.

## VIII. Ліквідацыя таварыства.

55. Таварыства спыняе сваю дзейнасьць:

а) пастановаю агульнага сходу;

б) пастановаю суда, калі т-ва абвесьціцца немаемасным;

в) пастановаю раённага выканаўчага камітэту альбо агульнага сходу калі колькасьць членаў будзе менш паказанай ва ўвазе да атр. 8;

г) пастановаю раённага выканаўчага камітэту, калі т-ва ўхіляецца ў сваёй дзейнасьці ад мэты, паказанай у статуце або ўхіляецца ў сваёй дзейнасьці ў бок, шкодны інтарэсам дзяржавы.

56. Парадак і тэрмін ліквідацыі арцелі, парадак дзейнасьці ліквідацыйнай камісіі і задаволеньня прэтэнзій крэдытораў рэгулюецца палажэньнем аб парадку спыненьня каперацыйных арганізацый (З. З. СССР 1927 г., № 37, арт. 372) і паст. СНК БССР за 4 студзеня 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 3, арт. 17).

57. Пастанова агульнага сходу аб назначэньні ліквідацыі пасылаецца ў раённы выканаўчы камітэт і акруговы зямельны аддзел і публікуецца ў афіцыйнай газэце акругі.

## IX. Парадак зьмены статуту.

58. Аб усіх зьменах у статуце кіраўніцтва т-ва павінна неадкладна паведамляць раённы выканаўчы камітэт і толькі пасьля рэгістрацыі ў раённым выканаўчым камітэце ўнесеных у статут зьмен яны набываюць законную сілу.

---

## 7. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

### ПРА МЕРАПРЫЕМСТВЫ ДЛЯ ПАЛЕПШАНЬНЯ СПРАВЫ ГРАМАДЗКАГА ХАРЧАВАНЬНЯ.

Для палепшаньня справы грамадзкага харчаваньня, Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць Народны Камісарыят Аховы Здароўя БССР неадкладна ўжыць захады да сыстэматычнага дасьледваньня і вывучэньня лекава-санітарным наглядам і лябараторыямі Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя і яго мясцовых органаў пажыўнай якасьці прадуктаў і страў у грамадзкіх сталоўках. Гэта праца павінна весьціся сыстэматычна з удзелам Навукова-Харчовага Савету пры Белрабсэкцыі ў наступным кірунку:

а) рэгулярны папярэдні лекава-санітарны нагляд за якасьцю прадуктаў, што загатаўляюцца ў масавай колькасьці для прадпрыемстваў грамадзкага харчаваньня;

б) пэрыядычнае дасьледваньне і хімічныя аналізы спажываных у сталоўках прадуктаў і страў;

в) навуковая апрацоўка вынікаў дасьледваньня і дача заключэньня Навукова—Харчоваму Савету аб патрэбных мерапрыемствах у справе грамадзкага харчаваньня.

2. Даручыць Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя БССР ўключыць у каштарыс адпаведныя сумы на вядзеньне гэтай працы.

3. Запрапанаваць Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя БССР разам з Навукова—Харчовым Саветам выдаць на працягу двух тыдняў інструкцыю пра парадак ажыцьцяўленьня гэтай пастановы.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР **М. Карклін.**

Сакратар Эканамічнай Нарады пры СНК БССР **В. Крывіцкі.**

---

Зацьверджаны пастановаю Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 7 ліпеня 1928 г.

## Таксы на аплату работ па дэтальным дасьледваньні торпавых балот для адводу і скарыстаньня іх для распрацовак торпу на апал.

I.

За работы па дасьледваньні торпавых балот бярэцца наступная плата, ў залежнасьці ад разьмеру плошчаў балот, што павінны быць дасьледваны:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Ад 1 | да 5 | гкт. за першы гкт. | 100 р. | за апошн. па | 9 р. — к. | за гкт. |
| „ 6 | „ 10 | „ „ 5 „ | 136 „ | „ „ | „ 8 „ 80 | „ „ „ |
| „ 11 | „ 20 | „ „ 10 „ | 180 „ | „ „ | „ 5 „ 90 | „ „ „ |
| „ 21 | „ 30 | „ „ 20 „ | 239 „ | „ „ | „ 5 „ 20 | „ „ „ |
| „ 31 | „ 40 | „ „ 30 „ | 291 „ | „ „ | „ 4 „ 50 | „ „ „ |
| „ 41 | „ 50 | „ „ 40 „ | 336 „ | „ „ | „ 3 „ 90 | „ „ „ |
| „ 51 | „ 100 | „ „ 50 „ | 375 „ | „ „ | „ 3 „ 50 | „ „ „ |
| „ 101 | „ 200 | „ „ 100 „ | 550 „ | „ „ | „ 3 „ 30 | „ „ „ |
| „ 201 | „ 300 | „ „ 200 „ | 880 „ | „ „ | „ 3 „ 10 | „ „ „ |
| „ 301 | „ 400 | „ „ 300 „ | 1190 „ | „ „ | „ 2 „ 90 | „ „ „ |
| „ 401 | „ 500 | „ „ 400 „ | 1480 „ | „ „ | „ 2 „ 70 | „ „ „ |
| „ 501 | „ 750 | „ „ 500 „ | 1750 „ | „ „ | „ 1 „ 55 | „ „ „ |
| „ 751 | „ 1000 | „ „ 750 „ | 2137 „ | „ „ | „ 1 „ 45 | „ „ „ |

1 000 гэкт. і больш па 2 р. 50 к. за гэктар.

*Увага.* Дасьледваньні прымежнай з балотам 200 мэтравай сухадольнай паласы зямлі аплачваецца на 50 проц. таньней, чымся дасьледваньні плошчы самога торпавішча ў межах нулявой залежы.

II.

За работы па дасьледваньні вадапрыймальнікаў і існуючых магістральных каналаў бярэцца наступная плата:

а) за дасьледваньне канавы ці рэчкі (без дасьледваньня прымежнай да іх паласы зямлі)—трыццаць (30) руб. за адзін кілёмэтр;

б) за дасьледваньне паласы зямлі ад балот да вадапрыймальніка шырынёю 200 мэтраў—сорак пяць (45) руб. за кілёмэтр;

в) за дасьледваньне рэчкі разам з прымежнаю да яе паласою зямлі шырынёю 200 мэтраў—пяцьдзесят (50) руб. за кілёмэтр.

III.

Апроч платы паводле паказаных у разьдзелах I і II такс, заяўнік дае тэхнічнаму пэрсаналу: 1) добрае для жыльля і заняткаў памяшканьне; 2) патрэбныя для вядзеньня плянавых работ матар'ялы (слупы, кольле, вешкі, матар'ялы для рэпараў і інш.); 3) патрэбную рабочую сілу і падводы.

*Увага.* Калі ня будзе паказанае ў разьдзеле III дадзена натураю, то заяўнік павінен унесьці ў Народны Камісарыят Земляробства адпаведныя сродкі на гэтыя выдаткі, пры чым сумы ўносяцца авансам да пачатку работ і пасьля скапчэньня гэтакіх Народны Камісарыят Земляробства робіць канчатковы разрахунак з заяўнікам па гэтых выдатках па фактычнаму кошту.

## IV.

За вызначаную ў разьдзелах I і II плату вядуцца наступныя работы:

1. Зандаваньне торпавага пласта з падрабязнасьцю:

| Плошчы балот: | Разьмеры зандавальнай сеткі |
|---|---|
| ад 1 да 10 гэктар. | 25 мэтр. × 25 мэтр. |
| „ 11 „ 100 „ | 50 „ × 50 „ |
| больш 100 гэкт. | 100 „ × 100 „ |

*Увага.* На балотах раўчаковага тыпу, з выцягнутаю па магістралі канфігурацыяю, альбо пры вузкім зарослым рэчышчы ракі зандавальная сетка на плошчы больш 100 гкт. устанаўляецца 100 × 50 мэтраў.

2. Узяцьце ўзораў торпу і лябараторны аналіз яго. Узоры бяруцца сьвідрам Гілера праз кожныя паўмэтра на ўсю глыбіню ў наступнай колькасьці пунктаў:

| Пры плошчы балот. | Лік пунктаў. |
|---|---|
| Ад 1 да 10 гэкт. . . . . . . . . | 5 |
| „ 10 „ 100 „ на перш. 10 г. | 5 і па 1 узор. на кожн. 20 г. больш. 10 г. |
| „ 100 „ 1000 „ „ „ 100 г. | 10 і „ 2 „ „ „ 100 „ 100 „ |
| больш 1000 1000 г. | 24 і „ 1 „ „ „ „ „ 1000 „ |

3. Інструмантальны абход дасьледванай плошчы робіцца з увязкаю базісных візірак і пастаноўкаю ў рынках паваротаў слупоў.

Кутавая невязка не павінна перавышаць $1{,}5 \sqrt{2}$ пг., а лінейная, замкнутым палігоне,—$0{,}01 \sqrt{8P} + 0{,}01 P$.

4. Нівеліраваньне паверхні балота і прымежнай мясцовасьці шырынёю да 200 мэтр. вядзецца па хадавых лініях, што замыкаюцца па мяжы торпавай залежы і магістралі балота з падрабязнасьцю:

| Плошчы балот | Адлегласьць паміж нівеліровачнымі ход. | Адлегласьць паміж пікот па ход. лін. |
|---|---|---|
| Ад 25 да 100 гэкт. | 100 мэтр. | 100 мэтр. |
| „ 101 „ 1000 „ | 200 „ | 200 „ |
| больш 1000 гэкт. | 400—500 „ | 200 „ |

Невязка ў перавышэньнях не павінна быць $0{,}006 \sqrt{2п}$.

Нівеліроўка замацоўваецца ўстаноўкаю сталых рэпараў (каменных ці жалезных) па аднаму на кожныя 500 гэкт. і ня менш аднаго на кожнае балота меншай плошчы.

*Увага.* Пры плошчах балот да 25 гэкт. нівеліраваньне паверхні ня робіцца, а робіцца падвойнае нівеліраваньне аднаго ходу па балоту ў кірунку будучай вадаадводнай канавы.

5. Уздоўжнае нівеліраваньне падвойным ходам ад балота да надзейнага вадапрыймальніка, а таксама вадапрыймальніка і існуючых магістральных канаў, што забесьпячаюць рацыянальнае асушэньне падлягаючай выпрацоўцы торпавай залежы, якое (нівеліраваньне) замацоўваецца рэперамі па аднаму на кожныя 3 кілём. ходу.

## V.

1. Па матар'ялах палявых работ выпрацоўваюцца наступныя дакумэнты;

а) плян балот, на якім паказваюцца профілі зандаваньня з лічбавымі паказчыкамі глыбін торпу, гарізанталі паверхні і дна балота, пункты ўзяцьця ўзораў торпу і поўная сытуацыя балота;

Плян складаецца ў масштабе:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Для балот плошчаю | да | 25 гэкт. . . | 25 мэтр. | у сантымэтры |
| " " " | ад | 25 " да 300 | —50 | " " " |
| " " " | больш | 300 | 100 | " " " |

б) профілі ўздоўжных ходаў нівеліраваньня вадапрыймальнікаў і магістральных каналаў;

в) прыродна-гістарычнае і эканамічнае апісаньне балота;

г) ведамасьць вылічэньня каардынат;

д) журнал зандаваньня з вылічэньнем запасаў сырой масы торпу;

е) ведамасьць аналізаў узораў торпу;

ж) журнал узяцьця ўзораў торпу;

з) ведамасьць нівеліровачных адзнак;

і) ведамасьць рэпараў;

к) акты аб землякарыстальніках.

*Увага* 1. Лябораторнымі аналізамі вызначаецца батанічны склад, ступень распаду, вільготнасьці, зольнасьці, цеплатворнай здольнасьці, зьмест серы і шлакаваньне залы.

Батанічны склад, ступень распаду, вільготнасьці і зольнасьці вызначаецца для ўсіх узятых узораў.

Цеплатворная здольнасьць і зьмест серы вызначаецца ў сярэдніх пробах, пры чым робіцца наступная колькасьць вызначэньняў у залежнасьці ад разьмераў плошчаў балот: пры плошчах балот на кожныя 200 гэкт. па аднаму вызначэньню.

*Увага* 2. Калі заяўнік робіць аналізы ў другой установе, апошняму выдаюцца ўзоры, а агульны кошт работ зьніжаецца ў разьмеры кошту працы па вядзеньні аналізу ўзятых узораў паводле расцэнкі (п. 4, разьдзел VI).

2. У рахунак вызначанай у разьдзелах I і II платы заяўніку выдаецца адна копія пералічаных вышэй дакумэнтаў.

## VI.

За выдачу па просьбе заяўніка паўторных копій дакумэнтаў бярэцца плата:

1. За копіі з плянаў балот плошчаю:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| да 10 гэкт. | | 8 руб. | | | | |
| ад 11 " | да 50 гкт. | за перш. | 10 гкт. | 8 р. | за апошн. | па 15 к. гкт. |
| " 51 " | " 100 | " " " | 50 | " 14 " " | " " | 10 " " |
| " 101 " | " 500 | " " " | 100 | " 19 " " | " " | 4 " " |
| " 501 " | " 1000 | " " " | 500 | " 35 " " | " " | 3 " " |
| больш 1000 гэкт. | | | 1000 | " 50 " " | " " | 2 " " |

2. За копіі з профіляў уздоўжнага нівеліраваньня аднаго кілёмэтра па 2 р. 50 к.

3. За копіі другіх тэхнічных дакумэнтаў—2 руб. за аркуш на чатыры старонкі.

4. За вядзеньне аналізаў па жаданьні заяўнікаў больш нормы, паказанай у разьдзеле IV пункт 2 і увагі да пункту 4, а таксама і за аналізы, не зьвязаныя з работаю па дасьледваньні, бярэцца наступная плата:

На батанічны склад—50 к., ступень распаду—1 руб., вільготнасьць—1 р. 85 к., зольнасьць—1 р. 85 к., цеплатворная здольнасьць —7 р. 50 к., сера—5 руб. і шлакаваньне залы—15 руб.

## VII.

Належачая паводле памянёных у разьдзелах I—VI ставак плата складае спэцыяльныя сродкі Народнага Камісарыяту Земляробства па

дасьледваньні торпавых балот для ўпарадкваньня і адводу іх для распрацовак торпу на апал і ўносіцца заяўнікамі ў скарбовыя часткі Народнага Камісарыяту Фінансаў на бягучы рахунак у чатыры тэрміны:

а) 25% пры заключэньні дагавору на вядзеньне работ;

б) 30% пры камандыраваньні тэхнічнага пэрсаналу на месца работ;

в) 20% пры скончэньні плянавых работ і

г) 25% пры атрыманьні копій дакумэнтаў.

Ўсе памянёныя работы вядуцца асобным тэхнічным пэрсаналам, што ўтрымоўваецца на спэцыяльныя сродкі.

*Увага.* Парадак расходваньня сум, атрыманых ад заяўнікаў, на падставе разьдзелаў I—VI, вызначаецца інструкцыяю Народнага Камісарыяту Земляробства, узгодненаю з Народным Камісарыятам Фінансаў.

VIII.

Гэтыя таксы за дэтальнае дасьледваньне торпавых балот прадугледжваюць летні пэрыяд часу—з 16 красавіка да 16 кастрычніка 1928 году.

Пры дасьледваньні-ж ўвосень і ўвёсну з 16 сакавіка да 16 красавіка і з 16 кастрычніка да 1 сьнежня таксы павялічваюцца на 25%, а ў зімовы час з 1 сьнежня да 16 сакавіка таксы павялічваюцца на 30%.

---

## 9. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

ПРА АДЛІЧЭНЬНІ НА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫЯ, СПРОБНЫЯ І АГРАНАМІЧНЫЯ РАБОТЫ З ПРАМЫСЛОВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, ШТО ПЕРАПРАЦОЎВАЮЦЬ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫ СЫРЭЦ.

Эканамічная Нарада пры СНК БССР, каб дапоўніць свае пастановы за 17/XII-1927 г. і за 23/V-1928 г., пастанаўляе:

1. Абавязаць ўсе прадпрыемствы, якія падпарадкаваны рэспубліканскім і мясцовым дзяржаўным органам і капярацыі БССР і займаюцца перапрацоўкаю сельска-гаспадарчага сырцу, рабіць з 1-га кастрычніка 1927 г. адлічэньні на навукова-дасьледчыя і спробныя аграномічныя работы ў наступных разьмерах:

а) у бравaрнай прамысловасьці: 0,5 к. за 1 вядро выробленага сьпірту 40°

б) „ крухмальна-патачнай { 6 к. за 1 цэнтнер апрацаванай кукурузы; 3 к. „ „ „ „ бульбы }

в) „ піваварнай прамысловасьці: 12 к. за цэнтнер апрацаванага соладу

г) „ маслабойнай „ 12 к. „ „ „ льнянага і канаплянага семя

д) „ льнанай „ 50 к. „ „ „ лёну—валакна і пянькі.

2. Адлічаныя сумы (арт. 1) прадпрыемствы павінны неадкладна пасьля скончэньня кварталу пераводзіць на спэцыяльны рахунак ВСНГ БССР з тым, каб сумы гэтыя выдаткоўваліся толькі на агрыкультурныя мерапрыемствы ў межах БССР паводле каштарысаў

Народнага Камісарыяту Земляробства, узгодненых з ВСНГ і зацьверджаных Народным Камісарыятам Фінансаў.

*Увага.* Прадпрыемствы, якія не складаюць квартальных калькуляцый, уносяць належныя адлічэньні па кварталах авансамі, паводле арыентыровачных даных, а канчатковы разрахунак робіцца ў канцы году.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР **В. Крывіцкі.**

7 ліпеня 1928 г.

---

## 10. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

ПРА ПАРАДАК ВЫКАНАНЬЯ ДАМАКІРАЎНІЦТВАМІ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫХ АБАВЯЗКАЎ, УСКЛАДЗЕНЫХ НА ІХ ПАСТАНОВАЮ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР ЗА 15 ЧЭРВЕНЯ 1927 Г. (З. З. БССР 1927 Г., № 31 АРТ. 155).

1. Беспасрэднае выконваньне адміністрацыйных абавязкаў, пералічаных у пастанове Савету Народных Камісараў БССР за 15 чэрвеня 1927 г. (З. З. БССР, 1927 г. № 31 арт. 155), ляжыць:

а) у дамаўладаньнях, якія знаходзяцца ў распараджэньні гарадзкога аддзелу камунальнай гаспадаркі і заняты паасобнымі кватэрантамі, на спэцыяльна вызначаных аддзелам камунальнай гаспадаркі загадчыках дамоў;

б) у дамаўладаньнях, занятых установамі і прадпрыемствамі, на камэндантах гэтых устаноў і прадпрыемстваў;

в) у дамаўладаньнях, занятых жылішчнымі таварыствамі, жылішчна-арэнднымі і жылішчна-будаўнічымі каперацыйнымі арганізацыямі, камунамі і г. д.—на старшынях кіраўніцтваў памянёных арганізацый, а там, дзе кіраўніцтваў няма, на асобах, выбраных на агульных сходах жыхароў дому;

г) у прыватных дамаўладаньнях,—на дамаўласьніках альбо іх арэндатарах, калі дамаўладаньне цалком знаходзіцца ў арэндзе.

2. Дамаўладаньні, паказаныя ў пунктах „а", „б", „в" арт. 1, выдаюць патрэбныя даведкі на блянках з сваім штампам і падпісаныя адказнаю асобаю; прыватныя дамаўласьнікі да сваіх даведак прыкладаюць свае пячаткі (калі ў іх яны ёсьць) і падпісваюцца. Узор пячатак і подпісаў павінны накіраваць той установе міліцыі, у раёне якой знаходзіцца дамаўладаньне.

3. Подпісы на даведках, выдадзеных прыватнымі дамаўласьнікамі альбо арэндатарамі (але толькі ня зьмест даведак) сьведчацца ў канцылярыях устаноў міліцыі, у раёне якіх знаходзяцца дамаўладаньні. Подпісы-ж загадчыкаў камунальных дамоў, камэндантаў і членаў кіраўніцтваў, каперацыйных арганізацый могуць ня сьведчыцца калі даведка выдадзена на блянку з штампам і пячаткаю.

4. Калі даведка патрэбна самаму прыватнаму дамаўласьніку альбо каму-небудзь з яго сям'і, то яна павінна быць выдадзена тою ўстановаю міліцыі, ў раёне якой знаходзіцца дамаўладаньне.

5. Праверка пры прапісцы вайскова-павінных і дапрызыўнікаў іх падлічальна-вайсковых дакумэнтаў, прадугледжаная арт. 10 і п. п. „а" і „б" арт. 11 пастановы аб адміністрацыйных абавязках, павінна выяўляцца ў праверцы наяўнасьці на руках падлічальна-вайсковага дакумэнту, знаходжаньня вайскова-павіннага на падліку ў мясцовым вай-

скова-падлічальным органе і ў паведамленьні гэтага органу аб усіх асобах, што ня выконваюць правілаў падліку.

6. Пры выкананьні адміністрацыйных абявязкаў, паказаных у арт.арт. 13, 17, 18, 19 і 20 пастановы, адказныя прадстаўнікі дамакіраўніцтваў павінны строга выконваць усе распараджэньні і тлумачэньні фінансавых інспэктароў свайго раёну па пытаньнях аб накладаньні падаткаў і спагнаньні іх.

7. Адказныя прадстаўнікі дамакіраўніцтваў, якія ня выконваюць адміністрацыйных абавязкаў, пералічаных у пастанове за 15 чэрвеня 1927 г. без законных на тое падстаў, плацяць штраф да 100 р., які накладаецца ў адміністрацыйным парадку.

Народны Камісар Ўнутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

7-га ліпеня 1928 г.

Узгоднена з { НКФ.—18|V-28г. № 131-33.
НКВМ.—16|VI-28г. за № 985.
НКЮ.—22|V-28 г. за № 2808-1.

---

Выдадзена на падставе і ў разьвіцьцё I і III часткі Вэтэрынарнага Статуту БССР.

## 11. Палажэньне пра транспартны вэтэрынарна-санітарны вучастак БССР.

### I. Агульныя палажэньні.

§ 1. Для ажыцьцяўленьня асноўных задач дзяржаўнай вэтэрынарыі ў справе арганізацыі вэтэрынарна-санітарнага нагляду за перавознаю жывёлаю, птушкамі і сырымі жывёлавамі прадуктамі па чыгунках, вадзяных і грунтавых шляхох утвараюцца транспартныя вэтэрынарна-санітарныя вучасткі.

§ 2. Транспартныя вэтэрынарна-санітарныя вучасткі маюць на мэце: папярэджваньне распаўсюджваньня гандлёва-прамысловаю жывёлаю і жывёлавым сырцом заразных хвароб, забясьпечаньне вэтэрынарна-санітарнага дабрабыту іх пры перавозцы і ахову народнага здароўя ад пошасна-заразных хвароб, агульных жывёле і чалавеку.

§ 3. Тэрыторыяльны разьмер транспартнага вэтэрынарна-санітарнага вучастку і колькасьць чыгуначных станцый ці рэчных прыстаняй, што ўваходзяць у яго і на якіх дазваляецца павагонная (парцыённая) пагрузка і выгрузка жывёлы і сырцу, устанаўляецца акрговым зямельным аддзелам пасьля ўзгадненьня з Кіраўніцтвам чыгунак і параходстваў на падставе падліку фактычнай работы станцый і прыстаняй па адпраўленьні і прыбыцьці жывёлы і жывёлавага сырцу, пры чым разьмер вучастку (даўжыня чыгуначнай і вадзяной лініі) не павінен перавышаць 100 кілёмэтраў.

§ 4. Сьпісы транспартных вэтэрынарна-санітарных вучасткаў складаюцца Народным Камісарыятам Земляробства паводле паданьняў акруговых зямельных аддзелаў і пасьля папярэдняга узгадненьня з Народным Камісарыятам Шляхоў зацьвярджаюцца Саветам Народных Камісараў БССР.

*Увага.* Адчыненьне новых станцый і прыстаняй для апярацый з жывёлаю і сырцом, а таксама зачыненьне існуючых станцый і прыстаняй робіцца парадкам, паказаным ў §§ 3—4.

§ 5. Штаты вэтэрынарнага пэрсаналу вучасткаў устанаўляюцца Народным Камісарыятам Земляробства ў адпаведнасьці з тыповымі штатамі транспартнага вэтэрынарна-санітарнага нагляду Народнага Камісарыяту Земляробства і паведамляюцца Народнаму Камісарыяту Шляхоў.

§ 6. Кіраваньне вучасткамі транспартнага вэтэрынарна-санітарнага нагляду, кіраваньне іх дзейнасьцю і кантроль ускладаецца ў адпаведнасьці з заканадаўствам чыгунак і вадзяных шляхоў на Аддзел Сельскай Гаспадаркі і Вэтэрынары Народнага Камісарыяту Земляробства праз акруговыя зямельныя аддзелы, у раёну якіх гэтыя пункты знаходзяцца.

§ 7. Вэтэрынарныя лекары транспартных вэтэрынарна-санітарных вучасткаў запрашаюцца на службу, перамяшчаюцца і звальняюцца са службы, акруговымі зямельнымі аддзеламі ў адпаведнасьці з Кодэксам Законаў аб Працы і арт. 77 Вэтэрынарнага Статуту пасьля ўзгадненьня з адпаведным Аддзелам Саюзу „Мэдсанпрацы", з наступным паведамленьнем Народнага Камісарыяту Шляхоў і з пэрсанальным падлікам іх ва ўстаноўленым Народным Камісарыятам Земляробства парадку.

§ 8. Вэтэрынарныя санітары запрашаюцца і звальняюцца са службы вэтэрынарнымі лекарамі загадчыкамі вэтэрынарна-санітарных вучасткаў з наступным зацьверджаньнем акруговых зямельных аддзелаў.

§ 9. Работа транспартнага вэтэрынарнага пэрсаналу павінна праводзіцца паводле арт. 95 Кодэксу Законаў аб Працы і палажэньня аб вызначаным часе ва ўстановах лекава-санітарнага і вэтэрынарнага тыпу, зацьверджанага Народным Камісарыятам Працы СССР 4/X—1927 г. № 307 („Известия Н. К. Труда СССР" 1927 г. № 46/47) і рэгулявацца правіламі ўнутранага парадку данай установы, выданымі акруговымі зямельнымі аддзеламі пасьля ўзгадненьня з Саюзам „Мэдсанпрацы" і органамі Народнага Камісарыяту Шляхоў.

§ 10. Транспартныя вэтэрынарна-санітарныя вучасткі маюць свае штампеля і пячаткі ўстаноўленага Аддзелам Сельскай Гаспадаркі і Вэтэрынары ўзору.

## I. Фінансаваньне і абсталяваньне.

§ 11. Транспартныя вэтэрынарна-санітарныя вучасткі адносна заработнай платы і вэтэрынарна-санітарнага абсталяваньня фінансуюцца Народным Камісарыятам Земляробства праз адпаведныя акруговыя зямельныя аддзелы і за рахунак крэдытаў, што асыгноўваюцца ў каштарысе Народнага Камісарыяту Земляробства.

§ 12. Начыньнем і дэзынфэкцыйнымі і спэцыяльнымі дыагнастычнымі сродкамі забясьпячаюцца вэтэрынарныя вучасткі Народным Камісарыятам Земляробства паводле устаноўленых нормаў.

§ 13. Пры кожнай чыгуначнай станцыі і прыстані, якая робіць павагонную (парцыённую) пагрузку і выгрузку жывёлы і жывёлавага сырцу, дзе ўтворан транспортны вэтэрынарна-санітарны вучастак, павінны знаходзіцца абсталяваныя Народным Камісарыятам Шляхоў прылады і памяшканьні, а дакладна: а) нагрузачныя і выгрузачныя плятформы, б) вагоны для трыманьня транспартуемай жывёлы, а ў выпадках карантына-ізалятары і в) памяшканьні для вэтэрынарнага нагляду.

*Увага.* Тыповыя нормы будынкаў і абсталяваньняў вэтэрынарна-санітарных пунктаў вызначаюцца пасьля ўзгадненьня Народнага Камісарыяту Земляробства з Народным Каісарыятам Шляхоў.

## III. Кампэтэнцыя, правы і абавязкі пэрсаналу вучасткаў.

*А. Загадчык вэтэрынарна-санітарнага вучастку—вэтэрынарны лекар.*

§ 14. Загадчыкам транспартнага вэтэрынарна-санітарнага вучастку зьяўляецца вэтэрынарны лекар, адказны ў вэтэрынарна-санітарных адносінах за ўсю дзейнасьць вучастку; пад яго беспасрэдным ведамам (адміністрацыйным і спэцыяльным) знаходзіцца вэтэрынарны санітар вучастку.

§ 15. У сваіх дзеяньнях для ажыцьцяўленьня вэтэрынарна-санітарнага нагляду за перавознаю жывёлаю і сырымі жывёлавымі прадуктамі вэтэрынарны лекар павінен кіравацца Вэтэрынарным Статутам і выданымі Народным Камісарыятам Земляробства ў разьвіцьцё яго правіламі, палажэньнямі і інструкцыямі, а таксама мясцовымі абавязковымі пастановамі акруговага выканаўчага камітэту.

§ 16. У кампэтэнцыю вэтэрынарнага лекара для ажыцьцяўленьня вэтэрынарна-санітарнага нагляду на транспарце ўваходзіць:

а) абгляд усяе прызначанай для адправак і выгрузак жывёлы, птушак і сырых жывёлавых прадуктаў, уключаючы перавозныя транзітам, а таксама абгляд і нагляд за вэтэрынарна-санітарным становішчам вагонаў і суднаў, у якіх перавозіцца жывёла і сырэц, распараджэньне аб адпраўцы вагонаў пасьля выгрузкі з іх жывёлы і сырцу на прамывачную станцыю для ачысткі, прамыўкі і дэзынфэкцыі і нагляд за вэтэрынарна-санітарным становішчам пуці;

б) праверка вэтэрынарных дакумэнтаў, пры якіх жывёла і сырэц прыбылі на станцыю прызначэньня;

в) выдача паводле ўстаноўленай формы вэтэрынарных пасьведчаньняў;

г) вызначэньне ступені бясьпекі ў вэтэрынарна-санітарных адносінах жывёлы і сырых жывёлавых прадуктаў;

д) вызначэньне патрэбных захадаў для спыненьня хвароб, для аховы мясцовай жывёлы ад заражэньня, для абясшкоджваньня ці зьнішчэньня небясьпечных сырых жывёлавых прадуктаў;

е) пастаноўка дакладнага дыягназу выяўляемых хвароб;

ж) ўдзел ў ажыцьцяўленьні памянёных захадаў у межах свайго вучастку;

з) вызначэньне ўмоў прапуску жывёлы і сырых жывёлавых прадуктаў;

і) складаньне ў адпаведных выпадках паводле ўстаноўленай формы актаў ў прысутнасьці прадстаўнікоў чыгуначнай (вадзяной) адміністрацыі, агэнтаў Транспартнага Аддзелу Дзяржаўнай Палітычнай Управы ці Міліцыі, гаспадара жывёлы і сырых жывёлавых прадуктаў, ці яго ўпаўнаважанага;

к) паведамленьне мясцоваму акруговаму зямельнаму аддзелу і зямельным аддзелам акруг пахаджэньня і прызначэньня жывёлавых грузаў, а вучастковаму вэтэрынарнаму лекару аб выяўленьні заразнай хваробы на праганяемай ці перавозімай жывёле і сырых жывёлавых прадуктах;

л) паведамленьне адпаведных вэтэрынарных арганізацый і органаў (акруговых, раённых і вучастковых вэтэрынарных лекароў) аб прыбыцьці хатняй жывёлы і птушак у пункты канчатковага прызначэньня для папасу, выкарму і іншых мэтаў;

м) нагляд за вэтэрынарна-станітарным становішчам вучастку;

н) нагляд за дакладным выкананьнем Вэтэрынарнага Статуту і выданых ў разьвіцьцё яго правілаў пра нагляд за перавознаю хат-

няю жывёлаю, птушкамі і сырымі жывёлавымі прадуктамі, правілаў пра ачыстку і дэзынфэкцыю вагонаў, плятформаў, суднаў, прыстаняў і ўсіх прадметаў, якія ўжываліся для пагрузкі, выгрузкі, перавозкі, паеньня і карменьня пры перавозцы жывёлы;

о) прыцягваньне, калі будзе парушаны Вэтэрынарны Статут, а таксама выданыя ў разьвіцьцё яго правілы, вінаватых асоб да адказнасьці, паводле арт. арт. 110—114 Вэтэрынарнага Статуту беспасрэдна ці праз акруговыя зямельныя аддзелы;

п) зносіны з адпаведнымі ўстановамі і асобамі па службовых справах;

р) вядзеньне справаводзтва і справаздачнасьці па тых сродках, якія выдаюцца на патрэбы вэтэрынарна-санітарнага вучастку—на прадметы вэтэрынарнага забясьпечаньня і на іншыя патрэбы;

с) захаваньне пячаткі і нагляд за цэласьцю усяго інвэнтару, запісанага ў матар'яльную і інвэнтарную кнігу.

§ 17. Транспартны вэтэрынарны лекар робіць лекавую дапамогу транспартуемай жывёле ў мясцох пагрузкі, выгрузкі і паеньня, а таксама жывёле чыгуначнікаў, якія жывуць ў паласе чыгуначнага адчужэньня.

> *Увага.* Умовы вэтэрынарна-лекавай дапамогі жывёле ў паласе транспартных зямель рэгулююцца асобнымі правіламі, што выдаюцца адпаведнымі акруговымі зямельнымі аддзеламі пасьля ўзгадненьня з кіраўніцтвамі чыгункі.

§ 18. Работы па нагляду за вэтэрынарна-санітарным становішчам вучастку вэтэрынарны лекар узгадняе з адпаведным начальнікам вучастку, а санітарна-асьветныя работы—з вучастковымі камітэтамі прафэсыянальнага саюзу чыгуначнікаў (Учкомам) і зьвязваецца ў сваей рабоце з мясцовымі мэдыка-санітарнымі і вэтэрынарнымі арганізацыямі, якія знаходзяцца ў межах вучастку, а калі будуць выяўлены пошасна-заразныя хваробы—паведамляе іх для ўжыцьця належных захадаў.

§ 19. Транспартныя вэтэрынарна-санітарныя лекары даюць пэрыадычную справаздачу ў акруговыя зямельныя аддзелы паводле ўстаноўленых Народным Камісарыятам Земляробства формаў і ў вызначаныя тэрміны.

## *Б. Вэтэрынарны санітар.*

§ 20. Вэтэрынарны санітар выконвае ўсе законныя распараджэньні загадчыка вэтэрынарна-санітарнага вучастку—вэтэрынарнага лекара, паводле правілаў унутранага парадку, якія выдаюцца акруговым зямельным аддзелам.

§ 21. Вэтэрынарны санітар пад кіраўніцтвам вэтэрынарнага лекара выконвае наступную работу:

а) робіць тэрмамэтраваньне жывёлы,

б) абглядае і вызначае моцнасьць тары пры перавозках у апошняй жывёлы (птушак, дробнай жывёлы),

в) абглядае і вызначае трывальнасьць тары і стараннасьць упакоўкі пры перавозцы сырых жывёлавых прадуктаў;

г) правярае правільнасьць адзнакаў ў накладных, №№ вагонаў з жывёлаю і сырцом праз параўнаньне іх у натуры;

д) прыгатаўляе па паказаньні вэтэрынарнага лекара дэзынфэкцыйныя рашчыны;

е) вытварае па паказаньні вэтэрынарнага лекара самую дэзынфэкцыю праз распыленьня дэзынфэкцыйнай рашчыны з гідрапультаў, альбо іншым мэханічным спосабам;

ж) адказвае за чыстату ў службовым памяшканьні і

з) выконвае іншыя законныя распараджэньні вэтэрынарнага лекара.

§ 22. Гэтае палажэньне пашыраецца на ўсю тэрыторыю БССР з моманту апублікаваньня яго ў Бюлетэні СНК БССР.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Ц. Каровікаў.**

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР **Я. Кроль.**

Нам. Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту
Шляхоў пры СНК БССР **А. Іваноў.**

Інспэктар Вэтэрынарнага Бюро НКЗ па Вэт-Сан.
Часьці **М. Жарын.**

---

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА ЎСТАНАЎЛЕНЬНЕ ГРАНІЧНАЙ НАТУРАЛЬНАЙ ПАМОЛЬНАЙ ПЛАТЫ (ЗБОЖЖАМ) ЗА ПЕРАПРАЦОЎКУ НА ДЗЯРЖАЎНЫХ, КАПЕРАЦЫЙНЫХ І ПРЫВАТНЫХ МЛЫНОХ І КРУПАДЗЁРКАХ ЗБОЖЖА СЯЛЯНСКІХ І ІНШЫХ ПРЫВАТНЫХ ПАМОЛЬЦАЎ.

На падставе пастановы Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР за 2 чэрвеня 1928 г. № 115, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць на ўсіх дзяржаўных, каперацыйных і прыватных млынных прадпрыемствах і крупадзёрках, незалежна ад роду рухавіка (механічныя, вадзяныя, конныя, ветраныя і інш.), а таксама ад месца іх знаходжаньня (сельскія, гарадзкія), абавязковую плату за перапрацоўку збожжа сялянскіх і іншых прыватных памольцаў толькі натураю—збожжам і забараніць браць плату за памол ва ўсякай іншай форме.

*Увага.* Плата за памол натураю не пашыраецца на збожжа, якое перапрацоўваецца для дзяржаўных і каперацыйных хлебагандлюючых арганізацый і ваеннага ведамства, для якіх захоўваюцца памольныя стаўкі і сыстэма расплаты, устаноўленыя пастановамі Эканамічнай Нарады БССР за 22/VI 1927 г. і за 18/VIII 1927 г. і Народнага Камісарыяту Гандлю БССР за 14/IX 1927 г. і за 5/II 1928 г.

2. Устанавіць гранічную плату за памол збожжа сялянскіх і іншых прыватных памольцаў на паказаных у арт. 1 млынных прадпрыемствах і крупадзёрках у наступных разьмерах:

| Род памолу. | Колькасьць збожжа (у кілёгр.) за памол 1 цэнтн. (100 кгр.) збожжа. | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | На паравых, нафтавых і інш. мэханічных млынох | | | | | | На вадзяных, ветраных, конных і іншых немэханічных млынох | | | | | |
| | Жыта | Пшаніца | Ячмень | Авёс | Грэчка | Проса | Жыта | Пшаніца | Ячмень | Авёс | Грэчка | Проса |
| | **У гарадох:** | | | | | | | | | | | |
| Просты памол . . . | 8 | 5,5 | 9 | 8 | 10 | 11 | 7,5 | 5 | 8 | 7,5 | 9 | 10 |
| Абойны „ (95%) | 12 | 8,5 | — | — | — | — | 11 | 8 | — | — | — | — |
| Пшанічны аднагатунковы (80%) . . | 17 | 12 | — | — | — | — | 15 | 11 | — | — | — | — |
| Крупа прост. (60-65%) | 12 | 8,5 | 13 | — | 15 | 16,5 | 11 | 8 | 12 | — | 13,5 | 15 |
| Крупа лепш. (40-50%) | 16 | 11,5 | 17,5 | — | 20 | 22 | 14,5 | 10,5 | 16 | — | 18 | 20 |
| | **У сельскіх мясцовасьцях:** | | | | | | | | | | | |
| Просты памол . . . | 7,5 | 5 | 8 | 7,5 | 8 | 10 | 6,5 | 4,5 | 7 | 6,5 | 8 | 9 |
| Абойны „ (95%) | 11 | 8 | — | — | — | — | 10 | 7 | — | — | — | — |
| Пшанічны аднагатунковы (80%) . . | 15 | 11 | — | — | — | — | 14 | 10 | — | — | — | — |
| Крупа прост. (60-65%) | 11 | 8 | 12 | — | 13,5 | 15 | 10 | 7 | 11 | — | 12 | 13,5 |
| Крупа лепш. (40-50%) | 14,5 | 10,5 | 16 | — | 18 | 20 | 13,5 | 9,5 | 14,5 | — | 16,5 | 18 |

*Увага 1.* Плата за памол павінна брацца тою культураю, якая даецца памольцамі для перапрацоўкі, апроч жыта і пшаніцы, якія могуць уносіцца за памол замест іншых культур у паказаных разьмерах.

*Увага 2.* Плата за памол бярэцца за тую колькасьць збожжа, якая фактычна перапрацоўваецца для памольца, ня ўключаючы ў гэтую колькасьць збожжа, атрыманае за памол.

3. Забараніць браць за памол больш устаноўленай гранічнай стаўкі, напрыклад, вотрубі і іншыя адходы, якія павінны цалкам здавацца памольцам, паводле ўстаноўленых Народным Камісарыятам Гандлю норм выхадаў, адходаў і страт пры перамоле.

4. Усё збожжа, атрыманае дзяржаўнымі, каперацыйнымі і прыватнымі млыннымі прадпрыемствамі і крупадзёркамі за памол, апошнія павінны здаваць цалком Хлебапрадукту і мясцовай спажывецкай каперацыі па канвэнцыйнай цане, прычым Хлебапрадукту здаюць млыны і крупадзёркі, якія знаходзяцца ў акруговых гарадох, а таксама ў гарадох—Барысаве, Слуцку, Рэчыцы, Клімавічах і Рагачэве, а спажывецкай каперацыі—млыны, якія знаходзяцца ў сельскіх мясцовасьцях, у мястэчках і ў гарадох, апроч пералічаных.

5. На ўсіх млынных прадпрыемствах і крупадзёрках завесьці штодзённы запіс усяго перамолатага за дзень збожжа, а таксама усяго атрыманага за памол збожжа, па асобных культурах, паказваючы за які памол апошнія атрыманы.

6. Белкапсаюз і Беларуская Кантора Хлебапрадукту павінны арганізаваць закупку іх філіяламі ад млынных прадпрыемстваў і крупадзёрак памольнага збору і ўстанавіць адпаведны кантроль за поўным і сваячасовым атрыманьнем апошняга.

7. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на акруговых інспэктароў гандлю, раённыя выканаўчыя камітэты, сельскія саветы і міліцыю.

8. Гэта пастанова ўваходзіць у сілу з моманту яе апублікаваньня.

9. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюццэ да адказнасьці паводле арт. 141 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

6 чэрвеня 1928 г.
№ 44.

---

Узгоднена з НК РСІ і НК Працы БССР.

## 13. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

ПРА ПАРАДАК ЗАЛІЧЭНЬНЯ Ў РЭСУРСЫ СКАРБУ АСТАЧ НЕСКАРЫСТАНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ ПА ДЗЯРЖАЎНЫМ БЮДЖЭЦЕ НА 1927-28 Г.

*Усім аб'яднаным і неаб'яднаным народным камісарыятам і акруговым фінансавым аддзелам БССР.*

Пастановаю Народных Камісарыятаў Працы, Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і Фінансаў СССР за 19 кастрычніка 1927 г. № 334 (Бюл. Фін. і Гасп. за 1927 г. №30, стар. 2060) установлена, што ўсе крэдыты на заработную плату, нескарыстаныя на беспасрэднае прызначэньне, ня могуць скарыстоўвацца на павялічэньне акладаў іншым пасадам, а павінны быць залічаны ў прыбытак скарбу.

Надаючы асабліва важнае значэньне выкананьню гэтай пастановы, а таксама для ўзгадненьня лічбавых даных касавага выкананьня дзяржаўнага бюджэту з данымі фактычнага выкананьня дзяржаўнага бюджэту па справаздачах ведамстваў аб сумах, сапраўды скарыстаных на заработную плату, Народны Камісарыят Фінансаў БССР, на падставе абежніку Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР за 4 ліпеня 1928 г. №646, прапануе Вам для выкананьня наступны парадак пералічэньня ў прыбытак скарбу нескарыстаных на заработную плату крэдытаў:

1. Усе нескарыстаныя ў 1927-28 б. г. на беспасрэднае прызначэньне крэдыты на заработную плату, якія лічацца на 1-е ліпеня г. г., а ў далейшым за ліпень і жнівень месяцы, з дня наступнага месяца пералічваюцца скарбовымі часткамі Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР, на рахунках якіх гэтыя крэдыты лічацца, з рахунку дзяржаўных выдаткаў у дэпазыт Народнага Камісарыяту Фінансаў у распараджэньне мясцовага фінансавага органу (акруговы фінансавы аддзел), для чаго скарбовыя часткі павінны адчыніць на дзяржбюджэтным балянсе асобны дэпазытны рахунак з назвою: „асобны рахунак нескарыстаных на беспасрэднае прызначэньне крэдытаў на заработную плату".

2. Пералічэньне гэтых крэдытаў робіцца на падставе атрыманых асыгновак-чэкаў ад распарадчыкаў крэдытаў, якія пасьля атры-

маньня гэтага абежніку павінны зараз-жа напісаць асыгноўку-чэк для пералічэньня ў дэпазыт нескарыстаных крэдытаў на заработную плату за ўвесь мінулы час 1927-28 г., а ў будучым рабіць гэта 3 дня кожнага месяца.

3. Сродкі з памянёнага дэпазыту могуць выдаткоўвацца на падставе адпаведных патрабаваньняў распарадчыкаў крэдытаў толькі ў выключных выпадках, напрыклад, на выплату спагнаньняў паводле пастаноў судовых устаноў па працоўных ісках, на выплату выхадной дапамогі і інш., па чэках акруговых фінансавых аддзелаў, якія зьяўляюцца распарадчыкамі гэтых крэдытаў, пры чым на кожны асобны выпадак гэтых выдаткаў акруговы фінансовы аддзел павінен атрымаць ад распарадчыка крэдыту дакумэнт, які паказваў-бы выключнасьць выдатку.

4. На ўсе сумы, якія будуць паводле гэтага распараджэньня пералічвацца на дэпазытны рахунак Народнага Камісарыяту Фінансаў, а таксама і на тыя сумы, якія паводле арт. 3 абежніку будуць сьпісвацца з дэпазытнага рахунку Народнага Камісарыяту Фінансаў, акруговыя фінансавыя аддзелы павінны складаць падрабязныя зьвесткі па каштарысах і каштарысных падзелах і падаваць іх у Народны Камісарыят Фінансаў БССР разам з пэрыядычнаю справаздачаю па дзяржаўным бюджэце.

5. У канцы верасьня г. г. акруговыя фінансавыя аддзелы складаюць чэкі на ўсю суму астач нескарыстанай заработнай платы, якая лічыцца ў яго дэпазыце на 1-е верасьня г. г., для сьпісаньня гэтай сумы з свайго дэпазытнага рахунку на рахунак дзяржаўных выдаткаў па тых каштарысах і каштарысных падзелах, з якіх у свой час яны былі пералічаны распарадчыкамі крэдытаў на дэпазытны рахунак акруговых фінансавых аддзелаў.

6. У апошні дзень бягучага б. году сумы памянёных у арт. 5 чэкаў праводзяцца на аднаўленьне адпаведных крэдытаў у каштарысах і каштарысных падзелах і гэтыя крэдыты разам з усімі іншымі астачамі крэдытаў зачыняюцца звычайным парадкам, апроч тае іх часткі, якая астаецца на выплату заработнай платы за другую палову верасьня, калі паказаная выплата будзе рабіцца ў кастрычніку 1928 году.

Органы Дзяржаўнага Фінансавага Кантролю пры НКФ БССР пры рэвізіі ўстаноў павінны правяраць выкананьне гэтага абэжніку.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Начальнік Кіраўніцтва Дзяржаўнага Фінансавага Кантролю пры НКФ БССР **С. Варушыла.**

Галоўны Бухгальтар Кіраўніцтва Дзяр. Фін. Кантролю пры НКФ БССР **П. Угнявёнак.**

26 ліпеня 1928 г.
№ 8201/7

---

Адказны Рэдактар **М. МАРОЗ**.

## I. ПАПРАЎКІ У № 5(48) БЮЛЕТЭНЮ СНК БССР.

1. У „Інструкцыі НКУС за 30/IV—1928 г. „Пра парадак скарыстаньня ў мірны час мясцовымі органамі НКУС асоб, якія звольнены ад абавязковай вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў“ на стар. 26, § 15, п. „г“ **трэба чытаць:** „г) арт. арт. 80—82, 87, 92 (гл. IX)...“ і г. д.

2. У „Інструкцыі аб прыйманьні, пераводах і выпусках дзяцей у дашкольных установах (дзіцячых садох і ачагох)“ на стар. 27, § 1 замест слоў: ...„прымаюцца дзеці з 3 гадоў“..., **трэба чытаць:** ...„прымаюцца дзеці з 4 поўных гадоў“... Стар. 28, § 7, замест „Увага да п. п. 1 і 7“, **трэба чытаць:** „Увага да п. п. 6 і 7“.

## II. ПАПРАЎКІ І ЗАЎВАЖАНЫЯ ПАМЫЛКІ Ў ГЭТЫМ НУМАРЫ БЮЛЕТЭНЮ СНК БССР.

### *1. Тыповы статут сельска-гаспадарчай арцелі.*

Стар. 9, § 8 **трэба чытаць:** „8. Членамі арцелі могуць быць усе працоўныя ад 18 гадоў, якія маюць выбарныя правы, калі яны займаюцца альбо распачынаюць займацца сельскаю гаспадаркаю ці зьвязанымі з ёю працоўнымі промысламі.

**Увага** 1. Членамі арцелі ня могуць быць асобы, што ўваходзяць членамі ў іншыя сельска-гаспадарчыя калектывы

Увага 2 да гэтага пункту астаецца такою, як надрукавана.

Стар. 9, § 9, п. „в“ словы: **„18-ці гадовы“** выкінуць.

Стар. 11, § 25, 2-гі абзац выкінуць і замест яго чытаць.

„Запасны капітал захоўваецца паводле пастановы ЦВК і СНК СССР“ „Пра парадак складаньня, захоўваньня і выдаткаваньня запасных капіталаў капярацыі“ (З. З. СССР 1928 г., № 34, арт. 299).“

Стар. 15, Увагу 1-ю да § 52 выкінуць, а ўвагу 2-ю лічыць увагаю першаю.

### *2. Тыповы статут сельска гаспадарчай камуны.*

Стар. 18, §8 трэба чытать: „Членамі камуны могуць быць усе прцоўныя ад **18**-ці гадоў, якія маюць выбарныя правы, калі яны займаюцца ці распачынаюць займацца сельскаю гаспадаркаю альбо зьвязанымі з ёю працоўнымі промысламі“.

Увагу да гэтата пункту **выкінуць**.

Стар. 18,§ 9, увага 2: ў тэксьце ўвагі зрабіць папраўку з „16 гадоў“ на "18 гадоў".

Стар. 20, § 25. Замест 2-га абзацу гэтага параграфу чытаць: **„Запасны капітал захоўваецца паводле пастановы ЦВК і СНК СССР“ „Пра парадак складаньня, захоўваньня і выдаткаваньня запасных капіталаў капярацыі“** (З. З. СССР 1928 г., № 34, арт. 299).